*БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ*

# *БАЙРАМ*

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

**Квартальнік**
**Беларускага згуртавання татараў-мусульман**
**"АЛЬ - КІТАБ"**

**№ 1 - 2**

Менск 1996 г.

**Рэдакцыя "Байрама" выказвае падзяку Аляксандру Саламевічу за дапамогу ў выданні квартальніка**

## ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ, ПРАШУ МНЕ ДАРАВАЦЬ

**У "Байраме" №4 за 1995 год у прадмове надрукавана наступнае:"Пётр Кузьміч Краўчанка, які абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, даў згоду прадстаўляць у Заканадаўчым органе нашай краіны інтарэсы беларускіх татараў. Калі ні мясцовыя саветы, ні адміністрацыя не будуць вырашаць важныя для татарына пытанні, то тады звяртайцеся да спадара П.К. Краўчанкі - заступніка народа".**

Пра тое, што П.К. Краўчанка даваў такую згоду — гэта мая выдумка, з ім нават не было аб гэтым размовы. Прашу ў чытачоў прабачэння за дэзінфармацыю. У шаноўнага дэпутата прашу прабачэння за хлусню. Гатоў прыняць пакаранне.

Якуб Якубоўскі

(м) Набор і вёрстка В. Мацюшэнка, 1996 г.

Ассаляму алейкум, спадарыні і спадары,
супляменнікі-татары, усе мусульмане!

Важная падзея, якая адбылася ў жыцці татараў-мусульман Беларусі - Другі мусульманскі з`езд, які праводзіўся ў Мінску 19 студзеня 1996 г. у будынку Дома ветэрана па вуліцы Янкі Купалы, д. 21. Абрана на два гады кіраўніцтва Мусульманскага рэлігійнага аб`яднання Рэспублікі Беларусь.

Ідзе падрыхтоўка да святкавання 600-годдзя пасялення татараў-мусульман на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы. Татары Беларусі, Літвы і Польшчы - нашчадкі тых татар Залатой Арды, якіх запрасіў Вялікі князь Літоўскі Вітаўт у 1397 годзе на вайсковую службу, якія змагаліся пад Грунвальдам поплеч з беларусамі, летувісамі, палякамі, смалянамі і іншымі воямі супроць крыжакоў, а затым і супроць іншых ворагаў Беларуска-Літоўскай Дзяржавы. З XVI стагоддзя татары абаранялі Рэч Паспалітую. Да слаўнага юбілею ідзе падрыхтоўка святочных канцэртаў дзяцей і моладзі Гродна і Менска. З вялікім задавальненнем татары і нашы сябры слухалі выступленне дзіцячага ансамбля "Турначык" ("Журавелька"), які выконвае песні беларускіх паэтаў і кампазітараў, а таксама песні татарскія, іншых народаў нашай Бацькаўшчыны і краін свету.

У гэтым нумары "Байрама" чытач пазнаёміцца з рознымі бакамі жыцця Узбекістана. Чаму мы шмат увагі надаем гэтай дзяржаве? У энцыклапедычным даведніку "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы", над якім працуюць навукоўцы, будзе амаль усё пра нашых татар і сёе-тое пра мусульманскія і цюркскія краіны свету, пра іх прыроду, гісторыю, культуру хоць бы крышачку больш, чым тое, што атрымаў на ўроках і з школьных падручнікаў выпускнік сярэдняй навуковай установы. Зразумела, усё тое, што будзе надрукавана ў нашым энцыклапедычным даведніку, не трэба завучваць і ведаць. На прыкладзе артыкулаў пра Узбекістан, якія мяркуем друкаваць у яшчэ адным нумары "Байрама", чытач убачыць, .. якое кола пытанняў, які аб`ём інфармацыі будзе надрукаваны ў кнізе "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы". Можна дадаць, што каля 40 тысяч узбекаў удзельнічалі на зямлі Беларусі ў вайне з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, каля 4 тысяч з іх спяць вечным сном у зямлі Беларусі. За мужнасць і адвагу многія узбекі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, а 16 за гераічныя подзвігі на гэтай зямлі адзначаны найвышэйшай узнагародай - Залатой Зоркай Героя Савецкага Саюза. Аб гэтых героях напісаны артыкулы на старонках Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Не будзе лішнім надрукаваць пра іх яшчэ раз - у нашым энцыклапедычным даведніку.

29 красавіка беларускія татары пачынаюць святкаванне аднаго з найбольшых нашых мусульманскіх свят - Курбан-Байрам. Да гэтага свята мы не маем магчымасці надрукаваць "Байрам" N 2 1996 г., таму выказваем надзею, што свята будзе радасным і ўсе нашы чытачы будуць шчаслівымі.

# КАЛЯНДАР

ТАТАР-МУСУЛЬМАН БЕЛАРУСІ
на 1996 г.
1416-1417 ХІДЖРЫ

МУФТЭЯТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

МЕНСК 1996

## ПРАДМОВА

**У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!**

*У сем'ях татараў-мусульман, якія жылі да 1939 года ў Польшчы, яшчэ і цяпер можна знайсці мусульманскія календары, якія выдаваў муфтэят у Вільні. У невялічкіх кніжачках памяшчалі месяцы і дні паводле мусульманскага летазлічэння (Хіджры), мусульманскія святы і памятныя дні. Друкаваўся тут жа і еўрапейскі каляндар. У кожным выпуску былі звесткі з гісторыі Ісламу, колькасць татараў-мусульман у кожным джаміяце (парафіі-прыходзе).*

*Па просьбе некаторых татар мы зрабілі спробу аднавіць выданне мусульманскага календара, назваўшы яго проста татарскім календаром, бо нашы чытачы – татары-мусульмане.*

*Акрамя табеля-календара мы памяшчаем у кніжачцы некаторыя звесткі з гісторыі татар і мусульман. Спадзяемся, што некаторыя нататкі будуць для вас цікавымі і можа нават патрэбнымі.*

*Ужо пара складаць каляндар на 1997 год (1417-1418 Хіджра). Дасылайце, калі ласка, артыкульчыкі і вашыя прапановы для календара 1997 года на адрас кіраўнікоў джаміятаў-прыходаў (знойдзеце ў гэтым календары на стар. 57-61) да лістапада 1996 г., каб мы маглі іх выкарыстаць на карысць нашых мусульман.*

**Муфтэят Рэспублікі Беларусь**

---

Для вас, мусульман Беларусі, 1996 год пачаўся з даволі важнай падзеі ў нашым жыцці - у студзені адбыўся II-гі з`езд мусульман, які разгледзеў вынікі працы за прайшоўшыя два гады і вызначыў задачы і напрамкі дзейнасці на новы двухгадовы тэрмін, выбраў муфтэят у складзе 5-ці чалавек, прыняў пастанову з`езда і адозву да Прэзідэнта, Урада і Вярхоўнага Савета Беларусі.

Цяпер нам трэба прыкласці шмат намаганняў, цярплівасці, настойлівасці і ўзважанасці, каб дасягнуць больш відочных вынікаў і нашым адраджэнні.

У гэтым руху мы асабліва спадзяемся на дамову новых адданых нашай справе актывістаў.

Добры след заставілі пасля сваёй працы ў час месяца Рамазана запрошаныя да нас з Турцыі чатыры імамы, якія працавалі ў абшчынах Мінска, Ашмян, Іўя і Узды. Маючы духоўную адукацыю, яны дзяліліся сваімі багатымі ведамі з мусульманамі абшчын і гэтым самым добра прычыніліся да нашай справы адраджэння Іслама на Беларусі.

Але трэба ўпамянуць і нашу няўдачу - у маладой мусульманскай абшчыне Магілёва ў апошні час за кіраўніком абшчыны Расулевым Э.С. сталі прыкмячаць не адпавядаючыя мусульманіну ўчынкі і паводзіны. Таму абшчына на сваім агульным сходзе 3.03. 96 г. адзінагалосна адмовіла яму ў даверы і выбрала сабе новага кіраўніка. Гэты факт гаворыць пра тое, што перш, чым выбіраць каго ў кіраўнікі, трэба добра ведаць яго як чалавека. А на з`ездзе 15-цю галасамі "за"

пры 13-ці "супраць" мы выбралі Расулева членам муфтэята толькі пасля аднаго яго "гладкага" выступу. Цяпер маем клопат, што рабіць і як паступаць.

І ўсё ж наш карабель ідзе сваім курсам. Мы працягваем працаваць над чатырма галоўнымі задачамі, высказанымі І і ІІ з'ездамі.

А неўзабаве мы будзем адзначаць вялікае свята – Курбан-Байрам, якім завяршаецца хадж – паломніцтва мусульман у Мекку. У большасці мусульман свету гэтае свята будуць сустракаць 28. 04. 1996 г. (па хамаілах жа беларускіх татар яно будзе з 29.04. 96 г.)

З нагоды надыходзячага свята кіраўніцтва Мусульманскага аб'яднання - Муфтэят, Згуртаванне "Аль-Кітаб" і рэдакцыя часопіса "Байрам" віншуюць усіх мусульман Беларусі і свету і просяць Усявышняга Аллага даць нам сілы і волю добрасумленна выканаць свой абавязак мусульманіна!
Мір вам і міласць Аллага!

Муфтэй беларускіх мусульман І. Александровіч

## АБВЕСТКА

Шаноўнае спадарства!

Кола навукоўцаў, якія былі паплечнікамі, вучнямі і даследчыкамі дзейнасці Сцяпана Александровіча, звяртаюцца да грамадскасці з прапановай адзначыць 75-годдзе з дня нараджэння вядомага грамадзяніна нашай дзяржавы.

Сцяпан Александровіч жывым словам, у кнігах, у часопісах і газетах прапагандаваў беларускую ідэю па-беларуску. Ён паказаў ролю друкаванага слова ў адраджэнні беларускай літаратурнай мовы, абуджэнні і актывізацыі нацыянальнай, сацыяльна-грамадскай свядомасці, вызваленчага руху народа, а таксама традыцый ўзаемадзеяння дэмакратычна-адраджэнчаскіх сіл Беларусі.

Магчыма таму, што ён быў татарынам, яму ўдалося паслужыць беларускай ідэі і пазбегнуць прамых абвінавачванняў у прапагандзе беларускага нацыяналізму.

Думаем, што вечарына, можа навуковая канферэнцыя ў снежні 1996 г. магла б стаць данінай памяці заслужанаму работніку культуры Беларусі.

Алена Аўрынская, Анатоль Белы, Чэслаў Вайткевіч, Вінцук Вячорка, Тэрэза Голуб, Яўген Гучок, Эмануіл Іофе, Вольга Казлова, Зінаіда Камароўская, Ібрагім Канапацкі, Мацей Канапацкі, Аляксей Каўка, Лілія Коршун, Яўген Лецка, Алег Лойка, Леанід Лыч, Адам Мальдзіс, Віктар Мацюшэнка, Віктар Мінько, Аляксей Рагуля, Іван Саламевіч, Віталь Скалабан, Ганна Сурмач, Анатоль Сарокін, Алена Трусава, Леанід Харкевіч, Іван Цішчанка, Тацяна Якубоўская, Язэп Янушкевіч.

Вашы прапановы пра тое, як арганізаваць і правесці вечарыну ці канферэнцыю, месца правядзення просім даслаць на адрас: 220012, Мінск, пр-т Ф. Скарыны, д. 66-а, Музей Якуба Коласа.

Каб з Вамі можна была скантактавацца, пішыце чытэльна адрас, хатні і службовы тэлефон.

## БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Александровіч Сцяпан Хусейнавіч нарадзіўся 15 снежня 1921 г. ў гар. пас. Капыль. Пасля заканчэння Капыльскай сярэдняй школы (1939 г.) паступіў на філфак БДУ, быў прызваны ў Чырвоную Армію. У час Вялікай Айчыннай вайны служыў у Іране, прымаў удзел у баях у ходзе Керчанска-Феадасійскай аперацыі і ўзяцці Керчы і Феадосіі. Быў цяжка паранены і ўзяты ў палон, адкуль уцёк і вярнуўся на радзіму. З мая 1943 г. – сувязны партызанскай брыгады імя Чапаева № 27 (Капыльскі раён), выканаў некалькі баявых заданняў. Працаваў на педагагічнай рабоце. У 1950 г. скончыў БДУ. У 1958 – 1963 г.г. – старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР і Музея Якуба Коласа. З 1963 г. дацэнт, у 1972 г. абараніў доктарскую дысертацыю, з 1974 г. прафесар БДУ. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1984).

Першыя крытычныя артыкулы і краязнаўчыя нарысы надрукаваў у 1946 г. ў газеце "Літаратура і мастацтва" і інш. Асноўныя працы С. Александровіча прысвечаны даследванню шляхоў развіцця і фарміравання беларускай дакастрычніцкай літаратуры, яе творчых узаемасувязей з брацкімі славянскімі літаратурамі, а таксама гісторыі беларускага кнігадрукавання і перыядычнага друку. Аўтар краязнаўча-біяграфічных нарысаў пра беларускага першадрукара і асветніка Ф.Скарыну, пра Ф. Багушэвіча, Я. Купалу, Я.Коласа, Ц. Гартнага, К.Чорнага і інш. беларускіх пісьменнікаў, аповесцей пра жыццё і творчасць Я. Коласа (" Ад роднае зямлі", 1962 і "На шырокі прастор" 1972), аповесці "Далёкія зарніцы" (1967), падрыхтаваў да друку кнігі твораў Ф. Багушэвіча, К.Каганца, Цёткі, А. Паўловіча і інш.

Сцяпан Александровіч памёр 1 траўня 1986 г. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

Пісьмо з Польшчы

## ГАДАВІНА НА-НАД МЕЖАМІ
### Да 75-годдзя нараджэння Сцяпана Александровіча

Надыходзіць такі час, калі трэба ўжо аглянуцца назад, на пройдзены жыццёвы шлях і паспрабаваць зрабіць уступныя яго падлікі. Прынамсі заахвочвае да гэтага набытая мною дадатковая прафесія - геранталогія.

Зразумела, журналісцкая стыхія і надалей актуальная; ніяк ад яе, увайшоўшую ў кроў, не адарвацца. Лічу, мусіць, справядліва, што

цягу да пяра нельга трактаваць як прафесію. Гэта проста прызванне. Калі апынуўся я ў падначаленай польскаму шпітальніцтву герантлогіі, дык толькі пашырыў тэматыку пісання.

Чаму, аднак, заахвочаны маімі сябрамі, беларусамі, вырашыў ўрэшце падрыхтаваць гэты артыкул з думкаю аб друку ў вашай краіне? Адказ просты: ля вытокаў маёй журналісцкай дзейнасці з`яўляецца беларускамоўны штотыднёвік "Ніва", што ўжо сорак гадоў выдаецца ў Беластоку. Гэтыя вытокі цесна спалучаны ўвогуле з пачаткам грамадска-культурнага беларускага руху на Беласточчыне. Заселенае ў канцы 50-х гадоў часткова беларусамі гэтае ваяводства ад таго часу ўзбагацілася яшчэ адным раздзелам культурнага жыцця. Адгукнуўся я на такую з`яву з асаблівым задавальненнем. Прычына гэтаму сямейная традыцыя, бяручая крыніцу з беларускай татаршчыны, а ўваходзячая каранямі ў яе сівую мінуўшчыну.

- Дык вось, яшчэ ў 1956 годзе звязаўся з "Ніваю". Задэбютаваў у ёй атрыкулам аб Янку Купале, як перакладчыку польскай паэзіі. Незвычайна каштоўным для мяне стымулам, каб працягваць вывучэнне польска-беларускага літаратурнага й ўвогуле культурнага памежжа прыйшоў з Мінска дзякуючы пісьму тагачаснага супрацоўніка літаддзела "Літаратуры і мастацтва" Сцяпана Хусейнавіча Александровіча, менавіта, ад майго супляменніка - татарына. Немалаважны гэты факт! Ацэнка ім маіх першых артыкулаў ў "Ніве", а гэтым самым так прэстыжнага органа, штуршок ідучы з нетраў беларускага інтэлектуальнага асяроддзя і стаўся пуцяводным указальнікам на будучыню! Мяркую, што шаноўны чытач не палічыць маёй нясціпласцю прыгадванне знамянальных слоў С.Х. Александровіча (пісьмо ад 20.09. 1957): "Была ў нас, у рэдакцыі, цёця Уладзя, і я даведаўся Ваш адрас. Прызнацца я ўжо даўно збіраўся напісаць Вам ліст. Мы ў рэдакцыі чытаем Вашыя вельмі слушныя і цікавыя артыкулы ў "Ніве" і з вялікай прыемнасцю змясцілі б Ваш артыкул у нашай газеце".

Вельмі складана ўспрымаю гэты фрагмент першага пісьма С.Х. Александровіча, таму што адначасова балюча... Я ж ніколі не зарэагаваў на так каштоўную прапанову. Толькі зараз пасля столькі ж гадоў, пішу ў беларускі друк. Адзіным суцяшэннем можа толькі быць факт, што артыкул паўстае ў 1996 годзе, калі ў снежні адзначым у Мінску 75-годдзе з дня нараджэння Александровіча. Буду намагацца прынамсі ў самай малай частцы сплаціць доўг нашаму выдатнаму літаратуразнаўцу і пісьменніку, майму сябру, калі выступлю з дакладам пра яго.

Маю вельмі дарагія мне крыніцы, каб падрыхтаваць даклад: пісьмы аўтара "Кніг і людзей", яго працы з дэдыкацыямі, пісьмы польскіх і беларускіх літаратуразнаўцаў з ім звязаных сумежнымі і нават тоесамаснымі доследамі.

Так, ад амаль саракагадовай даўнасці пісьма Сцяпана Александровіча, пачалася мая духоўная прыгода - вялікая - што сёння выразна ўсведамляю. Ёсць яшчэ надта ж важны фактар, дзякуючы якому мог я ў "Ніве" займацца звыш 10 гадоў гэтай дзялянкай беларускага і польскага літаратуразнаўства. Калі б не адносіны да яе тагачаснага галоўнага рэдактара "Нівы" Георгія Валкавіцкага, калі б не вельмі сімпатычнае стаўленне да мяне "таварыша галоўнага" (яго сёння так называю ў пісьмах), не было б маёй вялікай прыгоды.

Зусім нядаўна атрымаў пісьмо ад сваяка, гісторыка, Ібрагіма Барысавіча Канапацкага, цесна звязанага з беларускім згуртаваннем татараў-мусульман "Аль-Кітаб", з запрашэннем да дзейснага ўдзелу ў канферэнцыі, прысвечанай С.Х. Александровічу. Надзеюся, што здароўе паспрыяе (мне пераваліла за 70 гадоў) і апынуся на радзіме бацькавых продкаў з гэтага выпадку. Надзеюся таксама, што давядзецца мне працягваць на гэтых жа старонках плынь далейшых роздумаў пра С.Х. Александровіча. Забавязвае і доўг перад ім, і час уласнага жыцця, і любоў да беларускай татаршчыны.

У гэты момант прыходзіць адна запаветная думка, як шчырае прызнанне:"Божа мой, як усё тутака шчыльна сплецена - і асабістае, таму што сямейнае і агульнае, таму што прасякнутае беларуска-польска-татарскім духам." А як жа ж можа быць інакш на землях, якія ў мінулым складалі адзіны суцэльны абшар!?

Муса Мацей Канапацкі
Сопат, сакавік 1996 года
Польшча

## К У Р ` А Н
### Сура Аль-Араф - Кручы (перашкоды)

1. У імя Аллага Міласцівага і Міласэрнага!

2. Аліф - Лям - Мім - Сад.

3. Пасланне пасланага табе, - у сэрцы тваім не павінна быць таго, што прыгнятае цябе, каб ты мог перасцярэгчы (ад зла) і каб яно было напамінкам для вернікаў (аб Дні Божага Суды).

4. Дык кіруйся тым, што вам паслаў ваш Уладыка, і не ідзіце следам за іншымі апекунамі, акрамя Яго. Як жа мала (з высноў мінулых часоў) вы памятаеце!
5. Як многа гарадоў Мы разбурылі, і кара наша абрынулася на іх ноччу ці калі драмалі яны пасля палудня.

6. І ў імгненне, калі абрынуўся на іх гнеў Наш, яны ў роспачы крычалі толькі такія словы:"Сапраўды, мы былі несправядлівымі!"

7. І Мы спытаем у тых, каму былі пасланы пасланнікі, і , сапраўды, спытаем пасланнікаў.

8. Тады, сапраўды, скажам Мы ім аб справах іх з веданнем, бо ніколі не адсутнічалі Мы.

9. І ў той дзень будзе ўсё ўзважана на дакладных шалях. І тыя, чыя чаша шаляў цяжкая - будуць шчаслівымі!

10. А тыя, чыя чаша шаляў лёгкая, пагубілі свае душы, будучы несправядлівымі да знаменняў Нашых.

11. І мы зрабілі вас моцнымі на зямлі і далі вам сродкі жыўлення на ёй. Якая ж малая ваша ўдзячнасць!

12. Мы стварылі вас, затым Мы далі вам пэўны воблік; і сказалі Мы анёлам:"Адаму (нізка) пакланіцеся!" І тыя пакланіліся перад ім, акрамя (ганарыстага) Ібліса, які адмовіўся быць сярод тых, якія (Божай воляй пакорна) аддаюць паклон.

13. Сказаў Аллаг:"Што перашкодзіла пакарыцца, калі я загадаў табе?" Ён сказаў:"Я лепшы за яго. Ты стварыў мяне з агню, тады як яго Ты стварыў з гліны!"

14. Сказаў Адам:"Тады ідзі прэч адсюль, Не варта табе быць пагардлівым тут. Выйдзі вон; сапраўды, ты з тых, якія зганьбаваны".

15. Ён сказаў:"Даруй мне адтэрміноўку да дня, калі паўстануць яны".

16. Аллаг сказаў:"Будзеж ты адным з тых, каму даравана адтэрміноўка".

17. Ён (Ібліс) сказаў:"Цяпер, бо Ты прысудзіў мяне на пагібель, я не праміну падпільноўваць іх на дарозе простай".
18. "Тады я буду нападаць на іх спераду і ззаду, і справа і злева ад іх, не знойдзеш Ты ўдзячнасці ў большасці з іх".

19. І сказаў Аллаг:"Выйдзі вон адсюль зганьбаваным і ўніжаным. Калі хто пойдзе за табою сапраўды, усімі вамі Я запоўню пекла".

20. "О Адам, жыві ты з жонкай сваей у Раі і спажывайце плады, якія вам хочацца, але не падыходзьце да гэтага дрэва, каб не быць адным з тых, хто чыніць зло".

21. Але стаў іх Шайтан спакушаць, каб адкрыць ім тое, што яны не заўважылі - тое, што яны голыя: і сказаў :"Уладыка ваш забараніў вам

قُلْ إِنَّمَا حَرَّمَ رَبِّيَ ٱلْفَوَاحِشَ مَا ظَهَرَ مِنْهَا وَمَا بَطَنَ
وَٱلْإِثْمَ وَٱلْبَغْيَ بِغَيْرِ ٱلْحَقِّ وَأَن تُشْرِكُوا۟ بِٱللَّهِ مَا لَمْ
يُنَزِّلْ بِهِۦ سُلْطَٰنًا وَأَن تَقُولُوا۟ عَلَى ٱللَّهِ مَا لَا تَعْلَمُونَ ٣٤
وَلِكُلِّ أُمَّةٍ أَجَلٌ ۖ فَإِذَا جَآءَ أَجَلُهُمْ لَا يَسْتَأْخِرُونَ
سَاعَةً ۖ وَلَا يَسْتَقْدِمُونَ ٣٥
يَٰبَنِىٓ ءَادَمَ إِمَّا يَأْتِيَنَّكُمْ رُسُلٌ مِّنكُمْ يَقُصُّونَ عَلَيْكُمْ
ءَايَٰتِى ۙ فَمَنِ ٱتَّقَىٰ وَأَصْلَحَ فَلَا خَوْفٌ عَلَيْهِمْ وَلَا
هُمْ يَحْزَنُونَ ٣٦
وَٱلَّذِينَ كَذَّبُوا۟ بِـَٔايَٰتِنَا وَٱسْتَكْبَرُوا۟ عَنْهَآ أُو۟لَٰٓئِكَ
أَصْحَٰبُ ٱلنَّارِ ۖ هُمْ فِيهَا خَٰلِدُونَ ٣٧

дрэва гэта толькі таму, каб не сталі вы анёламі або каб не сталі бессмяротнымі".

22. І ён пакляўся ім гаворачы: "Сапраўды, добрыя парады даю я вам".

23. Так маной уцягнуў ён іх парушыць забарону. І калі адведалі яны ад таго дрэва, яўным стаў для іх сорам, і сталі яны з лістоў плясці сабе вопратку: "Ці не забараніў Я вам дрэва гэтае і ці не сказаў Я вам: сапраўды, Шайтан вам яўны вораг".

24. Яны сказалі: "Уладыка наш, мы ўчынілі шкоду самім сабе; і калі Ты не даруеш і не памілуеш нас, сапраўды, загінем мы".

25. Ён сказаў: "Ідзіце адсюль прэч, адны з вас будуць ворагамі другіх. І на зямлі ёсць і пракорм на некаторы час".

26. Ён сказаў: "Там вы будзеце жыць, на ёй і паміраць, і з яе выведзены вы будзеце (на Суд Аллага)".

27. О дзеці Адама, сапраўды, далі Мы вам вопратку каб прыкрыць сорам ваш, і (Мы паслалі вам) прыгожае адзенне. Але праведнасць ёсць самая лепшая вопратка. Гэта ёсць адно са знаменняў Аллага, каб вы памяталі гэта.

28. О дзеці Адама, няхай не спакушае вас Шайтан таксама, як спакусіў вашых продкаў, і тым самым быў прычынай выгнання вас з сада, сарваўшы з іх адзенне (цнатлівасці) іх, каб паказаць ім сорам іх. Сапраўды, бачыць ён (Шайтан) вас, ён і племя яго, адкуль вы не бачыце яго. І Мы, сапраўды, паставім шайтанаў абаронцамі тых, якія не вераць.

29. І калі чыняць яны дрэнную справу, яны кажуць: "Мы бачым, як бацькі нашы рабілі гэта, і Аллаг загадаў гэта нам". Скажы: "Аллаг ніколі не загадвае чыніць дрэнныя справы. Няўжо на Аллага будзеце вы гаварыць такое, аб чым не ведаеце самі?"

30. Скажы: "Уладыка мой загадвае быць справядлівымі. І накіроўвайце ўвагу вашу падобным чынам на ўсякі час і ва ўсякім месцы пакланення і звяртайцеся да Яго. І Ён даў вам жыццё, і да Яго вы вернецеся".

31. Адным даў Ён настаўленне; што ж датычыцца другіх, блуканне стала іх удзелам за тое, што ў сябры яны ўзялі сабе шайтанаў, замест Аллага, і думаюць, што атрымалі правільнае настаўленне.

32. О дзеці Адама, паклапаціцеся аб вопратцы вашай ва ўсякі час і ва ўсякім месцы пакланення, і ешце, і піце, але не перабірайце меры, сапраўды, не ўхваляе Ён тых, хто перавышае меру.

33. Скажы: "Хто забараніў тыя цудоўныя дары Аллага, што Ён даў для тых, хто служыць Яму, і тую добрую справу, якой Ён вас жывіць?" Скажы: "Усе гэтыя даброты блізкага (зямнога) жыцця для тых, хто аддаўся Аллагу ўсёй душой, і толькі для іх - у Дзень уваскрасення (на Суд)".

34. Скажы: "Уладыка мой забараніў толькі дрэнныя справы, як яўныя, так і тайныя, і грэх, і пераступленне закону, і далучэнне да Аллага таго, на што не даў Ён дазволу, і забараніў Ён казаць пра Аллага тое, чаго вы не ведаеце".

35. І для кожнага народа ўстаноўлены час, і калі прыйдзе час іх, не змогуць яны спазніцца ні на мінуту, і не могуць яны апярэдзіць час свой.

36. О дзеці Адама! Калі прыйдуць да вас Пасланнікі з вашага асяроддзя, апавяшчаючы вам Мае знаменні, тады ўсякі, хто баіцца Аллага і чыніць добрыя справы, не пазнае ні страху, ні скрухі.
37. А тых, хто палічылі знаменні Нашыя маной і адвярнуўся ад іх з пагардай, -яны ўсе - жыхары агню, і ў ім застаюца навечна.

38. І ці ёсць больш бязбожны за тых, хто няпраўду кажа пра Аллага, хто лічыць непраўдзівымі знаменні Яго? Такіх спасцігне лёс з вечнай Кнігі (назначэнняў). Калі ж за імі прыйдуць пасланцы ад Нас, каб завяршыць іх жыццё (на зямлі), яны ім скажуць: "Дзе ж тыя, каго вы прызвалі акрамя Аллага?" Яны адкажуць: "Не можам мы знайсці іх". І засведчаць яны супраць сябе самых, што былі яны нявернымі.

39. І скажа Ён: "Уваходзьце вы ў агонь, у асяроддзе народаў, якія прайшлі з джынаў і людзей. Кожны раз, калі туды будзе ўваходзіць які-небудзь народ, ён будзе праклінаць другі народ, родны яму, пакуль, нарэшце, калі ўсе яны адзін за другім не ўвойдуць туды і апошні з іх не скажа аб першым з іх: "Уладыка наш, гэта яны спакусілі нас, дык дай ім двайное пакаранне агнём". І скажа Ён: "Для кожнага папярэдняга народа прыгатаванае двайное пакаранне, але не ведаеце вы".

40. І першы з іх скажа апошняму з іх: "Няма ў вас перавагі над намі; дык адведайце пакаранне поўнасцю за справы вашы".

41. Перад тымі, хто знаменні Нашы лічыць выдуманымі і з пагардай адварочваецца ад іх, не ўвойдуць яны ў Рай, пакуль вярблюд не пройдзе праз вушка іголкі. Так адплачваем Мы бязбожнікам.

42. Пекла будзе ім ложкам, і яно будзе ім коўдрай. Так адплачваем Мы неправедным.

43. А тыя, якія вераць і чыняць дабро, - не абцяжарваем Мы ні адну душу звыш здольнасці яе, - яны будуць жыхарамі Раю; і там будуць яны знаходзіцца.

44. І выдалім з іх сэрцаў крыўды; каля ног іх рэкі пацякуць, і будуць казаць яны: "Слава Аллагу, які прывёў нас сюды; не прыйшлі б мы сюды ніколі, калі б Аллаг не прывёў нас да гэтага; нам прынеслі ісціну пасланнікі нашага Уладыкі". І будзе абвешчана ім: "Гэта Рай, падораны ў спадчыну вам, як узнагарода за справы вашыя".

45. І скажуць з Раю тыя, хто знаходзіцца там да жыхароў агню (гараць яны за злачынствы): "Упэўніліся мы ў ісціне таго, што наш Аллаг нам абяцаў?" Яны адкажуць: "Так!" Тады вяшчальнік паміж імі абвесціць: "Праклянцце Аллага на няверных,

46. на тых, хто адхіляў з шляху Аллага (іншых) і намагаўся скрывіць шлях, будучы няверным ў будучае жыццё".

47. І паміж тымі і другімі будуць кручы (перашкода, заслона). А на іх людзі, якія па асобных знаках усіх разрозніваюць. І звернуцца яны да тых, хто ў Рай (прызначаны): "Мір вам!" - хоць самі не ўвайшлі яшчэ ў Рай, але ўсё ж цешацца надзеяй на гэта.

48. Калі ж іх позірк скіруецца на жыхароў агню, яны ўсклікнуць: "Божа наш! З неправеднымі нас не пасяляй!"

49. І тыя, якія на Аль-Арафе будуць знаходзіцца, яны ўсклікнуць, звяртаючыся да людзей, якіх па асобных прыкметах яны пазнаюць (асуджанымі на пекла): "Якую карысць прынесла багацце, намножанае вамі, і тое, чым вы пахваляліся?"

50. І ці не тыя яны, аб кім пакляліся вы, што Аллаг не дасягне іх Сваей міласэрнасцю? (І звярнуўшыся да прапаведнікаў, скажуць:) "Уваходзьце ж у Рай! Не адчуеце вы ні страху, ні скрухі".

51. Жыхары агню звернуцца (з просьбай) да тых, якія знаходзяцца ў Раю: "Дайце нам вады або што-небудзь з таго, чым вас Аллаг (так шчодра) надзяліў". "Аллаг, - адкажуць тыя, - забарону Сваю наклаў на тое і на другое для няверных, -
52. тых, хто веру сваю ператварыў у забаву, і каторыя спакусіліся зямным жыццём". -Дык у гэты дзень забудзем Мы іх, як забыліся яны аб тым, што прыйдзе гэты дзень, і як адкідвалі яны знаменні Нашы.

53. І, сапраўды, далі Мы ім Кнігу, якую Мы выклалі з разуменнем, настаўленне і міласць для вернікаў.

54. Ці чакаюць яны толькі здзяйснення папярэджанняў у ёй? І дзень, калі прыйдзе выкананне іх, тыя, якія перш не памяталі аб іх. скажуць— "Сапраўды, пасланнікі Уладыкі нашага прыняслі ісціну. Ці знойдуцца ў вас заступнікі цяпер, якія за вас заступіцца могуць? Або будзем мы вернуты (на зямлю)? Тады б мы рабілі не так, як рабілі мы раней". Але ўжо загублены іх душы і пакінуць іх тыя, якіх яны шанавалі (акрамя Аллага).

55. Сапраўды, Уладыка ваш - Аллаг, Які стварыў неба і зямлю за шэсць прамежкаў часу; затым усеўся Ён на трон Свой. Ён стварае ноч, якая пакрывае дзень, які хутка наступае за ёй. І стварыў Ён сонца, і месяц, і зоркі, падпарарадкаваныя Яго волі. Сапраўды, Яму належыць стварэнне і ўлада. Блаславёны Аллаг, Уладыка Светаў.

56. Звяртайцеся да Уладыкі нашага з пакораю і тайна. Сапраўды, Аллаг не любіць тых, хто пераступае (межы, устаноўленыя Ім).

57. І не сейце смуту на зямлі пасля таго, як парадак умацаваны на ёй, і звяртайцеся да Яго са страхам і надзеяў. Сапраўды, міласць Аллага блізкая для тых, хто чыніць дабро.

58. І Ён ёсць той, Хто пасылае вятры, як добрых звястуноў міласці Яго; пакуль, калі нясуць яны цяжкую хмару, мы гонім іх на зямлю, што мёртвая; затым Мы пасылаем ваду з яе і так ствараем розныя плады. І падобна таму ўваскрашаем Мы мёртвых, каб помнілі вы.

59. З глебы, якая чыстая і высакародная, расліны на ёй узыходзяць багатыя, па загаду Уладыкі яе; дрэнная ж глеба слабы дае ўраджай. Так тлумачым Мы Свае знаменні для тых, хто высакародны.

60. Паслалі Мы Нуга (Ноя) народу яго, і сказаў ён:" О народ мой, пакланяйцеся Аллагу, няма ў вас Бога акрамя Яго. Сапраўды, за вас я кары Дня вялікага баюся".

61. Старэйшыны яго народа сказалі: "Сапраўды, бачым мы, што ты яўна памыляешся".

62. Ён (ім) сказаў: "О мой народ! Няма блытаніны ў мяне. І я - пасланнік да вас ад Уладыкі светаў.

63. Я вам нясу пасланне ад майго Уладыкі, і вам параду даю (што ад Яго зыходзіць). Я ведаю ад Аллага тое, што вам (пакуль) невядома.

64. Ці таму вы здзіўлены, што павучэнне паслана вам ад Уладыкі вашага праз чалавека з асяроддзя вашага, каб мог ён перасцярагчы вас, і каб маглі вы стаць праведнымі і каб міласць была аказана вам?"

65. Яны ж палічылі яго ілгуном. І мы выратавалі яго і тых, хто з ім (быў) у каўчэгу, і патапілі тых, хто палічыў знаменні Нашыя маною. Гэта быў, сапраўды, сляпы народ!

66. Адзянам (людзям з племя Ад) Мы паслалі Гуда, брата іх. І ён сказаў: "О мой народ! Аллагу пакланяйцеся! Акрамя Яго ў вас іншага Бога няма. Няўжо не будзеце баяцца Бога, (сваёй разбэшчанасцю наклікаючы гнеў Яго?"

67. Няверуючыя старэйшыны народа яго сказалі: "Сапраўды, бачым мы, што ты стаў безразважным, і мы лічым, што ты - ілгун".

68. Ён сказаў: "О народ мой, няма ў мяне безразважнасці; я пасланнік ад Уладыкі светаў.

69. Я вам нясу пасланне майго Уладыкі, і я для вас - дарадчык верны.
70. Ці таму вы здзіўлены, што павучэнне паслана вам ад Уладыкі вашага праз чалавека з вашага асяроддзя, каб ён перасцярог вас? І ўспомніце, што Ён паставіў вас намеснікамі міласцяў Сваіх пасля народа Нуга, і як багата памножыў Ён вас. Памятайце ж міласці Аллага, каб маглі стаць шчаслівымі".

# НАДЗЁННАЕ СЯМІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ АДРАДЖЭННЯ СУПОЛЬНАСЦІ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН У ПОЛЬШЧЫ

Самай вялікай падзеяй у 1995 годзе ў жыцці супольнасці татараў-мусульман у Польшчы было сямідзесяцігоддзе арганізацыйнага адраджэння нашага народа. Усепольскі Мусульманскі Кангрэс, які адбыўся 28-29 снежня ў Вільні, даў пачатак гэтаму адраджэнню пасля Першай Сусветнай вайны.

Горад Беласток быў месцам святкавання гадавіны. У Беластоку знаходзяцца цэнтральныя ўлады Мусульманскага рэлігійнага саюза і Саюза польскіх татар. Цяпер у горадзе жыве звыш тысячы ісламітаў, як часам завём сябе. Гэта амаль чацвёртая частка нашых адзінаверцаў у краіне.

Урачыстасці распачаліся набажэнствам у Беластоцкім Цэнтры Ісламу (ён быў створаны мусульманскімі краінамі і мусульманамі, якія жывуць у Польшчы). Гэта сталася 29 снежня і ў той жа дзень увечар, у Беластоцкай філармоніі сабралася некалькі соцень жыхароў горада - мусульман, католікаў, праваслаўных, евангелістаў - тут усе жывуць дружна, разам працуюць, вучацца, нягледзячы на тое ці іншае веравызнанне, у выніку мяшаных шлюбаў, парадніліся ...

Гаспадарамі гэтага вечара былі старшыня Вышэйшага калегіума Мусульманскага рэлігійнага саюза Ян Сабалеўскі, узначальваючая Беластоцкую умму Галіна Шагідэвіч, імам Аляксандр Халецкі з жонкай, супрацоўніцай Беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта, татаразнавец доктар Алі Міськевіч. Рыма-каталіцкую грамадскасць горада прадстаўляў Беластоцкі мітрапаліт, ксёндз архіепіскап Станіслаў Шымецкі, а царкву - святар-капітан Аляксей Войцюк з Праваслаўнага Ардынарыята Войска Польскага. Прысутнічалі таксама прадстаўнікі уладаў горада, мясцовага вайсковага гарнізона, грамадскіх і культурна-асветных арганізацый, прадстаўнікі партый розных ідэалогій.

Прывітаў усіх Ян Сабалеўскі. Філарманічны аркестр выканаў польскі дзяржаўны гімн. Аб гэтай знамянальнай гадавіне гаварыў у дакладзе прадстаўнік татарскіх старэйшын Муса Канапацкі. Ніжэй змяшчаем поўны змест яго выступлення.

Вечар быў прадоўжаны аркестрам Беластоцкай філармоніі пад кіраўніцтвам маэстра Яцэка Міраслава Блашчыка. У праграме канцэрта былі па-майстэрстку выкананыя наступныя творы: "Казка" Станіслава Манюшкі, "Палавецкія танцы" Аляксандра Барадзіна, "Стэп" Зыгмунта Наскоўскага.

Урачыстасць завяршылася сяброўскай сустрэчай яе ўдзельнікаў. Падчас яе выступаў хор старадаўняй песні імя Станіслава Манюшкі.

Наступны дзень быў знамянальны пашыраным урачыстым пасяджэннем Вышэйшага Калегіума Мусульманскага рэлігійнага саюза. У пасяджэнні ўдзельнічалі нашыя дарагія госці з Беларусі і

Літвы. Старшыня Калегіума зачытаў тэксты прысланых у адрас арганізатараў урачыстасці тэлеграм. М. Канапацкі азнаёміў са зместам прысланых яму з гэтай нагоды пасланняў польскіх рыма-каталіцкіх іерархаў - Вроцлаўскага мітрапаліта ксяндза-кардынала Генрыка Рамана Гульбіновіча і ксяндза-епіскапа Уладзіслава Мізелка, які стаіць на чале Камісіі па справах міжрэгіянальных сувязей Польскага Епіскапата. Трэба адзначыць, што ксёндз-кардынал Г.Р. Гульбіновіч у сваім пасланні запрашае дэлегацыю нашых мусульман прыняць удзел у экуменічным набажэнстве 31 мая 1997 года ў Вроцлаве. Усе з вялікай павагай аднесліся да гэтага запрашэння, лічачы яго яшчэ адным гістарычным актам на карысць збліжэння паміж нашымі вялікімі сусветнымі рэлігіямі.

Падчас пасяджэння абмяркоўваліся актуальныя праблемы рэлігійнага і грамадскага жыцця татар-мусульман у Польшчы. Была таксама спроба заглянуць у бліжэйшую будучыню, асабліва кіруючыся дбайнасцю зберажэння духоўнай спадчыны продкаў у непарушаным стане.

У агульнай малітве ўсе прасілі Міласэрнага Аллага, каб бараніў нашу татарска-мусульманскую абшчыну ад усялякіх згубных уплываў сучаснай цывілізацыі. Была выказана падзяка Усявышняму за тое, што ўсе мы дачакаліся гэтай гадавіны ўжо ў III Рэчы Паспалітай.

Друк, радыё і тэлебачанне прысвяцілі нашай урачыстасці нямала ўвагі.

Хасень Чымбаевіч

Выступленне Мусы Канапацкага
на ўрачыстасцях у Беластоку з нагоды 70-годдзя адраджэння
супольнасці татараў-мусульман у Польшчы

## У ІМЯ АЛЛАГА ЛІТАСЦІВАГА І МІЛАСЭРНАГА

## СЯМІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ УСЕПОЛЬСКАГА МУСУЛЬМАНСКАГА КАНГРЭСА (1925 - 1995)

Увекавечваем сёння сямідзесяцігоддзе Усепольскага Мусульманскага Кангрэса. Гэта падзея адбываецца дзякуючы таму, што мы з'яўляемся ўдзельнікамі агульнаграмадскага жыцця татараў у III Рэчы Паспалітай.

Кангрэс працаваў у Вільні 28 і 29 снежня 1925 года.

Узнёсласці настрою ўдзельнікаў той падзеі надавала ўсведамленне гістарычнага моманту. Быў гэта час агульнага ўздыму, радасці вяртання народу самастойнага жыцця, перш за ўсё радасці ад умацавання ўласнай дзяржаўнасці пасля перыяду паўстанцкіх гераічных чынаў і легіённых бітваў, у якіх бралі ўдзел таксама і татары. Аб тых патрыятычных чынах нашых продкаў, увогуле на працягу вякоў, вітаючы Кангрэс ад імя нашых продкаў, гаварыў віленскі

ваявода Альгерд Маліноўскі. Ён сцвердзіў, што грамадскасць польскіх мусульман: "Складае частку верных, мужных і ўзорных грамадзян Рэчы Паспалітай, а ў час патрэбы самаахвярных яе абаронцаў".

Віленскі Кангрэс, гэта надзвычайна знамянальная падзея ў навейшай гісторыі татар Рэчы Паспалітай, мы разглядаем як вынік нязломнай волі тагачасных прадстаўнікоў супольнасці да поўнай кансалідацыі ў незалежнай ужо сем гадоў нашай дзяржаве. Трэба памятаць, што на землях, якія называлі Усходняй Ускраінай, дзе жылі і татары, вольнасць прыйшла толькі ў 1921 годзе, у выніку Рыжскага трактату, якім закончылася вайна з Савецкай Расіяй. Трэба падкрэсліць, што татары зрабілі свой уклад, удзельнічаючы збройным чынам у гэтай вайне ў вайсковай адзінцы - Палку Уланаў Татарскіх імя Мустафы Ахматовіча. Стварэнне палка падтрымаў Вярхоўны Галоўнакамандуючы Юзаф Пілсудскі.

У Кангрэсе прымалі ўдзел прадстаўнікі мусульманскіх парафій і Саюза татараў з Варшавы. Сярод дэлегатаў знаходзіўся найстарэйшы векам Рамуальд Смольскі з наваградскай парафіі, удзельнік Студзеньскага паўстання 1863 г. Ініцыятарамі Кангрэса была найбольш свядомая група асоб, сярод якіх назаву прафесара адроджанага універсітэта Сцяпана Батуры ў Вільні Стэфана Базарэўскага, Адама Мурзу-Мурзіча, Абдуллу Гаміда Хурамовіча, братоў Лявона і Альгерда Крычыньскіх. Паседжанні праводзіліся пад кіраўніцтвам Аляксандра Ахматовіча.

Усепольскі Мусульманскі Кангрэс перш за ўсё выклікаў да жыцця незалежную, а такім чынам аўтакефальную рэлігійную арганізацыю, названую Рэлігійным Саюзам Рэчы Паспалітай Польскай.Саюз існуе і да сённяшняга дня з перапынкам у час Другой Сусветнай вайны. У той час створана кіроўная ўлада Саюза, Муфтэят Рэчы Паспалітай Польскай. Пачынаючы з 1938 года галоўнай уладай Саюза стала Найвышэйшая Калегія, якая складалася з духоўных і свецкіх асоб. Акрамя таго, зацверджана ўзнікшае некалькі раней грамадска-культурнае задзіночанне, якому надана назва Культурна-Асветніцкі Саюз татараў Рэчы Паспалітай Польскай.

Кангрэс вызваліў каштоўную творчую энергію. Дзякуючы яму, сцвердзілася пачуццё самасвядомасці польскіх татараў, рабілася гэта з нязвыклай энергіяй і самаахвярнасцю. У тыя часы пашырылася выдавецкая дзейнасць, створаны пачаткі айчыннай гісторыяграфіі, архівістыкі, музейнай справы, бібліятэкарства. Нашы прадстаўнікі ўносілі ўклад у польскую навуку, прымалі ўдзел у дыпламатычнай службе; у афіцыйных дэлегацыях прадстаўлялі дзяржаву і ўстанаўлівалі міжнародныя кантакты, у прыватнасці на Блізкім Усходзе. У агульнадзяржаўных структурах Саюза Стралкоў створаны ўласныя аддзелы, у складзе 13 Палка Віленскіх Уланаў быў Татарскі Эскадрон.

Усе гэтыя мерапрыемствы падтрымліваліся дзяржаўнымі і навуковымі ўстановамі. Асабліва каштоўную дапамогу аказвала Міністэрства Рэлігійных Веравызнанняў і Публічнай Асветы,

Міністэрства Вайсковых Спраў, Міністэрства Замежных Спраў, ваяводскія ўстановы ў Вільні, Наваградку і Беластоку. Сярод спрыяльных татарам навуковых устаноў былі Польская Акадэмія Умельства, Польская Акадэмія Літаратуры, Польскае Арыенталістычнае Таварыства, а таксама універсітэты ў Варшаве, Вільні і Львове. Гэты міжваенны кавалак нашай працы апісаў у сваёй кнізе Алі Міськевіч пад назвай "Польскія татары 1918 - 1939 г.г."

Драма верасня 1939 года спыніла такі плённы перыяд татарскіх пачынанняў у II Рэчы Паспалітай Польскай.

Нельга прамінуць наступны факт, які выклікаў значнае расцярушэнне нашай грамадскасці пасля Другой Сусветнай вайны, пасля страты ўсходніх тэрыторый краіны. Тады польскія мусульмане ўсвядомілі сабе, што Рэч Паспалітая адыходзіць з іх родных старон. Прагнучы застацца з Польшчай, пэўная частка нашага насельніцтва рашылася на далёкую дарогу да новых зямель. Пасяліліся галоўным чынам на захадзе і на поўначы краіны. У гэтым годзе адзначылі ў Гажове Велькапольскім пяцідзесяцігоддзе нашага масавага выезду.
Тое, аб чым я да гэтага казаў, з'яўляецца не толькі напамінкам даўнейшых падзей сямідзесяцігадовай даўнасці, але, што належыць спецыяльна падкрэсліць, дазваляе ўсвядоміць, што ў агульнанародным ідэйным цячэнні маем уласны гістарычны шлях з годнымі ўвекавечання постацямі і падзеямі.

Усё, што адбілася на сучасным стане польскіх татар, было выпрацавана і перажыта многімі мінулымі пакаленнямі. Ім мы абавязаны за родную спадчыну, уласны свет, з якога выйшлі! На шчасце, мы і надалей застаемся моцныя духам, маем псіхалагічныя і грамадскія ідэялы, якія ёсць вынік вельмі працяглага развіцця нашай абшчыны. Гэта менавіта яны, гэтыя рысы характару, якія фарміраваліся стагоддзямі аказаліся выратавальнымі фактарамі выжывання татар у немусульманскім атачэнні. Клапатліва выхоўваючы гэтыя рысы характару, развіваючы іх, павінны тым самым жа ацаліць дарага аплочанае ўласнае арыгінальнае аблічча, адначасова падтрымліваць існаванне абсалютнай праўды пра чалавека з усімі магчымымі яе адценнямі на Зямлі. Неабходным будзе ў гэтым пытанні ўважлівы погляд на нашу інакшасць, асаблівасць у коле людскім. Чым жа асаблівасць гэта з'яўляецца і да чаго яна можа давесці? Дазволю сабе спаслацца на думку сусветна вядомага псіхолага, сацыёлага і антраполага Жака Р. Конрада, які казаў: "Калі чалавек у рэшце рэшт не прызнае, што асобнасць людская ёсць тым, чым ёсць па сутнасці: завяшчаннем пакінутым перамогай яго фізіялогіяй, яго розумам і ўяўленнямі над вялікімі цяжкасцямі, якія спатыкаў, - то пагражае яму пагібель. Павінен ён навучыцца належным чынам трактаваць два віды выгляду, якія так непакоілі яго праз усю яго гісторыю. Гэта розніца выгляду і звычаяў. Памылковае разуменне значэння гэтай розніцы была прычынай многіх зверстваў чалавека

супроць бліжніх, цяпер жа прыводзіць яно не толькі да знішчэння гэтай розніцы, але таксама да знішчэння самаго чалавецтва".

Я ўчыніў гэтае адступленне дзеля таго, каб яшчэ лепш усвядоміць, як неабходна наша дбаласць аб духоўным багацці, аб нашай культурнай субстанцыі.

Далёка, у іншай краіне ёсць той горад - месца Усепольскага Мусульманскага Кангрэса. Толькі насуперак гістарычным абставінам Вільня і надалей яснее ў нашым унутраным свеце, які ахоплівае ўсе асяродкі на тагачасным усходзе II Рэчы Паспалітай, якія стагоддзі таму былі нашай радзімай. Увекавечваючы гэту гадавіну на Беласточчыне, на сённяшні дзень найбольшым асяродку татар у краіне, тым больш рашуча адзначаем яго ролю як дастойнага спадкаемцы нашага інтэлектуальнага жыцця ў перадваеннай Вільні.

Зыходзіць час, які нас сюды сабраў. Завяршаем гэты сямідзесяцігадовы перыяд. У гэтыя юбілейныя мінуты мы, мусульмане, адказваем узаемнасцю хрысціянскаму наваколлю ўзрушанай падзякай за тое, што вы былі з намі. Лічым гэтае спатканне добратворным, бо адвечны бег падзей спалучае на супольнай зямлі і пад тым самым небам "людзей Кнігі", як называе наш святы Кур`ан тых, хто вызнае вялікія нябесныя рэлігіі.

Гісторыкам ужо пакінем развагі над мінулым часам. Нам жа няхай застанецца ўдзел у пастаяннымі вырашэнні тых абавязкаў перад нашай супольнасцю, якія маюць на мэце зберажэнне самасвядомасці перад усялякімі пагрозамі цывілізацыі, асабліва перад драпежным уніфармізмам пад рознымі яго пастацямі.

Увекавечваючы сямідзесяцігоддзе нашага адраджэння сёння, у III Рэчы Паспалітай, усім тым, хто да гэтага спрычыніўся і тым, хто канкрэтнымі ўжо справамі напоўніў час пасля 1925 года, складаем нашу найглыбейшую пашану! Павінны яны, гэтыя думкі і справы, разам з заключанымі ў іх неад'емнымі вартасцямі заўсёды натхняць польскіх мусульман на гэтай зямлі і пад гэтым небам.

Дзякуй за ўвагу!

## ІХ ТРАКТУЮЦЬ ЯК ЭКЗОТЫКУ

Пад такім загалоўкам "Газэта выборча" у першым нумары ад 2 студзеня 1996 г. змясціла наступны артыкул. У падзагалоўку сказана: "Беласток. Гадавіна мусульманскіх саюзаў".

Змяшчаем у перакладзе на беларускую мову гэты цікавы для беларускіх татараў матэрыял:

Урачыстасці 70-годдзя са дня заснавання аўтакефальнага Мусульманскага Рэлігійнага Саюза, а таксама Культурна-Асветніцкага Саюза Татараў Рэчы Паспалітай Польскай, адбыліся ў пятніцу 25 снежня 1995 г. ў Беластоцкай філармоніі. Абодва саюзы ўзніклі 29 снежня 1925 г. у Вільні.

- Увекавечваючы ў Беластоку (цяпер найбольшым у краіне асяродку татар) гэту гадавіну, мы акцэнтуем яго ролю як правапераемніка інтэлектуальнага жыцця ў перадваеннай Вільні, - сказаў да ўдзельнікаў Мацей Канапацкі, адзін з самых старэйшых членаў Мусульманскага Рэлігійнага Саюза, аўтар шматлікіх публікацый пра польскіх мусульман.
Ён нагадаў, что ў той час быў абраны муфтэй - рэлігійны глава польскіх мусульман. Сама ж Вільня да Другой Сусветнай вайны была месцам знаходжання абодвух саюзаў. Мацей Канапацкі падкрэсліў: "Нашы прадстаўнікі ўносілі тады вялікі ўклад у польскую навуку, запрашаліся на дыпламатычную службу, бралі ўдзел у афіцыйных дэлегацыях і прадстаўлялі польскую дзяржаву ва ўстанаўленні міжнародных кантактаў, асабліва на Блізкім Усходзе. У агульнадзяржаўных структурах Саюза Стралксў ствараліся ўласныя аддзелы, у складзе XIII аддзелу віленскіх уланаў існаваў татарскі эскадрон. Усе гэтыя справы падтрымліваліся дзяржаўнымі ўстановамі і навуковымі коламі.
Ён дадаў, што продкі сучасных татар прымалі ўдзел ва ўсіх народавызваленчых выступленнях палякаў. Найбольшыя цяжкасці перажылі ў час Другой Сусветнай вайны і ў 1945 г., калі настала "значнае расцярушванне мусульманскай супольнасці (...) і страта ўсходніх тэрыторый краіны".

Ужо пасля афіцыйнага спаткання Ян Сабалеўскі, старшыня Мусульманскага Рэлігійнага Саюза, сказаў "Газэце", што ў гэты час найважнейшым заданнем Мусульманскага Рэлігійнага Саюза з'яўляецца вучоба моладзі.
- Каб азнаёмілася з Ісламам, бо тут у сродках масавай інфармацыі пастаянна бэсціцца Іслам. Дзе штосьці адбываецца, дзе вядзецца вызваленчая вайна, -вінаваты Іслам. А Іслам не з'яўляецца ваяўнічай рэлігіяй, гэта рэлігія міру, якая ніколі са зброяй супраць нікога не выступала, хіба што сама была падвержана небяспецы. І тады вялася абарончая вайна. Таму мы жадаем дзецям тлумачыць Іслам, каб мы не згубілі яго па дарозе.

Па гэтай прычыне за найважнейшую мэту Мусульманскі Рэлігійны Саюз прызнаў будову куранічнай школы у Беластоку (па вуліцы Паморскай).
- Раней там павінен быў быць пабудаваны мячэт, - растлумачыў Сабалеўскі. - Першай -аднак будзе школа. Прышлі да высновы, што маліцца можна ўсюды, у той час, каб вучыць дзяцей, трэба мець сродкі і магчымасці. Найважнейшай жа праблемай мусульманскай парафіі ў Багоніках з'яўляецца, на думку яе кіраўніка, пашырэнне мячэці.

- Мы змагаемся з гэтымі цяжкасцямі ўжо больш за 14 гадоў. Багонікі ў Польшчы з'яўляюцца адным з найважнейшых месцаў традыцыі для мусульман і татараў. Камуністычныя ўлады выказалі згоду на пашырэнне мячэта, але пасля 1989 г. новыя ўлады адазвалі сваю згоду, прызнаючы, што гэта помнік нулявога класа (адзіны ў

сваім родзе, заўвага перакл.). Мы звярталіся да ўладаў, выйгралі нават справу ў Галоўным Адміністрацыйным Судзе, але гэта не змяніла сітуацыі.

Мусульманская парафія ў Багоніках аб'ядноўвае каля 1000 чалавек.

- Няма ў нас сродкаў, каб пабудаваць новы мячэт, - дадаў Канапацкі. –Патрэбна каля 12 млрд., каб паўстаў новы аб'ект на 250 чалавек.

Члены Мусульманскага Рэлігійнага Саюза таксама падкрэслілі, што ад цяперашніх уладаў Рэчы Паспалітай Польскай не атрымліваюць аніякіх датацый.

- Нас трактуюць як экзотыку, калі гэта ім патрэбна- зрабіў выснову Юзэф Канапацкі. - І ў той жа час не бачаць нашых праблемаў.

Ва ўрачыстасцях польскіх мусульманаў прымалі ўдзел між іншымі беластоцкі арцыбіскуп Станіслаў Шымецкі і прадстаўнік праваслаўнай царквы.

Іоанна Грабоўская

## ДРУГІ З'ЕЗД МУСУЛЬМАН БЕЛАРУСІ

У адпаведнасці са сваім Статутам Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь правяло 19 студзеня 1996 г. свой чарговы з'езд. Ён праходзіў у Мінску, у памяшканні Цэнтра нацыянальных культур (вул. Я. Купалы, 21). На з'ездзе прысутнічалі дэлегаты з 17 мусульманскіх абшчын, афіцыйна зарэгістраваных органамі ўлады. Усяго ж на сённяшні дзень на Беларусі зарэгістравана 22 абшчыны татараў-мусульман.

Паводле перапіку 1989 г. у нашай краіне жыве каля 35 тысяч чалавек, якія традыцыйна адносяцца да вернікаў-мусульман. Гэта 12,5 тыс. татараў, 5 тысяч азербайджанцаў, 3,5 тысяч узбекаў, 2,5 тысяч казахаў, 1-2 тыс. таджыкаў, туркменаў, кыргызаў, афганцаў, а таксама студэнты вузаў і тэхнікумаў з ісламскіх краін.

На з'ездзе быў абмеркаваны справаздачны даклад старшыні Упраўлення (муфтэя) Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь Александровіча І.М., дадзена станоўчая адзнака дзейнасці аб'яднання за два гады (1994-1996), вызначаны шляхі дзейнасці на перспектыву. Вельмі востра былі пастаўлены пытанні адзінства і згуртавання шэрагаў мусульман, пошук шляхоў удасканальвання навучання дзяцей і дарослых, аднаўлення разбураных у савецкі час мячэцей і малельных дамоў мусульман, устанаўленне і развіццё сувязей з ісламскімі краінамі і арганізацыямі. Дэлегаты з'езда у сваіх выступленнях з трывогай адзначалі эканамічныя і экалагічныя цяжкасці на шляху адраджэння мусульманскай супольнасці ў Беларусі, неабходнасць пошука эканамічнай падтрымкі мусульман Беларусі на пачатковым этапе станаўлення з боку адзінаверцаў у ісламскіх краінах.

З'езд абраў кіраўніцтва Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь - муфтэят у складзе 5 чалавек: старшыня (муфтэй) Александровіч І.М., члены муфтэята Варановіч І.М., Канапацкі І.Б., Крыніцкі , Расулеў Э.С. Была абрана таксама і рэвізійная камісія з трох чалавек пад старшынствам Рафаловіча С.М. Тэрмін паўнамоцтваў гэтых органаў у адпаведнасці са статутам два гады, да студзеня 1998 г. З`езд прыняў Пастанову, а таксама Зварот да Прэзідэнта, Урада і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з просьбай аб дапамозе мусульманам Беларусі.

І. Александровіч

У той самы дзень адбыўся і канцэрт татарскага дзіцячага вакальнага ансамбля "Турначык" ("Жураўлік"). Уражанні ад канцэрта і не толькі ад яго, мы прапануем у артыкуле Розы Александровіч " Свята нараджэння "Турначыка".

## СВЯТА НАРАДЖЭННЯ "ТУРНАЧЫКА"

19 снежня 1996 г. ў сталічным цэнтры нацыянальных культур у рамках першага Рэспубліканскага фестываля нацыянальных культур, фінал якога адбудзецца ў маі месяцы ў Гродна, быў дадзены прэм`ерны канцэрт дзіцячага вакальнага ансамбля "Турначык". Каторы раз радуюся за людзей, якія прыйшлі на канцэрт, а найбольш на сустрэчу з суродзічамі, ў гэты адзін з самых доўгіх зімовых вечароў, калі рана цямнее і чалавек спяшаецца да цяпла, шукае спакою ў сваім доме.

У вялікай канцэртнай зале ўтульна мясціліся людзі. Ужо нават тое, як нязмушана яны гэта рабілі, кранала. Разам сядзелі не чужыя, выпадкова апынуўшыяся побач адпаведна набытаму квітку гледачы, а блізкія, родныя. Яны віталіся, размаўлялі, наталяліся адзін адным, пераходзілі адзін да другога. Гэтая зала прытуліла, аб`яднала іх і сама ажыла, зацяплілася ад сэрцаў чалавечых. Былі тут дзеткі-дашкольнікі і школьнікі, моладзь і людзі сярэдняга ўзросту. І найперш былі тыя, хто прыехаў на з`езд. Гэта ў асноўным сталыя і вельмі паважаныя мусульмане з немаладымі тварамі і мудрымі вачыма. А ці ж не было мудрасцю з боку арганізатараў сабраць разам крэўных з чатырох пакаленняў? Сабраць тых, хто прайшоў вялікую частку свайго зямнога шляху, пазнаў многае з духоўнай спадчыны продкаў, прыняў яе не толькі розумам, а і крывінкамі, і душой. І з імі сабраць тых, хто толькі пачынае сваё зямное жыццё, шукае сваё месца ў гэтым свеце, толькі далучаецца да спадчыннасці свядома, а ў большасці падсвядома, інтуітыўна, генетычна.

На вечар прыйшлі не толькі браты па крыві, а яшчэ нашыя сябры і родныя - людзі рознымі стасункамі злучыўшыеся з намі,

найпершы з якіх - агульная зямля, якая некаторых з нас туліць стагоддзі і тысячагоддзі, як беларусаў, рускіх, татараў, палякаў, яўрэяў, а некаторых і некалькі месяцаў, як, напрыклад, маладога мужчыну-чачэнца.

Ён прыйшоў адзін, звярнуўся з прывітаннем да групы сваіх мужчын-аднагодкаў і, забягаючы наперад скажу, што пасля заканчэння вечара не было, напэўна, ужо тых, хто не паціснуў яму руку ці ў думках не павітаўся з ім, бо гэты мужчына быў прадстаўніком таго народа, далейшы лёс якога выклікае боль і хваляванне.

Вельмі радыя і ўдзячныя мы тым нямногім з вялікай колькасці нашых сяброў, якія таксама прыйшлі да нас, знайшоўшы час і, спадзяёмся, маючы асабістае жаданне. Гэта шаноўныя прафесар Леанід Лыч, старшыня згуртавання "Беларуская шляхта" прафесар Анатоль Грыцкевіч, старшыня Рады Згуртавання навагрудцаў свету, пісьменнік Яўген Лецка, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Віктар Мацюшэнка, сакратар пасольства Турцыі ў Рэспубліцы Беларусь пані Шуле, перакладчык пасольства пан Юксел, вядучы інспектар па праблемах нацыянальных меншасцей Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Мацюшэнка.

А такое адхіленне ад традыцыі, калі шаноўным ці ўладатрымаючым асобам абавязкова прадстаўляецца слова, а хутчэй менавіта дзеля гэтага яны і вымушаны прыйсці, такая проста прысутнасць, яшчэ раз падкрэсліла іх шляхетнасць, адукаванасць і тую найвышэйшую і найсапраўднейшую цывілізаванасць, калі лепшыя прадстаўнікі Беларусі і беларусаў, шчыра дбаючы пра адраджэнне і развіццё беларускай культуры, маючы перад сабой неабсяжнае і ў большасці парослае пустазеллем поле дзейнасці, за вялікім сваім бачаць і чужое, па-прароцку мысляць не разовымі катэгорыямі, бо на самай справе ў агульным доме няма чужога, не нашага, не майго. Дык як жа нам не адказаць удзячнасцю, не адчуваць сябе тут сваімі? Мы і адчувалі сябе сваімі, тутэйшымі, таксама як і адчуваем сябе самімі сабой. Доказам гэтаму была сімволіка. Першы - цёмна-зялёны - прароцкі , сімвал той культуры і духоўнай спадчыны, дзякуючы якой мы захаваліся як этнас. Другі сцяг - бел-чырвона-белы з паўмесяцам і зоркай. Ён асабліва родны нам, беларускім татарам. Гэты сімвал нашага ўжо 600-гадовага паяднання з асноўнымі жыхарамі Беларусі. Менавіта пад такімі сцягамі ішлі наперадзе вялікакняжацкіх Вітаўтавых войскаў харугвы з коннікаў-татараў падчас Грунвальдскай бітвы. Мы ганарымся і вельмі шануем свой бел-чырвона-белы сцяг, таксама, як і бел-чырвона-белы з "Пагоняй", якім ганарацца і даражаць свядомыя беларусы. Трэцім сцягам быў цяперашні дзяржаўны. Пад гэтымі сцягамі і загучала Аль-Фаціха, першая сура са свяшчэннага Кур`ана.

Зала ператварылася ў слых, сэрцы забіліся ў такт сэрцабіення і голаса Мухарэма Канарскага, які гаварыў-спяваў суру на арабскай мове - мове, якой запісана пасланне Аллага мусульманам. Мяккія, шчырасці поўныя гукі зыходзілі з трапяткіх вуснаў Зарыны Канапацкай, чытаўшай пераклад Аль-Фаціхі на беларускую мову. Сапраўды, не можа быць нічога больш дасканалага, чым святыя словы, кожны гук якіх мае касмічнае наканаванне! Святая малітва - найлепшы пачатак, стаўшы традыцыяй для нашых сустрэч.

Прэзідэнт беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" Абу-Бікір Шабановіч цёпла і шчыра прывітаў прысутных, паяднаў іх словамі аб з`ездзе, які толькі што адбыўся, абвясціў праграму другой часткі - выступленне дзіцячага вакальнага ансамбля "Турначык", сказаў, што па-беларуску гэта гучыць вельмі знаёма, родна і цёпла - "Жураўлік". Таксама ён прадставіў нас, вядучых канцэртнай праграмы - віцэ-прэзідэнта згуртавання Ібрагіма Барысавіча Канапацкага, мяне - Разалію Александровіч, Зарыну Канапацкую і Наілю Лачынаву, якая размаўляла са слухачамі з дапамогай вершаў татарскіх паэтаў і чытала іх на мове арыгінала, на нашай татарскай мове.

Пра нас, вядучых, хачу сказаць, што мы стараліся падтрымліваць сувязь паміж залай і выступоўцамі: дзяцей знаёмілі з гледачамі, а гледачам прадстаўлялі ўдзельнікаў канцэрта і іх песні-падарункі. Праўда, у некаторых выпадках гэта будзе больш прыемным, чым неабходным. Як, напрыклад, у выпадку з Анечкай і Алёшай Палойкамі, бо яны будуць на сцэне, а іх бацькі і бабуля Марыя Ібрагімаўна Смольская ў зале.

На сцэну ўдзельнікі ансамбля выйшлі-вылецелі двума ланцужкамі-стужкамі, з якіх і ўтвараюць жураўлі свой жураўліны клін. У нацыянальных касцюмах на танклявых дзявочых фігурках, з лёгкімі шалікамі-накідкамі на галоўках, яны і былі падобнымі на жураўлікаў. Ансамбль аб`яднаў ужо маючых прафесійную падрыхтоўку юных студэнтак Мінскага музычнага вучылішча і школьнікаў малодшых класаў. У назве ансамбля ёсць яшчэ слова "татарскі", але гэта больш па рэпартуары, чым па складу ўдзельнікаў. Сваім кіраўніком, выкладчыкам музычнага вучылішча Якавам Давыдавічам Бельнікам дзеці былі аб`яднаныя любоўю да спеваў, цікаўнасцю да татарскай культуры. Мы вельмі ўдзячныя яму за самаадданую працу. Гэтыя 25 чалавек - адныя з першых у Мінску дзеці, хто заспяваў за многія дзесяткі і сотні гадоў на татарскай мове. Большасць прысутных у зале таксама былі аднымі з першых, хто пачуў татарскія песні ў выкананні дзяцей з Беларусі. Цяжка казаць аб пачуццях, якія агарнулі кожнага - у кожнага яны асабістыя. Агульным для нас было тое, што мы, беларускія жыхары, беларускія татары, амаль не ведаем мовы сваіх продкаў, не разумеем яе, бо ўжо 600 гадоў татары тут не карыстаюцца сваёй мовай. Але ўсе мы радыя былі пачуць гукі роднай мовы, мы расхінулі ёй свае душы, нездарма

менавіта мову называюць душой народа. І, напэўна, гэта разуменне, гэта жаданне не страціць сваю душу, не згубіцца на зямлі, стаўшай роднай, зрабіла тое, што мясцовыя татары, ускормленыя сокамі гэтай зямлі, берaглі і шанавалі яе як родную. Але, мне здаецца, што гэта - падсвядомы знак - патрэба вялікай любві да сваёй далёкай радзімы, да сваёй мовы. Таму сумуючы аб страчаным, мы вельмі добра разумеем нашых братоў-беларусаў, як саміх сябе, мы дбаем за беларускае Адраджэнне, мы часцінка гэтага Адраджэння. Свой канцэрт ансамбль "Турначык" і пачаў з песьні "Жыве Беларусь!". Дзець спявалі песню-гімн роднай зямлі, а мне ўявіліся жураўлікі, якія вучацца лятаць, ледзь-ледзь узмахваючы крыльцамі і спрабуючы адарвацца ад зямлі. Яны набіраюць моц, каб пераадолець шлях у далёкую і невядомую, цёплую зямлю Афрыку, і каб пасля зноў вярнуцца назад толькі ім вядомымі пазнакамі, пазнакамі Радзімы. Розныя шляхі ў людзей. Для некаторых з нашых дзяцей яны таксама будуць пралягаць далёка ад Радзімы. Але не забудуцца яны, што тут расправілі крылы, тут пачалі свой палёт.

Песня Ганны Казловай "Дзеці Чарнобыля" - аб нашым бясконцым болі: нашыя дзеці - ахвяры страшнай бяды беларускага народа. Вось ужо 10 гадоў, як чорная хмара Чарнобыля вісіць над нашай любай "зямлёй пад белымі крыламі". Бяда гэтая не абмінула беларускіх татараў. Самае вялікае татарскае пасяленне, што знаходзіцца ў Іўі, у Гродзенскай вобласці, апынулася ў забруджанай зоне. Татары падзялілі лёс беларусаў і іншых народаў краіны. Божа, выратуй лёс дзецям Чарнобыля.

Жыццё татарскіх дзяцей, як і наогул татарскіх сем'яў мае шмат агульнага з жыццём беларускіх сем'яў. Хоць адрозненні, безумоўна, былі і ёсць. У выпадку ж з цюркскімі словамі, якія прынеслі сюды нашыя продкі і якія сталі арганічнай часткай беларускай мовы, зараз толькі спецыялісты могуць нам аб гэтым нагадаць. Татарскія дзеткі носяць "кашулькі", а беларускія жанчыны "андаракі", першае слова славянскага паходжання, другое - цюркскага. Маці называе сына "рахманы хлопчык", ужываючы слова цюркскага паходжання "рахманы" і слова славянскае "хлопчык". Татарскія жанчыны расказваюць сваім дзецям казкі з багатай скарбніцы народнай творчасці беларусаў, татарскія дзеці спяваюць песні беларускіх аўтараў. Таму знайшоў водгук у дарослых цыкл дзіцячых песень на беларускай і рускай мовах беларускага кампазітара Леаніда Захлеўнага "Зубраня", "Жураўлі", "Майскі жук", "Вераснёвы вальс"; апошнюю песню суправаджала выступленне танцавальнай пары - абаяльнай Аксаны і яе элегантнага партнёра Косці.

Цыкл твораў татарскіх аўтараў склаўся з песень "Сабантуй", "Яшлек", "Вай-вай-вай" і музычных твораў татарскіх кампазітараў. Усе, і артысты, і слухачы чакалі гэтага хвалюючага моманту. Асабліва хвалюючым быў ён для ўдзельнікаў ансамбля і іх

кіраўнікоў. Мы, вядучыя, загаддзя ведалі, што будзе гэта радасцю, якую надумываць нікому не трэба.

"Сабантуй" - свята, больш дакладна - свята плуга ("сабан" - плуг, "туй" - свята). Закончаны пасяўныя работы. Людзі радуюцца, ладзяць спартыўныя гульні, адзінаборствы, скачкі на конях. Песня "Яшлек" пра маладосць - найлепшую пару ў жыцці чалавека, пра кветкі, першае каханне. Крымска-татарскую песню "Вай-вай-вай" у выкананні паважанага Ісмаіла Ісмаілавіча Меметава пад акампанемент яго дарэ многія з нас ўжо добра ведаюць, ведаюць змест і любяць падпяваць яе незацейлівы прыпеў. Дзеці, здольныя чула ўспрымаць песню, цудоўна выканалі татарскія песні. Да ўсяго дзеці з ансамбля не толькі спяваюць, але і музыцыруюць на розных інструментах. На фартэп'яна Аня Палойка, самая юная ўдзельніца ансамбля, выканала "Калыханку" татарскага кампазітара Жыганава, а яе брат Лёша - п'есу кампазітара Батыршына "Вясёлая гульня".

Наступныя нумары праграмы былі падрыхтаваны спецыяльна для нашых гасцей і ўдзельнікаў з'езда, якія прыехалі з бліжняга і далёкага замежжа. Першай салісты ансамбля выканалі на ангельскай мове, рускай і іўрыце песню "Алілуйя", што азначае мір, дабрабыт і згода. У знак падзякі за шчырае супрацоўніцтва турэцкаму паслу пану Тансу Акандану, нашым настаўнікам турэцкай мовы пану Сюрэйя і пану Ахмеду прагучала "Алдырма". Песня і яе выкананне вельмі спадабаліся ўсім. Прадстаўнік турэцкага пасольства таксама быў вельмі крануты. Ад імя турэцкага пасольства кіраўніку ансамбля Якаву Давыдавічу Бельніку быў прыпаднесены найпрыгажэйшы букет. На фінскай мове гучала песня для высокага госця з Фінляндыі пана Суламаа.

Сваё выступленне ансамбль "Турначык" завяршыў сумнай і велічнай песняй "Калі я вярнуся на Радзіму" ("Узь ягыма кайтасаім"). Саліраваў, цудоўна злучыўшыся з дзецьмі, сябра нашага згуртавання Рэнат Мінгажэеў. Гэта татарская песня - настальгія па сваёй радзіме. "Калі б я вярнуўся на сваю зямлю, папіў бы крынічнай вады, паслухаў бы, як прыгожа спяваюць нашыя дзяўчаты, убачыў бы, якія моцныя нашыя хлопцы, пабег бы па роснай траве..."

Ад выступлення ансамбля засталіся самыя лепшыя ўражанні і прыемны ўспамін. Мы шчыра ўдзячныя кіраўніцтву ансамбля на чале з Я.Д. Бельнікам.

Канцэрт меў яшчэ невялікі працяг і адпавядаў магічнай лічбе "тры". Перад гледачамі выступіла тры выканаўцы з ліку старэйшага пакалення. Першым выступаў Ісмаіл Меметаў. Наш "народны артыст", як цёпла называюць у згуртаванні Ісмаіла Ісмаілавіча, на парозе свайго 80-годдзя, у выступленні-размове бліскуча прадэманстраваў свае вакальныя здольнасці, свае чалавечыя якасці, за якія з вялікай павагай ставімся мы да чалавека, прайшоўшага свой доўгі жыццёвы шлях і не страціўшага любові да жыцця і людзей.

Аляксанд Радчанка лічыць за гонар выступаць перад татарамі. Гэты інтэлігентны, таленавіты чалавек прыемна здзіўляе нас выкананнем песень на татарскай мове. "Ты іграеш на садзе" і "Салавей". Спадар Радчанка нарадзіўся на Крымскай зямлі, якая гушкала свайго сына ўсяго некалькі месяцаў, але і гэтага было дастаткова, каб назаўжды заняць месца ў яго сэрцы. Немагчыма, напэўна, толькі з дапамогай рацыянальнага розуму, растлумачыць, чаму так лёгка і натуральна зыходзяць гукі, словы і мелодыя татарскіх песень з яго вуснаў, а хутчэй - з яго сэрца, яго душы.

Як вядома, і гэта запісана ў нашай святой кнізе, найбольш шануемай у мусульман з'яўляецца жанчына-маці. Адзіная ў нашым згуртаванні прадстаўніца караімскага народа Галіна Ільінічна Гаммал выканала "Калыханку". Гэтая шчымлівая песня маці прывяла наш вечар да завяршэння і злучыла нас з пачаткам, з малітвай Аль-Фаціха - у ёй тая вечнасць. Датуль не знікне той народ, пачатак жыцця якому дае маці сваёй песняй-малітвай, дзе словыператвараюцца ў гукі, гукі зліваюцца ў мелодыю, а мелодыя ўзносіцца ў неба.

## ПРА ЧАЧНЮ

За вас праўда, за вас слова і воля святая
Т. Шаўчэнка (з паэмы "Каўказ")

Калі я быў малы, я любіў слухаць, як маці распавядала пра тое, як немцы палілі іхнюю вёску.

Спачатку летам была аблава. Але паліцыянт з суседняй вёскі, дзе стаяў гарнізон, падказаў. І вёска паспела схавацца - хто ў хмызняк, а хто ў жыта. Прыехалі немцы, пастралялі хворых і нямоглых, хто не змог ці не захацеў хавацца, і вырашылі, на ўсялякі выпадак, прачасаць жыта.

Бабуля Соня з чатырма дзецьмі, а было ёй тады трыццаць гадоў, сядзела ў хмызняку. З ёй таксама былі старэйшыя дзеці малодшай сястры Аляксандры. Аляксандра ж з самым меншым немаўлём ляжала ў жыце разам з іншымі бабамі і дзецьмі. Немцы ішлі, гэргаталі, зрэдку пастрэльвалі, і тут заплакаў гэты Аляксандрын Віця. "Прыдушы!" - загадалі ёй старэйшыя аднавяскоўкі.

Яна не адважылася, а папаўзла з ім падалей ад людзей, у бок немцаў. Калі тыя наблізіліся, дзіця змоўкла і выратавала сябе і маці.

Што яна, мая стрыечная бабуля Аляксандра, якой было тады 25, перажыла тады?

Бліжэй пад восень немцы канчаткова вырашылі знішчыць вёску, але зноў нехта са сваіх паліцаяў падказаў, і людзі зноў на ноч

паўсхопліваліся з ложкаў ды палацяў і паўцякалі. Баба Соня зноў ляжала з дзецьмі ў хмызняку і глядзела, як немцы падпальваюць хату за хатай. Маці распавядала, што ішоў дождж. Яна, 2-гадовае дзяўчо, у адной кашульцы ляжала ў брудзе і дрыжэла ад холаду. Мокрыя хаты не хацелі гарэць, і немцы расстрэльвалі іх запальнымі кулямі. Нашая хата нарабіла грукату. Яна ўзрывалася, і трасіруючыя кулі ад яе разляталіся ў розныя бакі. Дзед-партызан хаваў у ёй свае боепрыпасы.

Што думалі тады мая бабуля, цяжарная пятым дзіцём і з чатырма на руках, ведаючы, што муж нічым не здолее ёй дапамагчы, што суседнія вёскі гараць з людзьмі, што наперадзе зіма?

Гэта можна толькі ўявіць. Але пасля таго, як пачалася вайна ў Чачні, як расійскія войскі знялі Грозны, знішчылі з людзьмі Сямашкі і разбамбілі ці не адзін дзесятак чачэнскіх аулаў з жанчынамі і дзецьмі, пасля таго, як я ўбачыў каменныя твары "баявікоў", я дакладна ведаю, што думаў тады, у 43-м, мой дзед.

Як ні дзіўна, але ў нас, беларусаў, шмат паралеляў з гэтым малым, далёкім чачэнскім народам. У дачыненні да беларусаў у апошнюю вайну акупанты праводзілі планамерны генацыд. Немцы патрабавалі поўнага падпарадкавання, інакш - смерць. Калі пачалі паліць вёскі і забіваць, ціхмяны і рахманы беларускі народ "азвярэў" і масава пайшоў у лясы, бараніцца.

Сёння ў Чачні робіцца тое, што ў нас рабілася пяцьдзесят гадоў таму. Расійскія войскі зараз ужываюць такую ж тактыку "выпаленай зямлі" і наводзяць такі ж, толькі што ўжо "канстытуцыйны" парадак.

І таму, калі я чую па расійскіх сродках інфармацыі тэрмін "баявікі", я аўтаматычна, у галаве перапраўляю - партызаны, і ў мяне адразу цяплее на душы.

Алесь Бяляцкі.
Літаратура і Мастацтва,
1 сакавіка 1996 г.

## ЗНОЎ ПРА ЧАЧНЮ

Некалькі слоў пра тое, як Расія "ўз'ядналася" з Чачнёй у 19-м стагоддзі. У выніку войнаў з Турцыяй і Персіяй на пачатку 19-га стагоддзя да Расіі адышло Закаўказзе, але на шляхах каланізацыі стаяў незалежны Каўказ.

Ва ўрадлівых каўказскіх далінах будуюцца крэпасці, асяляюцца казацкія станіцы. Так, у 1818 была заснаваная крэпасць Грозная. На вольных горцаў ляглі цяжкія павіннасці. Як пісаў адзін з відавочцаў: "павіннасці так абцяжарваюць народ, што не даюць нават часу ўбраць з поля хлеб, амаль усе мужчыны і жывёлы выключна занятыя імі".

Адразу ж пачаўся збройны супраціў. Вайна мела паўпартызанскі характар. Вайсковы міністр Мікалая І граф Чарнышоў пісаў: "План

замірэння каўказскіх плямёнаў палягае на той галоўнай думцы, што ... адзіным сродкам для дасягнення гэтай мэты прызнання ... моц зброі ..." Метады расійцаў былі наступнымі. Спачатку распрацоўваліся планы. Так, памочнік галоўнакамандуючага расійскімі войскамі генерала Ярмолава Вільямінаў прапаноўваў: "Знішчэнне іхніх палёў на працягу пяці гадоў запар дасць мажлівасць абязброіць іх і тым самым аблегчыць усе наступныя дзеянні".

Затым гэтыя планы прыводзіліся ў дзеянне. Так, у 1882 г. атаман Уласаў напаў на землі чаркескія, дзе ён высякаў лясы, паліў засеяныя імі палі і, урэшце, нападаючы на аулы, знішчаў іх". Можна прыгадаць карны паход Генерала Пестэля на буйное паселішча Башлы. Як згадвае генерал Ярмолаў: "У Башлах не засталося каменя на камені, і прыкметы яго існавання цалкам знішчаныя". Як звычайны эпізод гэтай вайны чытаюцца словы Л. Талстога з "Каўказскага вязня" пра старога горца: "У яго было тры жонкі і восем сыноў. Усе жылі ў адной вёсцы. Прыйшлі рускія, вёску разрабавалі і сем сыноў забілі".

Недарма генерал М. Раеўскі з горыччу зазначаў: "Нашыя дзеянні на Каўказе нагадваюць усе бедствы першапачатковай заваёвы Амерыкі іспанцамі". А. Пушкін у "Падарожжы ў Арзрум запісвае: "Чаркесы нас ненавідзяць. Мы выцеснілі іх з прывольных пашаў; аулы іх разрабаваны, цэлыя плямёны знішчаны".

Што сабою ўяўляла расійская адміністрацыя на Каўказе? Не раўнуючы, як на Беларусі пасля "уз'яднання": "Каўказ у той час быў прытулкам і зборным пунктам розных прайдзісветаў і шукальнікаў спосабу вынырнуць з бруду ці з няёмкага становішча", - згадваў генерал Філіпсон. А Бястужаў у "Каўказскіх нарысах" заўважае: "Што тут за каменданты, што тут за палкоўнікі! Так рукі апускаюцца!.. Апроч хабару нічога не ведаюць і не жадаюць".

А як жа расійская дэмакратыя? Як заўсёды. Сасланыя на Каўказ дзекабрысты бралі ў бруднай вайне чынны ўдзел і добрасумленна душылі незалежнасць горцаў.

Тым не менш, вайна ішла больш за 50 гадоў. Першы імам Каўказа Газі-Мухамед пачаў з таго, што ў 1831 годзе захапіў крэпасць Кізляр. У той час супраць яго ваяваў генерал-фельдмаршал Паскевіч...

Расійцы аргументавалі сваю палітыку на Каўказе "прыроднай схільнасцю да разбою" тубыльцаў. Зусім нядаўна генерал-"замірыцель" Чачні Барсукоў назваў усіх чачэнцаў бандытамі, зладзеямі і рабаўнікамі. Дык што ж змянілася за гэты час у псіхалогіі нашых усходніх суседзяў.

Алесь Бяляцкі.
Літаратура і Мастацтва,
8 сакавіка 1996 г.

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА ЧАЧНЮ

Наши камни, наши кручи!
Русь! Зачем воюешь ты
Вековые высоты? Досягнеш ли?
А. Грыбаедаў

Тое, што немцы ў час вайны спарадзілі "партызаншчыну" на Беларусі, -вынік іхняга нежадання лічыцца з асаблівасцямі беларускага характару. Яны прынеслі свой "новы парадак", сваё пракрустава ложа і адразу ж хацелі перарабіць свет на свой капыл. Так было паўсюль, і славянства паўстала. Паўсталі палякі, паўсталі беларусы, сербы, славакі і ўкраінцы. У першых і апошніх былі свае нацыянальныя формы змагання. А ў нас усё перанялі камуністы. Урэшце, без такіх шараговых сялян, як мой дзед Аляксандр, яны нічога б не былі вартыя. І немцы, здаецца, так і не зразумелі, чаму гэтыя беларусы-дзікуны, якія жывуць яшчэ ў хатах з саламянымі стрэхамі і не ведаюць добрых дарог, не паддаюцца цывілізацыі.

Вось так і расійцы ў Чачні. Прыехалі туды на танках, прывезлі сваю "цывілізацыю". Не дзіва, што яны сустрэлі жорсткі адпор. Неяк заціхлі ў нас у народзе размовы пра аб'яднанне. Зараз чачэнцы ваююць не толькі за сваю волю, але і за волю Беларусі.

Мы памятаем, чым скончылася ганебная вайна ў Афганістане. Худзенькія, маленькія, слабенькія, калі меркаваць па таджыках, афганцы перамаглі, бо яны не задумваючыся гінулі за сваю зямлю. А тут - чачэнцы, горцы! Згадваю свайго камандзіра аддзялення ў войску. Кабардзінец і мусульманін, ён здаровы і хуткі, як тыгр, за першага паўгода вучэбкі схуднеў на 20 кілаграмаў, бо еў толькі хлеб з гарбатаю. Да астатняй ежы ён не дакранаўся, бо там магла быць свініна.

Ісці да такіх людзей з такой самай меркаю, як да якога - небудзь разанскага Вані - праўдзівае шаленства.

Тым не менш, сярэдні расійскі палітык, таксама як і сярэдні расіянін, упэўнены, што там - расійская зямля. І да тых часоў, пакуль рускія не зразумеюць, ці не адчуюць гэта на сваёй скуры - праз тэракты, праз заложнікаў і яшчэ невядома праз што - тое, што Чачня - гэта не Расія, іх будуць жорстка вучыць.

Урэшце Чачня Расіяй ніколі не была. І зараз, калі які-небудзь "белы каўнерык", седзячы ва ўтульным маскоўскім кабінеце, піша і друкуе тое, што трэба там "агнем і мечем...", дык яго апаноўваюць дваістыя пачуцці. З аднаго боку, ён верыць, што гэта сапраўды "расійская зямля", якую ну ніяк нельга пакінуць на разрабаванне басурману, а з другога боку, расійскія войскі разглядаюцца там, як экспедыцыйны корпус. Яны - адважныя жаўнеры і бясстрашныя генералы, недзе там, далёка, прыкладна як у свой час ангельскія войскі ў Індыі. І таму сапраўдны шок выклікаюць у яго звесткі пра тое, што вайна часам пераносіцца на тэрыторыю Расіі. Тут цывілізацыя з яе

сродкамі перасоўвання і метадамі вядзення вайны расійцам зусім не на руку.

Шырокія і бяскрайнія расійскія прасторы і не маюць яны цвёрдых межаў з Чачнёю. Так што якіх падзей яшчэ можна чакаць ад такога наезду, ведае толькі адзін Бог.

Алесь Бяляцкі
Літаратура і Мастацтва,
15 сакавіка 1996 г.

## "ДУША ДЖАХАРА НАГАДВАЕ БУНТАРСКУЮ ДУШУ АВАДНЯ"

Мая суразмоўца - Ала Дудаева. Ала Фёдараўна - расіянка па паходжанню, дачка кадравага афіцэра Савецкай Арміі. Мастачка і паэтэса. Вершы былі пры ёй - у памяці; карціны ўсе да адной згарэлі ў раструшчаным Грозным. Сімпатычная маладая жанчына, зусім не падобная на бабулю трох унукаў, захопленая, як гімназістка, наіўная ў палітыцы, шчырая ў веры, у лірычных адступленнях ад асноўнай тэмы можа безупынна гаварыць пра музеі і мастацтва, усходнія рэлігіі і паэзію. Пазбаўленая ўсяго таго, яна ніводным словам у нашай размове не папракнула лёс; адчуўшы сябе часцінкаю чачэнскага народа, расіянка Ала, як і ўсе знаёмыя мне чачэнкі, вельмі стрыманая ў горы. Часу ў нас няшмат, і я мушу перапыняць аповяд мастачкі Алы, каб пагаварыць з жонкай Джахара Дудаева.

**- Ваша дачка расказала мне, што вы марылі пра рамантычнага героя і знайшлі яго ў чалавеку. А якім вам уяўляўся рамантычны герой?**

- Гадоў з трынаццаці маім любімым героем быў Авадзень. Я прачытала "Авадня" ў шостым класе, і перада мной адкрыўся зусім іншы свет. Мяне так уразіла тонкая і разам з тым моцная натура галоўнага героя, што я ўяўляла яго жывым чалавекам, сваім суайчыннікам. Авадзень - інтэлігент, а інтэлігенты, як правіла, людзі слабыя. А ён, памятаеце, такі мужны, так сапраўды па-мужчынску ўмее перамагчы сваю слабасць. Ведаеце, я нават не ўяўляла сабе, што магу сустрэць у рэальным жыцці чалавека-мару. Але мне пашчасціла.

**- Дарэчы, а як вы пазнаёміліся са сваім "Аваднём"?**

- У вайсковым гарадку ў Калужскай вобласці. Джахар быў тады старшым лейтэнантам, скончыўшы незадоўга перад гэтым лётную школу. Мой бацька таксама там служыў. Я вучылася ў Смаленску і прыехала да бацькоў на канікулы. З Джахарам пазнаёмілася зусім выпадкова. Сябравалі тры гады, потым пажаніліся. Вось і ўсё.

**- І вы адразу зразумелі, што перад вамі - рамантычны герой?**

- Малады лейтэнант быў вельмі шляхетны, разумны, сімпатычны, з цёмнымі выразнымі вачыма; на пачатак гэтага была досыць. Пазней, калі я зазірнула не ў вочы, а ў ягоную душу, мяне ўразіў адчай бязвіннага чалавека, якога разам з усім народам абвінавацілі ў здрадзе. Гэтая душа нагадала мне бунтарскую душу Авадня. Ён таксама быў у

выгнанні і ў адчаі ад таго, што яго залічылі ў здраднікі. Але тут назвалі нягоднікамі цэлы народ. Я зразумела, што мэта майго жыцця - давесці працілеглае і паўстаць супраць несправядлівасці.

**- Вы праз душу каханага чалавека зразумелі ягоны народ. Але ці не адчувалі вы з вашай славянскай ментальнасцю сябе чужародным целам сярод чачэнцаў?**

- Звычаі любога народа ўспрымаюць негатыўна толькі невукі. Разумны добразычлівы чалавек, прыгледзеўшыся і здолеўшы зразумець, на чым грунтуюцца гэтыя звычаі, заўжды знойдзе ў іх хоць і нязвыклае для яго, але пазітыўнае. Тыя традыцыі чачэнскага народа, з якімі я сутыкнулася, стаўшы жонкаю Джахара, пераканалі мяне ў тым, што характар нацыі вырас з пасеянага калісьці добрага зернетка. Там існуе такая моцная повязь паміж пакаленнямі, такая моцная генетычная памяць, што мінулае народа можна спасцігнуць праз сучаснасць. Напрыклад, чачэнскія звычаі з дзяцінства выхоўваюць у чалавека самаадрачэнне. Працяглыя войны зрабілі іх прыроджанымі воінамі. У гарах даводзілася зносіць шмат нягод, там было мала ежы. Вось чаму чачэнец, калі ён лічыць сябе сапраўдным мужчынам, ніколі не пакажа, што галодны. Нават жонцы. Ён проста чакае, калі яго паклічуць да стала. Калі чачэнцы заходзяць у хату, яны вітаюцца словамі:"Будзь вольным!" Такое прывітанне зноў-такі паходзіць ад часу частых войнаў і мараў пра свабоду. Мужчына абавязкова здымае са сваіх рук дзіця, калі заходзіць госць. Ён ніколі не будзе дэманстраваць на людзях пяшчоту да жонкі: чачэнец - традыцыйны воін і гатовы дзеля свабоды народа адрачыся ад сям'і. Гэта вельмі важна зразумець людзям іншай нацыянальнасці: чачэнцы не гуляюць у высокае, для іх сапраўды свабода - найкаштоўнейшая на гэтым свеце рэч. За яе яны гатовы заплаціць сваім жыццём.

**- А жынчын не абражае такое халаднаватае стаўленне?**

- Што вы! Чачэнцы любяць сваіх жонак і дзяцей не менш, чым іншыя, толькі не заведзена гэта паказваць на людзях. А потым, ведаеце, тут крыецца свая мужская хітрасць. Паводле чачэнскіх уяўленняў, каханне - гэта кветка, што расквітае ў душы. І той, хто шмат гаворыць пра сваё каханне, адрывае ў гэтай кветкі пялёстак за пялёсткам.

**- Вы сказалі, што вызначальныя рысы чачэнскага характару важна зразумець іншым. А вас не здзіўсяюць некаторыя з каўказскіх звычаяў? Мяне, напрыклад, трохі шакіравала: жанчыны прыслугоўваюць мужчынам і гасцям за сталом, а самі, як ні прасі, не прысядуць да яго ...**

- І не варта прасіць. Ведаеце, не ходзяць са сваім статутам у чужы манастыр. Мне здаецца, што расіянін менавіта гэта і падводзіць - жаданне ўсіх навучыць жыць толькі па іх статуту. Шмат што і мне была дзіўна спачатку. Вось, напрыклад, спярша запрашаюць да стала старых. У нас заўсёды першымі кормяць дзяцей. Потым зразумела: шанаванне старых - перадумова павагі да чалавека, да асобы. Там

старыя бацька альбо маці - не адпрацаваны матэрыял, іх не запіхнуць як непатрэбнае ў дом для састарэлых. Цяпер шмат хто ставіцца да чачэнцаў як да тэрарыстаў, азвярэлых бандытаў. Уключыце тэлевізар, пачуеце сінонімы: чачэнец, бандыт, галаварэз. Аднак мала хто скажа, калі да іх з мірам, дабром - і да вас гэтак жа. Госцю спадабалася нейкая рэч, пахваліў - падарую; кажам, горы ў нас цудоўныя - заходзь "на баранчыка" ... Але і за крыўду "аддзячаць": чачэнцы занадта гордыя, каб іх лічылі рабамі.

**- Вашыя родзічы нічога не мелі супраць, калі вы выходзілі замуж за чачэнца?**

- Джахар прыходзіў да нас дадому і проста паланіў бацькоў сваім шанаваннем старэйшых і галантнасцю ў адносінах да жанчын. Яны такога не бачылі сярод маіх расійскіх равеснікаў. Калі збіраемся ў кіно - заўсёды запросіць тату і маці, першы адчыніць дзверы, устане ў іх прысутнасці, падасць руку ...І ўсё гэтак натуральна, бо павага да старэйшых у іх у крыві. Канешне, ён вельмі спадабаўся маім родным. Праз Джахара яны ўспрымалі наогул усіх чачэнцаў.

**- А цяпер, калі распачалася такая страшная, такая працяглая вайна, ваш бацька, стары расійскі афіцэр, не змяніў свайго стаўлення да чачэнцаў?**

- Ён хацеў прыехаць на чачэнскія барыкады, яшчэ на пачатаку вайны, толькі я яго не пусціла, не дазволіла, каб ён паехаў - бацька сапраўды ўжо вельмі стары і хворы, здае сэрца. А наогул большасць маіх родзічаў і знаёмых у Расіі падтрымлівае Чачню не з пачуцця салідарнасці з Джахарам - яны проста разумеюць, што вайна, распачатая крамлёўскімі палітыкамі супраць маленькага народа, — брудная і несправядлівая вайна.

**- Калі не памыляюся, вы пакінулі Чачню вясною 1995 года. Тады, відаць, апошні раз бачыліся з мужам і старэйшым сынам. Ці атрымліваеце вы ад іх якія-небудзь весткі? Як ваш малодшы сын пераносіць расстанне з бацькам?**

- Калі нас вывозілі з Чачні, я нібы раздвоілася. Мне хацелася ўратаваць малога сына і ўнукаў. Тых, што былі і што меліся быць. Разам з тым я пакідала там другую палову сям'і, пакідала, не ведаючы, што з імі будзе, ці давядзецца нам калі зноў сабрацца разам. Канешне, я хацела б у той жахлівы час быць поруч з Джахарам. Канешне, і яму было цяжка развітвацца з намі, хаця, як заўсёды, не паказаў гэтага, жартаваў, усміхаўся. Ён і праўда вагаўся, ці варта нас адпускаць: найлепшы ж прытулак - родныя горы. Аднак федэральныя войскі набліжаліся, самалёты прасавалі бомбамі горы, як дбайная гаспадыня настольнік. І мы паехалі ...

**- Пані Дудаева, для вас, мабыць, не таямніца, што існуе шмат людзей, якія разважаюць: ці не гуляе хітры Джахар па правілах, навязаных іншымі? Гуляе ў гульні, дзе імкненне чачэнцаў да незалежнасці - толькі прыкрыццё для чыіхсці інтарэсаў, а сам народ - проста пешка ў гэтых гульнях.**

- Не таямніца. Але, напэўна, для гэтых людзей характар Джахара - таямніца. Канешне, жонка не можа быць добрым суддзёй, яна, хутчэй, адвакат, таму не буду ўдавацца ў эмоцыі. Я толькі распавяду, як Дудаеў "дарваўся да ўлады", каб "прыкрыць свае крымінальныя інтарэсы".

Колькі разоў земляка-генерела запрашалі стаць старшынёю Нацыянальнага кангрэса чачэнскага народа, ён кожны раз адмаўляўся. Тады прыехалі ў Тарту старэйшыны - і Джахар згадзіўся: не пасмеў запярэчыць старэйшым. Так мы пераехалі ў Грозны.

Пасля абрання прэзідэнтам Джахар некалькі разоў змяняў састаў Кабінета Міністраў Чачні. Ён проста жорстка абыходзіўся з людзьмі, якія за грошы былі гатовы пайсці на злачынства. Тыя, каго здымаў з пасады прэзідэнт, пераходзілі да Масквы.

**- Пані Дудаева, як вы коратка ахарактарызавалі б мужоў-чачэнцаў?**

- Чачэнец - сумесь англічаніна з японцам: манерамі ён падобны да выкшталцонага брытьанца, а натурай, звычаямі - да японца-самурая. Калі я крыўдзілася на Джахара, дакарала яго: да вяселля ты быў джэнтльмэнам, пасля - самураем...

Цяпер Ала Дудаева на мужа не крыўдзіцца. Яна з нецярплівасцю чакае сустрэчы. І чыста па-жаночы хвалюецца: "Не ведаю, як Джахар паставіцца да маёй прычоскі. Ад перажыванняў так выпадаюць валасы..."

На наступны дзень Ала Дудаева вярталася ў Чачню.

"Голос України" № 17, 1996 г.
Пераклад з украінскай Пятра Рагойшы.
"Звязда", 12 сакавіка 1996 г.

## МУСУЛЬМАНЕ НА БАЛКАНАХ

Лічба мусульманаў на Балканах дасягае 10-11 млн. ч., або 18% усёй папуляцыі. Пражываюць яны як большасць у Албаніі, дзе складаюць амаль 70% насельніцтва 3,6-міліённай рэспублікі.

Найвялікшая канцэнтрацыя мусульманаў, каля 4,5 млн.ч. мела месца ў экс-СФРЮ: у Босніі-Герцагавіне - 44% з 1,8 млн. насельніцтва, у правінцыі Косава - 1,7 млн. ч., 89% насельніцтва. Мусульманскія анклавы ёсць у Македоніі, невялікія скапленні ў Чарнагорыі і Харватыі - агульная лічба мусульманаў ў гэтых краінах дасягае 1 млн.ч. Другой па колькасці мусульманаў краінай ёсць Балгарыя, дзе пражывае 1,4 - 3 млн. ч. Грэцыя і Румынія маюць адносна невялікую колькасць мусульманаў. У Румыніі пры насельніцтве ў 23 млн.ч. мусульманаў налічваецца 65 т.ч., у Грэцыі - 120 т.ч.

Іслам пачынае распаўсюджвацца па Балканах яшчэ ў 12 ст. з хваляй міграцыі туркаў-мусульманаў у большасці з Анатоліі, якія пасяляліся на поўдзень ад Дунаю, на землях сённяшніх Балгарыі,

Тракіі, Македоніі. Пасля заваявання Аттаманскай імперыяй балканскіх земляў этнічна-рэлігійны склад змяніўся нязначна. Ісламізацыя праводзілася галоўным чынам наваробчваннем балканскіх народаў і адбывалася гэта ў 14 і 15 ст.ст. Вялікага прымусу ў ісламізацыі не адзначалася, прыняцце ісламу давала пэўным групам магчымасць захаваць этнічную і культурную самасвядомасць, як гэта была, напрыклад, з багамольцамі - продкамі басняцкіх мусульманаў, якія такім чынам пазбеглі цвёрдай артадаксыйнасці Рыму і Візантыі. Прыняцце іслама была выгадна як вышэйшым варствам грамадства, так і ніжэйшым. Іслам прызнаваў вярхавенства дзяржавы, дэвлет, што практычна азначала перавагу публічнага права, што ў выніку бараніла сялянаў перад жорсткасцю феадалаў, як гэта было ў хрысціянскіх краінах. Турэцкія феадалы былі падначаленыя цэнтру і не маглі мець аўтаноміі. Таму з агульнай лічбы сённяшніх мусульманаў толькі 20% - этнічныя туркі, астатнія - гэта славяне, якія карыстаюцца сваімі славянскімі мовамі.

З падпісаннем Берлінскага пагаднення 1878 г. закончыўся пэўны культурна-ідэалагічны працэс. Вялікія групы праваслаўных хрысціянаў на Балканскай паўвыспе атрымалі магчымасць стварыць незалежныя нацыянальна-тэрытарыяльныя дзяржавы. Узнікаюць Сербія, Румынія, Чарнагорыя і Балгарыя (якая фармальна знаходзілася пад феадальным кіраўніцтвам турэцкага султана да Першай Сусветнай вайны). Кожная з гэтых краінаў атрымала вялікія групы людзей мусульманскай або іншай меншасці. Часам у новаатрыманых тэрыторыях тытульная нацыя мела нязначны працэнт. У 1878 г. Аўстрыя займае Боснію-Герцагавіну, у 1913 г, астатнія асманскія тэрыторыі на Балканах, галоўным чынам Македонія і Тракія, былі занятыя і падзеленыя паміж Сербіяй, Грэцыяй і Балгарыяй.

Новыя ўрады праводзілі выразную дэмаграфічную палітыку на сваю карысць, вымушаючы мусульманаў да эміграцыі, не прымаючы да ўвагі іх этнічную або моўную прыналежнасць. На Балканах слова "турак" была сінонімам мусульманіна. Той факт, што большасць мусульманаў не былі ані моўна, ані этнічна туркамі - не меў ніякага значэння для ўрадаў новых "нацыянальных" дзяржаваў. Галоўным паказчыкам нацыянальнай прыналежнасці была і застаецца да сённяшняга дня рэлігія. Такі ж самы крытэрый дзейнічаў і ў Аттаманскай імперыі, а потым у Турцыі, якая лічыла баснійскіх славянаў, ілірыйскіх албанцаў і грэкаў туркамі, калі яны былі мусульманамі. Рэзультатам зменаў межаў, спантаннай і вымушанай міграцыі стала ўтварэнне мусульманскай меншасці ва ўсіх балканскіх дзяржавах, якія ўзніклі ў 19 ст. за выключэннем Албаніі. Албанцы пазбеглі ператварэння ў меншасць у сваей дзяржаве, абвясціўшы незалежнасць у 1912 г.

У вачах балканскіх урадаў мусульмане складалі найвялікшую перашкоду ў намаганнях стварыць аднастайны, аб'яднаны народ,

пагражаючы бяспецы дзяржавы, бо не пагаджаліся на асіміляцыю. Мусульманаў трактавалі як чужы элемент, якому нельга давяраць, негледзячы на тое, што мусульмане былі лаяльнымі да сваіх краінаў і сумленна выконвалі свае грамадзянскія абавязкі, уключна да службы ў войску.

У Аттаманскай дзяржаве (цяперашняя Турцыя) рэлігійныя супольнасці існавалі адасоблена, што перашкаджала іх асіміляцыі ў аднастайную нацыянальную дзяржаву. Трэба памятаць, што намаганні Аттаманскага ўраду па аб'яднанню рэлігійных груп у аднастайнае палітычнае грамадства шляхам прызнання ім права на прадстаўніцтва ў парламенце ў 1876-1878 г.г., не былі зрэалізаваныя, бо з аднаго боку пагражалі султанскай уладзе, а з другога былі холадна прынятыя Расіяй і Еўропай.

Аттаманская дзяржава ўвяла часткова карпарацыйную сістэму арганізацыі ў адносінах да немусульманаў. Практычна ўсе балканскія хрысціяне былі праваслаўнымі і падпарадкоўваліся ўладзе праваслаўнага патрыярха ў Істамбуле. Афіцыйна была празнана, што яны ствараюць адзіную рэлігійна-нацыянальную супольнасць - мілет. Патрыярх разам з сінодам ажыццяўляў поўную юрысдыкцыю ў справе ўсіх адукацыйных, рэлігійных і культурных пытанняў ва усёй праваслаўнай супольнасці, якая была падзеленая на малыя часткі, кожная з уласнай царквой у адпаведнасці з этнічна-моўным падзелам сярод праваслаўных. Габрэі таксама аб'ядноўваліся ў сваіх мілетах. Улада Аттаманскага ўраду распаўсюджвалася на справы заканадаўства і парадку, падаткі і абарону. Правы хрысціянаў і габрэяў на рэлігійную практыку і ўстанаўленне рэлігійных і культурных інстытутаў трактаваліся як род прыроднага права з Боскімі каранямі. Аттаманскі ўрад вельмі ўважліва прытрымліваўся погляду, што як габрэі, так і хрысціяне былі "Людзьмі Кнігі", што азначала, што яны кіруюцца правамі (Торы, Біблії), якія абвяўлены Богам; таму зямны ўрад ці нейкі закон, які ўстаноўлены органам, створаным чалавекам разам з аттаманскім урадам, не можа парушыць правы, атрыманыя ім згодна яго веры. У той жа час рэлігійныя кіраўнікі габрэяў і хрысціянаў не прызнавалі Боскага паходжання Кур'ану.

Мусульмане ў Турцыі не лічылі сябе большасцю, а хрысціянаў меншасцю. Гэтыя паняцці былі абсалютна чужыя аттаманскай дзяржаве, прававая структура якога абапіралася на роўнасць веравызнаўчых супольнасцяў, а не на этнічнай іерархіі. Мусульмане ідэнтыфікаваліся з уладай дзяржавы, а не з яго тэрыторыяй. Мусульмане павінны былі падпарадкоўвацца мусульманскай уладзе, а калі тая траціла ўладу над дадзенай тэрыторыяй, мусульмане пакідалі яе і пераяжджалі на тэрыторыю падуладную мусульманскаму ўраду.

У Грэцыі мусульмане з`яўляюцца адзінай афіцыйна прызнанай рэлігійнай меншасцю, якія карыстаюцца падтрымкай дзяржавы ў адпаведнасці з Пагадненнем, падпісаным ў Лазанне (1923 г.)

Мусульманаў у Грэцыі налічваецца каля 120000 чалавек. Гэта туркі- 50%, памакі - 35% і цыганы - 15%. Яны вельмі адрозніваюцца мовамі, культурнай спадчынай, гістарычным досведам і самасвядомасцю.

Каля 10000 вучняў-мусульманаў займаюцца ў 231 пачатковых школах правінцыі Трэйс (толькі пачатковыя школы дазваляюцца згодна з Пагадненнем у Лазанне). Настаўнікамі працуюць як мусульмане, так і хрысціяне. Мусульманскія настаўнікі выкладаюць турэцкую мову, матэматыку, прыродазнаўчы цыкл, хімію, рэлігію, мастацтва і музыку. Хрысціянскія настаўнікі выкладаюць астатнія прадметы. Згодна Пагадненню ў Лазанне часткова ўрокі могуць весціся на роднай мове меншасці. Але тут узнікае праблема: 50% дзяцей размаўляюць па-турэцку, 35%- па-памакску і 15% па-цыганску. Тым не менш, большая частка прадметаў, якія маглі б выкладацца на роднай мове меншасці, выкладаюцца на турэцкай мове з прычыны недахопу падручнікаў на іншых мовах.

На працягу шматлікіх гадоў навучанне меншасцяў у асноўным была рэлігійна зарыентаванае, колькасна пераважалі дрэнна падрыхтаваныя настаўнікі - улемы. З мэтай паляпшэння стану спраў быў створаны спецыяльны Настаўніцкі Каледж, які на 1994 г. скончылі 240 настаўнікаў з 435, пастаянна дзейнічаюць семінары па павышэнню кваліфікацыі. Друкуюцца новыя падручнікі, у якіх вялікая ўвага надаецца падтрыманню рэлігійнай і культурнай свядомасці.

Большасць мусульманскіх вучняў атрымоўваюць сярэднюю адукацыю ў звычайных школах. Ёсць таксама двухмоўна-двухкультурныя сярэднія школы і дзьве школы Кур'ана для меншасці ў Трэйс.

Пераход ад сярэдняй адукацыі да больш высокіх узроўняў для ўсіх дзяцей вельмі складаны. Толькі 1/4 з усіх кандыдатаў вытрымліваюць выпускныя экзамены. Толькі некаторыя з мусульманскіх выпускнікоў прабуюць паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Гэта тлумачыцца дрэнным веданнем грэчаскай мовы. Увогуле, з-за дрэннага ведання грэчаскай мовы вельмі затруднены працэс інтэграцыі мусульманскай моладзі ў сучаснае грэчаскае грамадства

Адзіная нацыянальная меншасць у Балгарыі - туркі, якія засталіся яшчэ з часоў панавання Турцыі. У 1878 г. яны складалі каля 20%, у 1926 - 13%. У выніку некалькіх хваль рэпатрыяцый, лічба зменшылася да 759 тысяч чалавек (9,2%). У асноўным гэта сяляне.

Балгарскі ўрад у міжваенны перыяд праводзіў адкрытую практыку дыскрымінацыі сваіх падданых турэцкага паходжання пасля таго, як група нацыяналістычных афіцэраў звергла дэмакратычна абраны ўрад і ўсталявала аўтарытарны фашысцкі рэжым.

Афіцыйная балгарская статыстыка прымала за крытэрый класіфікацыі мову, а не рэлігію, галоўным чынам дзеля таго, каб

прытушыць праблему меншасці. Тыя статыстычныя падлікі вызначалі толькі туркаў як меншасць і давалі лічбу 650 т.ч. Урадавыя дадзеныя дадаткова памяншалі лічбу, не улічваючы памакаў (мусульманаў, якія карыстаюцца славянскай мовай) і цыганоў. Апошнія балгарскія дадзеныя паказваюць, што лічба мусульманаў дасягае 1,3 млн.ч., а некаторыя дасведчаныя вучоныя падаюць лічбу ў 2-3 млн.ч., або 30% насельніцтва. Мусульмане канцэнтруюцца побач з турэцка-грэчаскай мяжой у рэгіёне Кырджалі ў Радопі, дзе яны складаюць абсалютную большасць, а таксама на паўночным усходзе ў акругах Разград, Шумен, Сілістра і Тутракан, дзе яны маюць фактычную большасць. Сярод мусульманаў абсалютную большасць складаюць суніты з нязначнымі групамі шыітаў.

Негатыўнае трактаванне мусульманаў ў Балгарыі мела месца нягледзячы нават на падпісанне дагавораў з Турцыяй, тым больш калі Турцыя стала членам НАТА. Так, Пратакол, падпісаны ў Стамбуле ў 1909 г. пацвярджаў пастановы арт. 15 Берлінскага Пагаднення, дзе падкрэслівалася, што этнічныя туркі трактуюцца роўна як і Балгары. Дагаворы 1913 г., 1919 г., асабліва дагавор аб сяброўстве 1925 г. пацвярджалі грамадзянскія і рэлігійныя правы туркаў і гарантавалі ім права на эміграцыю. (9)

Гэтыя правы былі пацверджаны і ў трактаце, які Балгарыя падпісала з пераможцамі ў Другой Сусветнай вайне ў 1947. Негледзячы на гэта у 1951-1952 г.г. па радзе Сталіна з Балгарыі дэпартавалі 152 т.ч. турэцкага паходжання. Мэтай гэтай акцыі была знішчэнне турэцкай гаспадаркі праз прымус Турцыі прыняць гэтую хвалю эмігрантаў, пасля таго як Турцыя ўступіла ў НАТА. Новае пагадненне 1968 г. мела на мэце злучэнне сем'яў, якія разбіліся ў 1951-1952г.г. Але Балгарыя забараніла эміграцыю туркам. А здарылася тое, што Балгарыя апынулася перад праблемай недахопу працоўных, якіх мелася скарыстоўваць пры будове дарог, дамоў, на сельскагаспадарчых працах. Туркам вельмі мала плацілі, асабліва за працу на вёсцы. Балгары ж браліся за больш прыбытковую працу. Тым часам натуральны прырост туркаў дасягнуў 3%, у параўнанні з 1,5% у Балгараў. Балгарскі ўрад палічыў гэта пагрозай. У снежані 1984 г. Тодар Жыўкаў са згоды свайго кабінету прымае рашэнне раз і назаўсёды вырашыць праблему мусульманаў. Загадана лічыць, што македонцы (168 т.ч.) - гэта этнічныя балгары. Такія ж самыя рашэнні прымаліся адносна румынаў, грэкаў і іншых нацыянальнасцяў. Балгарскія туркі таксама былі абвешчаны ісламізаванымі балгарамі, якія рашылі вярнуцца пад родныя дахі шляхам прыняцця хрысціянскіх імёнаў і звычаяў. Былі зачыненыя турэцкія школы, канфіскаваныя мячэці (за выключэннем мячэці ў Сафіі, якую паказвалі арабскім дыпламатам), разбураныя мусульманскія могілкі, забаронена карыстацца турэцкай мовай. 350 т.ч. балгарскіх грамадзянаў турэцкага паходжання пад прэтэкстам прадставіць ім "свабоду перамяшчэння" атрымалі пашпарты на паездку ў Турцыю.

якія мелі месячны тэрмін. Туркі ўзняліся з пратэстамі, пачаліся беспарадкі, у выніку якіх загінула некалькі соцень людзей, больш за тысячу была інтэрнавана на выспе Белене. (10). Шматлікія спробы міжнароднай супольнасці ўздзейнічаць на балгарскі ўрад не мелі аніякіх вынікаў. Вясной 1989 г. Туркі арганізоўваюць вялікую дэманстрацыю у Шуме з пратэстам супраць булгарызацыі. Дэманстрацыю разагналі з вялікай цяжкасцю. Наступныя турэцкія дэманстрацыі мабілізавалі дэмакратычныя сілы краіны. У выніку дыктатура Т. Жыўкава пала. Пасля падзення Жыўкава ў Балгарыю вярнулася каля 100 т.ч. з тых 350 т.ч. Ствараецца палітычная партыя на чале з Ахмедам Догана, выбраны 22 дэпутаты ў Народнае Сабранне. Але выхаванае на нянавісці да туркаў балгарская грамадскасць выказваецца супраць прызнання мусульманам роўных правоў. Працягвае існаваць пагроза правам мусульманаў нягледзячы на добрыя намеры дэмакратычна настроенага прэзідэнта Балгарыі.

В. Мацюшэнка

## ДОКТАР ІБРАГІМ КРЫНІЦКІ

Дачуўся я, што ў санаторыі "Белая Русь" на Мядзельшчыне працуе чалавек цікавай і рэдкай прафесіі - псіхатэрапеўт, іглярэфлексатэрапеўт, сексапатолаг, які паспяхова лечыць людзей. А мяне ўжо на працягу пяці год непакоіла сэрца, асабліва пасля хваляванняў.

І вось я на прыёме ў доктара Крыніцкага Ібрагіма Сулейманавіча, татарына па нацыянальнасці, як я аб гэтым даведаўся пазней. Прасторны кабінет, іграе спакойная музыка. Дзяўчынка, яго памочніца, прачытала некалькі артыкульчыкаў з перыёдыкі аб магчымасцях і выніковасці псіхатэрапіі, аўтатрэнінгу. Прыйшоў доктар, прапанаваў пацыентам заняць зручную позу, расслабіцца. Некаторым з наведвальнікаў гэтага кабінета зрабіў іголкаўколванне. Я да такога лячэння аднёсся скептычна, пагляд..ў за дзеяннямі Ібрагіма Сулейманавіча і, вядома, не паддаўся гіпнатычнаму сну. Атрымаў ад доктара заўвагу за недысцыплінаванасць.

З'явіўся я на другі сеанс. Нам прачыталі мінілекцыю па іглатэрапіі. Сярод пацыентак аказалася жанчына, якой балела нага. Яна кульгала і абапіралася на кіёчак. Доктар паставіў сярод пакоя крэсла, усадзіў хворую, зрабіў масаж. Праз 5-6 хвілін жанчына сказала, што болі прайшлі і без кійка роўнай хадой пайшла на сваё месца. "Падсадная", - падумаў я і цэлы сеанс назіраў за работай доктара. "Атрымаеце штрафную картку, - сказаў мне Ібрагім Сулейманавіч. - Не слухаеце маёй устаноўкі, то можаце больш і не прыходзіць, бо перашкаджаеце мне працаваць."

Трэці раз я ўсё-такі прыйшоў. Сам сябе так настроіў, што буду падпарадкоўвацца. Ібрагім Сулейманавіч стаў уколваць мне ў вушныя

ракавіны іголкі, каменціруючы, на які орган яны робяць уплыў. Каля заснуў - не памятаю. За маю недысцыплінаванасць доктар нада мной у той раз пажартаваў. Усіх пацыентаў разбудзіў, а мне прапанаваў расказваць. Я праз сон расказаў, як у час вайны бацька з суседам няўдала калолі кабанчыка, як той уцёк ад нас у лес. Прачнуўся я пад дружны смех хворых. Астатнія сеансы прайшлі нармальна. Доктар навучыў мяне прыёмам аўтатрэнінгу, якімі час ад часу карыстаюся і зараз.

Але пасля гэтага лячэння са мной здарылася адна прыгода. У доме адпачынку "Нарач" у 1991 г. чытаў лекцыю пра гіпноз лектар з Мінска і дэманстраваў сваё ўменне на слухачах. Я памятаю толькі тое, як заходзіў у залу, бо адразу заснуў. Разбудзіў мяне лектар. У зале ўжо нікога не было, а я сплю сном праведніка... на плячы суседкі справа, якая ўстаць не асмелілася, каб не скінуць мяне, а паклікала на дапамогу лектара.

Прайшло 7 гадоў. Да дактароў з сэрцам не звяртаўся, маю 63 гады, кардыяграмы, якія як педагогу здымаюць штогод, у норме.

Добрую справу робіць Ібрагім Сулейманавіч Крыніцкі. Шчырае яму дзякуй.

Іван Драўніцкі

## ШАНУЕМ ПАМЯЦЬ ПРАДЗЕДА

26 лютага 1896 г. ў невялікай татарскай ваколіцы Сандыкаўшчызне каля Ліды памёр Іосіф Бекіравіч Крыніцкі - добры мусульманін, памяць пра якого захавалася ў яго шматлікіх нашчадкаў, іх сваякоў і сяброў. Ён пражыў 74 гады, 1 месяц і 6 дзён. Меў братоў Ях'ю, Якуба, Амурата і Аляксандра. З жонкай Танзілёй з Аліевічаў нарадзіў і выгадаваў 8 сыноў і 4 дочак: Сулеймана, Ібрагіма, Зэху, Ях'ю, Алі, Мустафу, Бекіра, Рамазана, Мяр'ему, Зоф'ю, Айшу і Зеліду. Хоць сям'я была вялікая, а зямлі мелі толькі 15 дзесяцін, але жылі добра, дзеці атрымалі добрую адукацыю.

Хлопцы падраслі і пайшлі шукаць сваю дарогу, дзяўчаты выйшлі замуж за прыстойных людзей. На гаспадарцы застаўся сын Рамазан. Гэта быў дбайны гаспадар, меў сыноў: Іосіфа, Аляксандра, Лявона. Дачка называлася Зюня. Сыны Рамазана таксама выгадаваліся працавітымі.

Вось што мы ведаем пра дзяцей Іосіфа Бекіравіча. Сын Алі жыў на Жытоміршчыне, дзе меў маёнтак. Калі ў яго нарадзіўся сын, то ён прывёз яго ў Некрашунцы, каб паазаніць у роднай старане, і хлопчыку далі імя Іосіф у гонар дзеда. У Гродзенскім архіве збераглася мусульманскія метрыкі і там ёсць запіс, які сведчыць, што гэты хлопчык народжаны ў дваранскай мусульманскай сям'і. Мустафа Іосіфавіч быў службоўцам у Пецярбургу. Ён перажыў у гэтым горадзе блакаду ў час Вялікай Айчыннай вайны. У 1946 г. прыязджаў на

радзіму. У Ленінградзе памёр і там пахаваны. Яго сын Эрык вывучыўся на інжынера. Быў сасланы ў Сібір, дзе і памёр. Сын Бекір Іосіфавіч любіў вайсковую справу. Служыў у Екацерынадары і Ніжнім Ноўгарадзе. Даслужыўся да чыну палкоўніка і ў час рэвалюцыі быў расстраляны бальшавікамі. Старэйшы сын Іосіфа Бекіравіча - Сулейман быў фінансістам, затым віцэ-губернатарам Таўрычаскай губерніі. Таксама быў расстраляны бальшавікамі ў 1920 г. Дачка Іосіфа Бекіравіча - Зоф'я была замужам за Люцьянам Байрашэўскім, які меў маёнтак у Ваўкавыскім павеце. Унучка Зоф'і была замужам за Вассанам Гірэем Джабагі - рэдактарам часопіса "Мусульманскі далягляд", які друкаваўся ў Польшчы. Іх дачка - Джаннета, маёр Войска Польскага, змагалася з нямецкімі фашыстамі (пра яе "Байрам" друкаваў невялікі артыкул). Яшчэ адна дачка Крыніцкага - Айша Іосіфаўна выйшла замуж за Палтаржыцкага, які ў Слонімскім павеце меў маёнтак. Яны таксама жылі добра.

Астатнія дзеці Іосіфа Бекіравіча мелі сем'і і жылі ў Багоніках (цяпер гэта мясцовасць у Польшчы), у Вільні і Троках.

Праглядваючы альбом са старымі, добрымі фатаграфіямі на тоўстым картоне, бачу прыемныя мне твары супляменнікаў - мусульман. Удзячны сваім продкам за тое, што яны нарадзілі і выгадавалі добрых дзяцей, а тыя ў сваю чаргу сваіх. З пакалення ў пакаленне перадаюцца вельмі важныя рысы характару: сумленнасць, працавітасць, добрасуседскасць з навакольнымі людзьмі на нашай зямлі.

Аляксандр Крыніцкі,
праўнук Іосіфа Бекіравіча
Крыніцкага.

## "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

**(слоўнік - назвы артыкулаў, якія мяркуем скласці і надрукаваць у энцыклапедычным даведніку, названым у загалоўку)**

Складзены слоўнік на падставе даведнікаў і манаграфічнай літаратуры. Пасля слова ці групы слоў, якія абазначаюць падзею, прадмет, імя чалавека (прозвішча), нярэдка ў слоўніку пазначаны вялікімі літарамі і лічбамі дадатковая інфармацыя, а лічба - нумар старонкі ў кнізе, дзе пра энцыклапедычны артыкул ёсць некаторыя звесткі.

БД - Пётр Бараўскі і Аляксандр Дубіньскі. "Польскія татары. Гісторыя абрады, легенды, традыцыі", 1986;
ЯТ - Ян Тышкевіч. "Татары Літвы і Польшчы", 1989;
АМ - Алі Міськевіч. "Польскія татары 1918 - 1939", 1989;
Г - Зыгмунт Глогер. "Старапольская ілюстраваная энцыклапедыя" Т. 1-4, 1959.

Паважаны чытач! У надрукаваным тут слоўніку будучых артыкулаў, якія пачынаюцца на літары "Ч", "Ш", "Э", "Ю", " Я". У гэтым слоўніку, як і ў папярэдніх, вядома, могуць быць пропускі. Дасылайце свае прапановы, а яшчэ лепш - завершаныя артыкулы, а таксама палепшаныя Вамі артыкулы, якія ўжо былі некім напісаны і друкаваліся ў "Байраме" як пробныя.

## Ч

Ч, літара
Чагатай, хан, гл. ў арт. Залатая Арда
Чагатайскі ўлус
Чадра, хіджаб, паранджа
Чакан, баявы тапор, молат, Г, Т.1 291
Чалдар, чапрак, пакрыццё для каня, Г, Т.1 291
Чалма, завой
Чамара, чамарка, адзенне, Г, Т.1 260
Чамбул, чамбур, чэмбур, чэнбур, атрад з некалькіх соцень воінаў, які робіць рабаўнічы наезд, Г, Т.1 260
Чапрак, тое што і чалдар
Чарнігаўскае княства
Чарнецкі Стафан, нацыянальны герой Польшчы, ВД 79
Чартарыйскія, польскія магнаты, БД, 114
Чахчэры, порткі вайскоўца, Г, Т.1 285
Чацкі Т., навуковец, БД 268
Чаша, посуд для піцця, Г, Т.1 285
Чорны баран, гл. ў арт. Ахвяры супроць згубнай засухі і заліўных дажджоў, БД 202
Чорныя клабукі, народ, гл. таксама каракалпакі
Чорны шлях, гл. Шляхі татарскіх нападаў, Г, Т.1 266
Чыгаршэнбе, серада
Чым, назва літары "Ц"
Чыжэўскі Пётр, аўтар пашквільнай друкаванай працы - "Альфуркана...", БД 205, 206
Чынгізіды, дынастыя
Чынгіс Улан, хан, гл. ў арт. Залатая Арда
Чынгісхан, стваральнік імперыі, ЯТ 57 - 59, 63, 67, 71, 94, 97, 111.
Чэ, назва літары "Ч"
Чэнет, рай, гл. Джанна
Чэркеская мода, Г, Т.1 289

## Ш

Ш, літара
Шаабан, шабан, шаўбан, восьмы месяц
Шабля, Г, Т.4 296
Шагарэк, яда перад узыходам сонца ў месяцы Рамазан

Шэйтан, гл. Шайтан
Шэйх, шайх, мудрэц, патрыярх, старшыня
Шэйх Ахмет, гл. Шах Ахмат
Шэнбе, субота
Шэраб, хмяльны напітак
Шэрбет, прыемны, асвяжальны напітак
Шэрх, шурхун, тлумачэнне, каментарый
Шэрыф-Байрам, святочнае віншаванне
Шэфаат, абарона, ахова
Шэфіў, распарадчык?
Шэшэнбе, аўторак

## Э

Э, літары
Эзраіл, куранічны персанаж
Эйям-уль-Мутах, вызначаны час
Эліяш, прарок, гл. Ільяс
Эльхам пець, чытаць першую суру з Кур`ана
Эльхамду Лілляг
Эмазліф
Эманат, гл. Аманат
Эміграцыя татараў, БД 105, 134, 171; з Казані пасля 1553, з Астрахані пасля 1556, ЯТ 117, 123, 125, 129, 145-148, 159, 161, 168, 221, 160; з Беларусі, Літвы і Украіны ў Польшчу, АМ 166, 167; у Заходнія краіны ў ваенныя і пасляваенныя гады, АМ 167; у канцы 19- пач. 20 ст. у Турцыю і ЗША, АМ 22, 23
Эміруль Мумін, уладар праведны
Энсары, гл. Ансары
Эраб, араб
Эркішы, мужчына, юнак
Эрш, гл. Арш
Эрэфе, гл. Арафа
Эскадрон татарскі ў 1936-1939 гадах, БД 166, 168; АМ 155-159
Эскадроны татарскія
Эсма, імёны
Эсрэ, гл. Аср
Эстэгфіруллаг, слова, якое прамаўляецца, калі чалавек ікае
Эсхаб, гл. Азгаб
Эсхабуль-Мешэмееты, левае крыло
Эсхабуль-Емін, правае крыло
Эсхабу - Шыталь
Этнаграфічная татарская група ў Польшчы, АМ 159-163
Эўвель, Эввелі, перал, эўлія, гл. Аўлія
Эўма, Эвма, сляпы
Эхіра, гл. Хіджа
Эхль, народ
Эхкаб, жыццё пасля смерці, гл. Ахіра, Ахірэт

# БУДЫНАК МЕДРЭСЭ УЛУГБЕКА Ў САМАРКАНДЗЕ

Кожнаму, хто цікавіцца архітэктурай Сярэдняй Азіі, вядомы будынак медрэсэ Улугбека ў Самаркандзе, ва Узбекістане. Пабудаваны ў 15 стагоддзі як сярэдняя і вышэйшая навучальная ўстанова, дзе выкладчыцкую і навуковую працу вялі выдатныя спецыялісты з розных галін чалавечых ведаў.

Сваім фасадам будынак выходзіць на плошчу Рэгістан, якая замыкаецца з двух бакоў велічнымі фасадамі больш позніх медрэсэ: Тылля-Кары і Жыр-Дор. У плане медрэсэ Улугбука прадстаўляла сабою замкнёны прамавугольны двор, заднюю частку якога займала мячэць, якая служыла таксама аўдыторыяй. Вакол двара ішлі два ярусы адкрытых звонку арак, за якімі размяшчаліся келлі для навучэнцаў.

Сярэдзіна пярэдняй часткі будынка занята грандыёзным парталам, які выходзіць на плошчу. Аналагічныя парталы меншага памеру ўваходзілі ў склад архітэктуры і трох астатніх сцен унутры двара. На задняй яго частцы партал служыў манументальным уваходам у мячэць. Па вуглах усяго ансамбля ўзвышаліся чатыры гонкія мінарэты.

Самае адметнае ў архітэктуры медрэсэ, несумненна, велічныя парталы, у асаблівасці партал вонкавага фасада, які выходзіць на плошчу. Партал гэты мае значэнне чыста дэкаратыўнае, яго сэнс - толькі ў мастацкім уражанні, якое надае яго манументальнасць і веліч. Уражанне гэтае дасягаецца надзвычай простым прыёмам, у першую чаргу перабольшанным памерам партальнай нішы, гэта значыць уваходу, падкрэсленым дадаткова кантрастам з дзвярыма, якія знаходзяцца ў глыбіні, аблямаванымі аркай, падобнай на нішу па сваёй форме. Такую ж ролю, як дзверы, выконваюць у адносінах да партальнай нішы і аналагічныя рамкі, што упрыгожваюць фасад партала і прылягаючыя да яго сцены. Вельмі істотнае значэнне для значнай велічнасці партала маюць тыя абставіны, што ён вылучаны ў самастойны аб'ём, які ўзвышаецца над двухпавярховым фасадам часткі будынка, які стаяў бы не ізалявана, а ўключаны ў склад шматпавярховага будынка, рабіў бы ўражанне намнога менш значнае. Уражанню манументальнасці садзейнічае і геаметрычная прастата аб'ёмнай формы партала. Ён успрымаецца з плошчы як простая прамовугольная прызма з простым па форме выразам нішы. Замест складанай гатычнай ігры больш дробных архітэктурна-пластычных форм, тут проціпастаўлены адзін другому буйны матэрыяльны і поўны аб'ём і высокі бар'ер вертыкальнай сцяны і адкрытая прастора нішы, якая як бы ўцягвае чалавека ў сябе. Дакладна і шматзначна выражана

двайная роля ўвахода ў партале медрэсэ: адкрытая партальная ніша і дзверы ў ёй адчыняюць шлях у глыбіню, а высокая сцяна фасада і задняя сцяна нішы быццам спыняе таго, хто ўваходзіць, астановіцца і падзівіцца веліччу і прыгожасцю дома Аллага, імя якога то тут, то там відаць у стракатых кафельных узорах, што ўпрыгожваюць фасад. Каляровы покрыў усяго галоўнага фасада медрэсэ як бы скрывае глухату і масіўнасць сцен, у прыватнасці галоўнай сцяны, надае ёй лёгкасць і прывабнасць.

Архітэктуры медрэсэ характэрны наогул не цяжкія мураваныя масівы, а лёгкія паверхневыя абалонкі і часткі поўнай прасторы нішаў. Рэльефныя дэталі сцен - карнізаў, выступаў, рустоўкі і г.д., якія надаюць таўшчыню і масіўнасць сцяне, ці зусім адсутнічаюць, ці зведзены да мінімуму; дэкаратыўныя арачныя рамкі маюць зусім слабы рэльеф і хутчэй наводзяць на думку аб тонкасці сценавай абалонкі; дробны арнамент, які ідзе часткова па дыяганалі, таксама адводзіць ад думкі аб цяжкасці муроўкі; аб гэтым гаворыць і расфарбоўка сцен блакітнай і сіняй кафляй, г.зн. колерамі не ўласцівымі для цяжкага будаўнічага каменю.

Лёгкасць галоўных паверхняў фасада падкрэсліваецца суседствам іх з пластычнымі цыліндрычнымі формамі мінарэтаў і купаламі ў глыбіні пралётаў паміж мінарэтамі і партал (цяпер купалоў ужо няма). Але акрамя таго, што і мінарэты і купалы былі гранічна аблегчаны дэкаратыўнай апрацоўкай, мінарэты так энергічна ўцягваюць у кампазіцыю мячэці неба і паветраную прастору, што іх пластыка не гучыць дысанансам у светлым, лёгкім і адкрытым мастацкім воблікам цэлага. У прыватнасці, верхнія граніцы верхняй, паветранай зоны адкрытай прасторы двара, як бы ўводзяць у склад архітэктуры медрэсэ кавалак гэтай адкрытай прасторы вечна блакітнага самаркандскага неба. З спакоем гэтага бясхмарнага неба як бы асабліва родняцца простыя, буйныя, манументальна-спакойныя архітэктурныя формы медрэсэ. Але гэты спакой далёкі ад цяжкай нерухомасці каменнай тоўшчы; ён увесь насычаны жыццём колеру і лёгкай вытанчасці дынамікай бясконца разнастайнай узорнай ігры.

А. Цырас

## ТАТАРСКИЕ УЛАНЫ ПОД КУЛЬМОМ

В русской армии существовало два Татарских уланских полка - в 1797 - 1833 и 1891 - 1918 г.г. Наиболее известен в военной историографии Татарский уланский, сформированный в 1797 г. Второй полк при формировании не получил права наследования первому.

Уланы - род легкой кавалерии ряда европейских армий в XIX - начале XX в.в., а в Польше до 1950-х годов. Название происходит от титула предводителей татарских конных отрядов - уланы, огланы, которые поступали на службу к польским королям и литовским

князьям с XVI в. После I раздела Речи Посполитой в 1772 г. уланские части появились в Австрии и Пруссии. В Росии прообраз уланских полков - Татарский легко-конный полк - был сформирован в июне 1797 г., а в 1803 г. разделен на Татарский и Литовский, а в 1807 г. переформирован в Татарский уланский. Особенностью первых польских, австрийских, прусских и русских полков этого типа являлось то, что они формировались в основном из татар и мусульман других национальностей. В эпоху наполеоновских войн (1796 - 1815 г.г.) стали больше формировать уланских полков. Они появились во Франции, Италии, германских государствах и даже в Великобритании. С увеличением количества уланских полков в них стали служить не только татары, которых было очень мало, а в таких государствах как Великобритании их вообще не было.

Родоначальником всех российских уланских полков был Татарский легко-конный' полк 10-эскадронного состава, сформированный по так называемому "польскому" образцу из товарищей (рядовые-дворяне), шеренговых (рядовые-недворяне), наместников (унтер-офицеры), штаб и обер-офицеров и нестроевых. Боевая деятельность полка началась в 1799 г. в Швейцарии в корпусе генерала А.М. Римского-Корсакова. В 1806 г. командиром полка стал полковник, с 1912 г. генерал-майор и шеф полка, Карл Богданович Кнорринг (1775 - 1817г.г.), на время которого приходятся наиболее яркие страницы истории татарских улан. Полк активно участвовал в русско-прусско-французской войне 1806 - 1807 г.г. и отличился в сражении 14 (26) декабря 1806 г. под Пултуском. Особенно успешно полк воевал в период Отечественной войны 1812 г. и заграничных походов 1813 и 1814 г.г. Достаточно указать сражения и бои, в которых участвовали татарские уланы: Кобрин 12 (24) июля 1812 г., Городечна 31 июля (12 августа), Чаруков 8 (20) сентября, Несвиж и Мир 1 (13) ноября, Койданово (сейчас г.Дзержинск) 3 (15) ноября, освобождение Минска 4 (16) ноября; в декабре 1812 г. перешли западную границу. В 1813 г. состоялся ряд сражений в Германии и Австрии: Люцин 20 апреля (2 мая), Бауцен 8-9 (20-21) мая, Кульм 17-18 ( 29-30) августа и осада города-крепости Магдебурга с декабря 1813 по март 1814 г.

В 1813 г. состоялся ряд генеральных сражений союзников (русские, австрийцы, прусаки и шведы) с наполеоновскими войсками. В XIX в. "генеральными" называли те сражения, которые по планам их инициаторов должны были привести к победоносному завершению кампании. В 1813 г. генеральными являлись сражения при Люцине, Бауцине, Кульме и Лейпциге 3-7 (15-19) октября. Решающей в кампании 1813 г. для союзников была "Битва народов" под Лейпцигом.

Наивысшего успеха в период наполеоновских войн Татарский уланский полк достиг в генеральном сражении под Кульмом 17-18 (29-30) августа 1813 г. Кульм (современный г. Хлумец в Чехии) расположен северо-восточнее г. Теплица. После неудачного сражения

14-15 (26-27) августа под Дрезденом союзная армия (русские, австрийцы и прусаки, всего около 140 тыс. человек) отступила в Богемию (Чехия). Наполеон, чтобы окружить и разгромить союзников, послал на Теплиц 37 тыс. корпус генерала Ж.Д. Вандама, который вышел в тыл союзной армии. На этом направлении союзную армию прикрывал отряд генерала-лейтенанта А.И. Остерман-Толстого в составе 1-й гвардейской пехотной дивизии, 2-го армейского корпуса генерал-лейтенанта принца Евгения Виртембергского и особого отряда генерала-майора Гельфрейга, всего 17 тыс. чел. Отбиваясь от войск Вандама, союзные войска отступали к деревням Кенигштейн и Петерсвальде, находившихся надалеко от Теплица, где начинались первые стычки, приведшие к Кульмскому сражению. Именно из-за этого некоторые историографы, особенно в Германии, данное сражение называют "Теплицким". 16 (28) августа позиции около Петерсвальде защищали русские 1-я гвардейская дивизия и части 2-го пехотного корпуса, которые ночью вынуждены были отойти к Кульму. Прикрывал отход союзников, арьергард под командованием генерала- майора К.Б. Кнорринга в составе Ревельского пехотного, 4-го Егерского и Татарского уланского полков.

Собственно Кульмское сражение распадается на две части: 17 (29) августа, когда союзники отбивались от французов и пополнялись новыми частями, и 18 (30) августа - день разгрома и пленения большей части корпуса Ж.Д. Вандама.

17-го с рассветом французы начали наступление на передовые позиции 2-го русского пехотного корпуса принца Е.Виртембергского, располагавшегося в центре. Поскольку полки корпуса (9 батальонов), в т.ч. и Минский пехотный, были обескровлены предыдущими боями, то они вынуждены были под напором противника отойти ближе к Кульму. Поэтому вся тяжесть сражения здесь пришлась на гвардейские полки. Левый фланг русских позиций был наиболее важным, т.к прикрывал горные пути, по которым от Дрездена отступала союзная армия. На правом фланге располагалась союзная кавалерия, в т.ч арьергард К.Б Кнорринга, в который входили татарские уланы. Первый самый тяжелый день сражения фактически завершился к 7 час вечера и шла только перестрелка стрелков и егерей в отдельных местах. Несмотря на непрерывные атаки французов и большие потери, союзники устояли и не позволили противнику отрезать пути отхода союзной армии от Дрездена. Союзники потеряли около 6 тыс. убитыми и ранеными. Тяжело ранен был и командующий корпусом А.И. Остерман-Толстой, ему оторвало левую руку, и вместо него командование принял генерал-лейтенант А.П. Ермолов. На ночь гвардия, понесшая большие потери, была отведена на отдых и переформирование. Её позиции для охранения заняли полки 2-го пехотного корпуса. Отряд К.Б. Кнорринга отошел на Кульм, где и остановился на отдых.

Основное сражение произошло 18 (30) августа. За ночь к Кульму подошла часть главной армии под начальством генерала от инфантерии М.Б. Барклая-де-Толли, который и возглавил союзные войска. Формально сражением "руководили" прибывшие с передовым корпусом российский император Александр I (1801-1825), австрийский император Франц II (1792-1835) и прусский король Фридрих Вильгельм III (1797 - 1840), которые расположились на высоте у дер. Шлосберн. Наполеон, узнав, что к его противникам на помощь следует вся союзная армия, двинулся на помощь Ж.Д.Вандаму, но не успел. У союзников к концу сражения имелось около 97 тыс. человек.

Боевые действия 18 августа начались рано утром с перестрелки русских егерей и французских стрелков. М.Б. Барклай-де-Толли решил окружить со всех сторон французов и одним ударом уничтожить их. Левым флангом командовал генерал князь Д.В.Голицын 1-й, центром - М. Милорадович, а правым - австрийский генерал граф Коллоредо. На правом фланге находился отряд ген.-м К. Б. Кнорринга (Татарский уланский, Кирасирский Его Величества, австрийский драгунский эрцгерцога Иоанна и донской казачий В.Д.Иловайского 12-го полка). В 11 часов в тылу французов около дер. Ноллендорф вышел корпус прусского генерал-лейтенанта Ф. Клейста, что отвлекло некоторые части корпуса Ж.Д.Вандама. Услышав первые выстрелы, М.Б. Барклай-де-Толли приказал союзникам наступать в центре и на левом фланге. Войска графа Коллоредо двигались в обход на деревню Нейдорф и Кульм. В голове наступающих шли татарский уланы и кирасиры. Во время атаки они захватили высоту и три французских орудия, располагавшиеся там. Поскольку высота доминировала над полем сражения, французы отбили ее, но стремительной атакой татарские уланы и кирасиры опять заняли высоту. С установкой на высоте 18-орудийной батареи положение французов стало безнадежным и вскоре они прекратили сопротивление. Только небольшой части кавалерии удалось прорваться и спастись. Корпус Ж.Д. Вандама был уничтожен. Французы потеряли убитыми 5 тыс. чел. (в том числе 2 генералов), пленными свыше 12 тыс. человек, в т.ч. 5 генералов с Вандамом, 84 орудия и 200 зарядных ящиков, 3 знамени и 2 орла и весь обоз. Союзники потеряли 17 августа более 6 тыс. чел. (в основном русские), а 18-го 3300 чел. (1000 русских, 1500 пруссаков и 800 австрийцев).

Победа под Кульмом имела большое значение для морального подъема союзников, потерпевших до этого ряд тяжелых поражений, и для укрепления антифранцузской коалиции,т.к. Австрия уже готовилась выйти из нее. Александр I, который считал, что он сделал большой вклад в дело победы, не поскупился на награды. Многие воинские части получили наградные георгиевские знамена, георгиевские и серебряные трубы и марши, ряд генералов и офицеров награжден различными орденами, нижние чины - знаками Военного ордена (впоследствии Георгиевский крест) и по 2 рубля серебром для

всех нижних чинов без исключения. В честь подвигов российской армии под Кульмом 18 авг. 1814 г. был учрежден "Комитет для вспомоществования неимущим воинам, пролившим кровь свою на поле чести", а 17 авг. 1835 г. на поле сражения был заложен памятник. Австрийский имп. Франц I прислал для наиболее отличившихся генералов и офицеров золотые и серебрянные медали. Прусский король Фридрих-Вильгельм III наградил всех нижних чинов учрежденным 10 мая 1813 г. Железным крестом, что вызвало недовольство прусских офицеров, для которых эта награда была недостижимой. Поэтому из орденского знака убрали королевский вензель, и в России он получил название "Кульмского креста".

Не обойден был наградами и Татарский уланский полк. Поскольку по уставу он не мог иметь не только Георгиевский штандарт, но и просто полковой, то уже 20 авг. 1813 г. ему были пожалованы серебряные трубы с надписью "За отличие в сражении при Кульме 17 августа 1813 года". За проявленную храбрость и умение руководить войсками под Кульмом шеф Татарского уланского полка генерал-майор К.Б. Кнорринг, который был ранен, но не покинул поля боя, в совокупности с предыдущими подвигами был награжден орденом св. Георгия 3-й степени (на шею). Наиболее отличившиеся нижние чины были награждены знаком Военного ордена и все без исключения Железным крестом ("Кульмский крест") и по 2 рубля деньгами.

Заграничные походы 1813 и 1814 г.г. для татарских улан завершились осадой города-крепости Магдебурга, куда они прибыли в декабре 1813 г. В конце 1814 г. Татарский уланский полк вернулся в Россию и квартировал на территории современной Беларуси.

Ш. Бектинеев.

## Пробныя артыкулы для энцыклапедычнага даведніка "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ" (і ўсё, што іх цікавіць)

Адашаў Салі, нарадзіўся 2.3.1923 г. у нас. пункце Туда Нарынскага раёна Наманганскай вобл. Узбек. Член КПСС з 1946 г. У 1941 г. скончыў педтэхнікум у г. Андыжан. Настаўнічаў у пачатковай школе. У Чырвонай Арміі з 1942 г. З 1942 г. на фаронце. 23.6.1944 пры прарыве абароны непрыяцеля аддзяленне 459-га стралковага палка (42-я стралковая дывізія, 49 -я армія, 2-і Беларускі фронт) пад камандаваннем камсамольца ст. сяржанта Адашава знішчыла 20 гітлераўцаў. Фарсіраваўшы р. Бася ў раёне вёскі Чэрнеўка (Шклоўскі раён Магілёўскай вобл), аддзяленне вяло бой у акружэнні і злучылася з наступаўшымі падраздзяленнямі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Пасля вайны жыве і працаваў у г. Наманган.

Азімаў Раза, нарадзіўся 22. 9. 1925 у с. Чука Цюбе Сузакскага раёна Ошской вобл. у сям'і селяніна, Узбек. Адукацыя незавершаная сярэдняя. Працаваў у калгасе. У Чырвонай Арміі з верасня 1943 г. З 3.6. !944 г. на фронце. 23.6. 1944 г. каля в. Казаногава (Шумілінскага раёна Віцебскай вобл.) кулямётчык 1124-га стралковага палка (334-я стралковая дывізія, 43-я армія, 2-ы Прыбалтыйскі фронт) камсамолец радавы Азімаў у рашаючы момант бою падняў байцоў у атаку. 25.6. 1944 г. у ліку першых фарсіраваў Зах. Дзвіну ў раёне в. Грынёўка (той жа раён), уварваўся ў траншэю непрыяцеля. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22. 7. 1944.

У 1951 г. скончыў рэспубліканскую партшколу пры ЦК КП (б) Кіргізіі, у 1965 - Джалал-Абадскае педвучылішча. Да 1974 г. на гаспадарчай і партыйнай рабоце. Жыве і працаваў у г. Джалал-Абад Ошскай вобл.

Амінаў Халлак, нарадзіўся 3.5. 1915 г. у нас. пункце Іскагоры цяпер Шафірканскага раёна Бухарскай вобл. ў сям`і селяніна. Член КПСС з 1946 г. Адукацыя незавершаная сярэдняя. Працаваў брыгадзірам у калгасе. У Чырвонай Арміі са снежня 1941 г. У дзеючай арміі з кастрычніка 1942 г. Камандзір аддзялення 60-га гвардзейскага коннага палка (16-я гвардзейская конная дывізія, 7-ы гвардзейскі конны корпус, 61-я армія, Цэнтральны фронт) гвардыі радавы Амінаў 27.9. 1943 г. ў ліку першых фарсіраваў Дняпро ў раёне Камарына (Гомельская вобл), Яго аддзяленне замацавалася на захопленым рубяжы, садзейнічала пераправе эскадрона, Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15. 01. 1944 г. Пасля вайны дэмабілізаваны. Жыве ў Іскагоры.

Анам, аль-Анам, 6-я сура з Кур`ана. Складаецца з 166 аятаў. Названа ад слова са 137 аята (трапляецца гэта слова і ў наступных), на беларускую мова гэта слова перакладаецца **жывёлы**. Гэта адна з апошніх мекканскіх сур, абвешчаных у час, блізкі да перасялення Мухаммеда з Меккі ў Медыну.

У гэтай суры сцвярджаецца тое, што Аллаг адзін і ідзіны і прычына ўсяго, што існуе на небе і на зямлі. Аллаг не можа быць зразуметы і апісаны людскімі паняццямі, а ўсялякія спробы персаніфікацыі вядуць да скажэнняў і забабонаў, да ідалапаклонніцтва і мнагабожжа. Адсюль частыя алюзіі (намёкі) да хрысціянскага дагмату аб боскасці Ісуса Хрыста, як спрэчнага дагматам Ісламу, які прызнае толькі абсалютна чысты монатэізм (адзінабожжа).

Ю. Бяляўскі

Андыжан, горад, цэнтр Андыжанскай вобл. Узбекістана, чыгуначны вузел. 293 тыс. ж. Вядомы з 9 ст. пад назвай Андукан. З 15 ст. Андыжан, размешчаны на караванным шляху ў Кітай, - гандлёвы і рамесніцкі цэнтр Ферганы. З 1876 г. ў складзе Расіі. У 1902 г. моцна пацярпеў ад землетрасення. З пачатку 20 ст. адзін з буйных эканамічных і гандлёва-прамысловых цэнтраў Туркменістана. Машынабудаванне і металаапрацоўка, лёгкая, харчовая прамысловасць; гідролізны завод. Народныя промыслы: вышыўка і

вытворчасць дываноў. 4 ВНУ. Тэатры: драмы і камедыі, лялек. Гісторыка-краязнаўчы музей. Андыжан - радзіма ўзбекскай паэтэсы Надзіры (1792-1842). Зберагліся медрэсэ і мінарэт Джамі (канец 19 ст). Антычны археалагічны помнік Сарвантэпа.

Араф, аль-Араф, 7-я сура з Кур'ана. Складаецца з 207 аятаў. Сура мекканская. Аль-Араф даследчыкі Кур'ану трактуюць як імя ўласнае. Назва суры ўзята з аята 47. Паводле некаторых вучоных (у іх ліку Валерыя Парахава) назву суры можна тлумачыць як круча, высокая града, горны ланцуг, заслона, які ў Дзень Апошняга Суда стане як бы месцам падзелу ўваскрошанага люду на верных і няверных, на жыхароў раю або пекла. Праблемы, разглядаемыя ў суры, вельмі складаныя, але пераважае тэма"супраціўленне Аллагу і Яго законам", пачынаючы ад шайтана Ібліса. Зместам суры з`яўляюцца таксама тэмы, як грэх Адама і яго жонкі; выгнанне іх з раю як павучэнне для іх нашчадкаў. Прадстаўлены постаці прарокаў: Нуга (Ноя), Гуда (Худа), Саліга (Саліха), Лута (Лота), Мусы (Майсея), Фірауна (Фараона), пазнейшая гісторыя габрэяў. Напамінае пра апошнюю часіну, якая прыходзіць да чалавека неспадзявана. У суры часта паўтараецца формула Ісламу: Аллаг адзін і адзіны.

Ю. Бяляўскі

Бацькоў шанаванне. Чалавечыя дзеці нараджаюцца і на працягу першых гадоў свайго існавання бездапаможныя, не могуць жыць без дагляду і жыўлення, якія ім забяспечваюць бацькі. З цягам часу дзіця ўсведамляе, чым яно абавязана сваім бацькам. Ва ўсе часы і ва ўсіх народаў існаваў звычай шанавання бацькоў іх дзецьмі як удзячнасць за гадаванне іх у маленстве і як нагляднае павучанне для сваіх дзяцей, якім з цягам часу давядзецца даглядаць сваіх састарэлых і нямоглых бацькоў. У Кур`ане - свяшчэннай для мусульман кнізе ёсць яснае ўказанне пра тое, чаму і як трэба шанаваць бацькоў. Выкананне патрабаванняў і парад дастаткова для таго, каб чалавек адчуваў сябе чалавекам. Муфтэй Рэчы Паспалітай ў кнізе "Аяты з Кур`ану", якая была надрукавана ў Сараеве ў 1935 г., прыводзіць наступныя радкі пра шанаванне бацькоў, якія трэба ведаць і выконваць мусульманіну, перадаваць іх для сваіх дзяцей.

З суры 17 (аль-Ісра-Начное падарожжа), аяты 24 і 25.

24. І пастанавіў твой Гасподзь, каб не пакланяліся нікому, акрамя Яго; быць добрымі да бацькоў. Калі адзін з іх дажыве да старэчых гадоў з табою, або абое, ніколі не кажы ім "прэч" і не папракай іх, але звяртайся да іх з добрым словам.

25. Будзь пакорны ў адносінах да іх і літасцівы і маліся Аллагу такімі словамі: "Акажы ім Сваю міласць, Божа, якую меў я ад іх міласць і клопат у маленстве".

З суры 29 (аль-Анкубат-Павук), аяты 9 і 10.

9. І мы прадпісалі чалавеку чыніць дабро бацькам яго; але, калі яны прымушаюць цябе дадаваць да Мяне нешта (што адхіляе ад праўдзівай

веры), пра што ты не маеш паняцця, тады не слухай іх. Да мяне вы вернецеся і я абвяшчу вам, што вы зрабілі.
10. Тых, хто верыць і чыніць дабро, залічым у лік праведных.

З суры 31 (Лукман), аяты 15 і 16.

15. Мы прадпісалі чалавеку што ў адносінах да бацькоў: -маці насіла яго (дзіця) у вялікіх цяжкасцях, а адлучала ад грудзей пасля двух гадоў. Будзь жа ўдзячны Мне і сваім бацькам. Да Мяне ёсць вяртанне ў канцы"
16. А калі яны будуць спрабаваць прымусіць цябе, каб Мне дадаваў сатаварышаў - пра што не маеш ніякіх ведаў - то не слухайся іх! Аднак заставайся ў адносінах да іх на гэтым свеце годным і ідзі па дарозе тых, хто пакорны Мне. Пасля вернецеся да Мяне, і я паведаю вам пра тое, што вы зрабілі.

З суры 46 ( аль-Агкаф-Пясчаным выдмы), аят 16

16. І прадпісалі Мы чалавеку рабіць дабро бацькам сваім. Маці яго носіць з болем, і раджае з болем. І выношванне яго і кармленне да адымання ад грудзей бярэ трыццаць месяцаў. Калі ён дасягае поўнай спеласці і даходзіць да саракагадовага ўзросту, ён няхай скажа— "Уладыка мой! Натхні мяне быць удзячным за Міласць Тваю, якую Ты паслаў мне і бацькам маім, і чыніць дабро, да задавальнення Твайго. І ўчыні для мяне дабро ў маіх нашчадках. Звяртаюся да Цябе і я сярод тых, каторыя пакараюцца Табе".
У Аль-Кітабе беларускіх татараў-мусульман сярод іншых напісана павучанне Пра шанаванне бацькі і маці.

Беруні, Біруні (да 1958 г. Шаббаз), горад (з 1962 г.), раённы цэнтр у Каракалпацкай рэспубліцы (Узбекістан). За 20 км на ПнУ ад чыгуначнай станцыі Ургенч. 37,8 тыс. жыхароў. Бавоўнаачыш-чальныя і маслабойныя прадпрыемствы. Радзіма вучонага-энцыклапедыста Біруні (973-1048). Паблізу Беруні - гарадзішча Кят (6-8 ст.ст.), Тапрак-Кала (1ст. да н.э. - 6 ст. н.э.) з руінамі 2-павярховага палаца, упрыгожанага роспісамі і скульптурай (3ст.), Кой-Крыгла-Кала (4-1 ст.ст. да н.э.).

Бухара, горад, цэнтр Бухарскай вобл. ва Узбекістане, у даліне р. Зераўшан. Чыгуначная станцыя. 224 тыс. жыхароў. Адзін з самых старажытных гарадоў Сярэдняй Азіі; узнік не пазней 1 ст. н.э. Горад заваяваны арабамі ў 709 г., быў ужо значным гандлёва-рамесным і культурным цэнтрам Сярэдняй Азіі. У 9-10 ст.ст. тут была сталіца Дзяржавы Саманідаў, з канца 16 ст. - Бухарскага Ханства, з сярэдзіны 18 ст. да 1920 г. - Бухарскага Эмірата. У 1868 г. ўвайшла ў склад Расіі. У 1920 г. на тэрыторыі эмірата абвешчана Бухарская народная савецкая рэспубліка (у верасні - кастрычніку 1924 г. - Бухарская ССР) са сталіцай у Бухары. У 1924-1925 г.г. цэнтр Зераўшанскай акругі, з 1938 г. - Бухарскай вобл.
Сучасная Бухара - вялікі эканамічны і культурны цэнтр Сярэдняй Азіі, цэнтр турызму. Асноўныя галіны прамысловасці: лёгкая (каракулевы, бавоўнаачышчальны заводы, баваўняны камбінат і інш), харчовай;

мэблявая фабрыка і іншыя прадпрыемствы. Старадаўнія мастацкія промыслы: залаташвейны, шоўкаткацкі, разьба па дрэву, чаканка па металу і інш. Педагагічны, медыцынскі і тэхналагічны інстытуты. Тэатры: музычны, драмы і камедыі, абласны тэатр лялек. Музеі: гісторыка-краязнаўчы, прыкладнога мастацтва. На ўскраіне Бухары - кліматабальнеалагічны курорт Сітараі-Махі-Хаса. У Бухары жылі паэты Фірдаўсі і Рудакі; паблізу Бухары, у кішлаку Афшана, нарадзіўся Ібн Сіна (Авіцэнна).

Бухара - горад-музей, вядомы выдатнымі архітэктурнымі помнікамі (каля 140). Зберагліся: цытадэль Арк (5-7 ст.ст.); архітэктурны ансамбль гарадской плошчы Поі-Калян, якая складаецца з мячэці Калян (12 ст., перабудавана ў 15-16 ст.ст.), мінарэта Калян (1127 г.) вышынёй 48 м з паясамі цаглянага арнаменту і медрэсэ Мары-Араб (1535-36 г.г.); маўзалей Ісмаіла Самані (9-10 ст.ст.); Улугбека медрэсэ (1417 г.); маўзалей Чашма-Аюб (14 ст.); Буян-Кулі-хана (14 ст.), Сейфеддзіна Бахарзі (14-16 ст.ст.); Кош-медрэсэ, якое ўключае медрэсэ Мадары-хана (16ст.) і Абдулазіз-хана (1652 г.); медрэсэ Амір-Алім-хана (20 ст.), Чар-Мінар (халіфа Ніязкула, 1807 г.), Турсунджон (18 ст.); Гаркушон (16 ст.); мячэці Намаз-гох (1120, 16 ст.), Бала-хаўз (17-20 ст.ст.) з мінарэтам і вадаёмам, Магакі-Аттары (12-16 ст.ст.), Балянд (канец 15 ст.); вароты Тылліпач (16 ст.), Зіндан (18 ст., цяпер філіял гісторыка-краязнаўчага музея); ханакі (жыллі дэрвішаў) Файзабад (1589-99 г.г.), Ходжы Зайнуддзіна (16 ст.); крыты рынак Абдуллы-хана (16ст.); гандлёвыя купальныя будынкі ("такі") Загаран (15 ст.), Тэльпак-Фурушан (16ст.) і Саррафан (16 ст.); ансамблі Лябі-хаўз (3 медрэсэ Кукельташа, 16 ст., медрэсэ і ханака Надзіра Дыван-бугі, 17 ст.) і Халіфа Худайдод (18 ст.), Хазраты Імам (16-17 ст.ст.); комплекс Абдул Кадыр Джэлані (16 ст.); палац эміраў Сітараі-махі-хаса (19-20 ст.ст.; цяпер філіял гісторыка-краязнаўчага музея). Помнікі: Ібн Сіне (1975 г.), воінам-бухарцам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну (1975 г.) і іншыя.

Бухарскае ханства, феадальная дзяржава ў Сярэдняй Азіі ў 16-20 ст.ст. Заснавана узбекскім ханам Мухаммедам Шэйбані на месцы былой дзяржавы Цімурыдаў. Названа Бухарскае ханства ў канцы 16 ст., калі сталіцу з Самарканда перанеслі ў Бухару. Значна ўзмацнілася пры Абдуле-хане II (1557-98), заваявала Ташкент, Фергану, Харэзм, Герат і інш., наладзіла гандлёвыя і дыпламатычныя адносіны з Рускай дзяржавай (1599-1753). Бухарскае ханства прыйшло ў заняпад, выкліканы сепаратысцкімі імкненнямі феадалаў і войнамі з Іранам, Хівінскім ханствам, казахамі і інш. У 1740 г. Бухарскае ханства заваяваў іранскі шах Надзір. У 1753 г. ханства зноў стала самастойнае, хан Мухаммед Рахім абвясціў сябе эмірам, але феадальная раз'яднанасць засталася. Сяляне, амаль пазбаўленыя зямлі, карысталіся ёю на правах здольшчыны. Працоўныя паўставалі супраць феадальнага прыгнёту (1821-25, 1885). Паводле дагавораў 1868 і 1873 гадоў Бухарскае ханства трапіла ў васальную залежнасць ад Расіі,

працоўныя падпалі пад двайны прыгнёт - эміра і цара. Аднак далучэнне да краіны з больш высокім эканамічным і культурным узроўнем мела пэўнае прагрэсіўнае значэнне (гл. таксама арт. Узбекістан, Бухара).

М. Іоська

Высмейванне, мянушкі, паклёп і лухта.
У Кур`ане, у суры 40 (аль-Гуджурат-Пакоі), аят 12 сказана:
О вы, вернікі! Не дапускайце, каб адзін народ высмейваў другі народ, каторы можа быць лепшы за яго, і не дапускайце жанчын высмейваць жанчын, якія можа быць лепшыя за іх. І не паклёпнічайце адзін на другога, і не давайце мянушак адзін аднаму. Адно нават імя, якое абазначае абразу, ёсць ужо зло пасля таго, як чалавек зрабіўся вернікам— і ўсякі, хто не каецца ў гэтым,- чыніць зло.

Джумабаеў Ташмамат, нарадзіўся 24.8. 1924 г. ў горадзе Ош у Кыргызстане, у сям`і рабочага. Узбек. Член КПСС з 1943 г. Адукацыя незавершаная сярэдняя. Працаваў камбайнерам. У Чырвонай Арміі з кастрычніка 1942 г. У баях удзельнічаў з 1943 г. Камандзір аддзялення 685-га стралковага палка (193-я стралковая дывізія, 65 - я армія, Цэнтральны фронт), кандыдат у члены КПСС, сяржант Джумабаеў вызначыўся 15.10.1943 г. ў раёне Лоева (Гомельская вобл.). На чале аддзялення першым пераправіўся цераз Дняпро і паспяхова адбіў усе контратакі непрыяцеля на захопленым плацдарме. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30. 10.1943.
У 1945 г. скончыў Харкаўскае артылерыйскае вучылішча, у 1964 г. - Ташкенцкае агульнавайсковае вучылішча. З 1971 г. маёр Джумабаеў - у запасе. Скончыў партшколу пры ЦК КП Кіргізіі. Жыве ў г. Ош.

Джызак, горад, цэнтр Джызакскай вобл. Узбекістана, на р. Санзар; чыгуначны вузел. 102 тыч. жыхароў. Вядомы з 10 ст. У сучасным Джызаку: вытворчасць будматэрыялаў; заводы - акумулятарны, электратэхнічны, сельгасмашын, бавоўнаачышчальны і інш; фабрыкі - бавоўнапрадзільная, верхняга трыкатажу, швейная, мастацкіх вырабаў; харчовая прамысловасць. Педінстытут. Абласны музычна-драматычны тэатр, абласны тэатр лялек. Зберагліся: медрэсэ (1860), руіны замкаў Кізляр-Тэпа (1-12 ст.ст.), Келля Тэпа (11-12 ст.ст.), Урда-Тэпа (5-12 ст.ст.). Помнікі: паэту Х. Алімджанаву (1980) - ураджэнцу Джызака; абеліск на магіле камсамольца, які загінуў у час грамадзянскай вайны (1975).

Дэхканбаеў Абдурасім, нарадзіўся 26.10. 1906 г. у кішлаку Ашырказі цяпер Ленінградскага раёна Ферганскай вобл. Узбекістана, у сям`і селяніна. Узбек.Член КПСС з 1931 г. Адукацыя незавершаная сярэдняя. Працаваў старшынёй калгаса. У Чырвонай Арміі з 1943 г. У тым жа годзе на фронце. Стралок 467-га стралковага палка (81-я стралковая дывізія, 61-я армія, Цэнтральны фронт). Радавы Дэхканбаеў праславіўся 1.10. 1943 г. У складзе дэсантнай групы адным з першых пераправіўся на правы бераг Дняпра ў раёне вёскі Глушэц

(Лоеўскі раён Гомельскай вобл.), знішчыў больш чым узвод гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.01. 1944 г. Загінуў у баі 8.10. 1943 г. Пахаваны ў брацкай магіле ў в. Дзяражычы (Лоеўскі раён).

Ібрагім, пашыранае сярод мусульман мужчынскае імя арабскага паходжання, якое па-арабску пішуць ________. У перакладзе на беларускую мову азначае - бацька народаў.Вернікі-мусульмане вельмі шануюць прарока Ібрагіма.

Ішанкулаў Абдусаттар, нарадзіўся 10.02. 1916 г. ў Ташкенце ў сям'і рабочага. Узбек. Член КПСС з 1944 г. Скончыў 3 курсы рабфака, працаваў памочнікам майстра на Ташкенцкім тэкстыльным камбінаце. У Чырвонай Арміі з 1937 г. Скончыў Вольскае ваеннае авіяцыйна-тэхнічнае вучылішча ў 1939 г., за тым Балаклаўскую ваенную авіяцыйную школу пілотаў у 1943 г. На франтах з лютага 1944 г. Камандзір звяна 62-га штурмавога авіяпалка (233-я штурмавая авіядывізія, 4-я паветраная армія, 2-гі Беларускі фронт) старшы лейтэнант Ішанкулаў да красавіка 1945 г. зрабіў 100 баявых вылетаў, знішчыў 10 танкаў, 69 аўтамабіляў, 2 паравозы, нанёс значны ўрон жывой сіле непрыяцеля. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 18.08. 1945 г. Пасля вайны працягваў службу ў арміі. З 1960 г. маёр Ішанкулаў у запасе. Жыве ў Ташкенце.

Каканд, горад у Ферганскай вобл. Узбекістана, у нізоўі р. Сох; чыгуначны вузел. 173 тыс. жыхароў. Вядомы з 10 ст. пад назвай Хавакенд; быў размешчаны на караванным шляху з Індыі і Кітая. У 13 ст. разбураны мангола-татарамі, зноў заснаваны ў 1732 г. на месцы крэпасці Эскі-Курган, у1740 г. атрымаў назву Каканд; у 1740-1876 г.г. сталіца Какандскага ханства. У 1876 г. далучаны да Расіі. У сучасным Какандзе: лёгкая, харчовая, хімічная прамысловасць; машынабудаванне і металаапрацоўка. Старажытны цэнтр мастацкіх промыслаў: вышыўка, разьба і роспіс па ганчу, чаканка па медзі, шоўкаткацтва. Педінстытут. Узбекскі драматычны тэатр. Каканд - радзіма узбекскіх паэтаў Мукімі (1851-1903), Заўкі (1853-1921), Фурката (1858-1909), Хамзы (1889-1929). Краязнаўчы музей, Дом-музей Хамзы, літаратурны музей імя Гафура Гуляма, Пакой-музей Мукімі. Зберагліся: Медрэсэ-Мір (18 ст), медрэсэ Камал Казі (1847), Міен Хазрат (1961), Нарбута-бія (1789), Джамі (1812); ханскія пахавальні Дахмаі-Шахон (1825) і Мадарыхана (1825); палац Худаяр-хана (1871; цяпер краяведчы музей) і інш.

Каршы (у 1926-37 Бек-Будзі), горад (з1926), цэнтр Кашкадар'інскай вобл. Узбекістана, на р. Кашкадар'я; чыгуначны вузел. 156 тыс. жыхароў. Узнік у 14 ст. на старажытным караванным шляху з Самарканда і Бухары ў Афганістан, Індыю і другія краіны. У сучасным горадзе Каршы: лёгкая, харчовая прамысловасць; вытворчасць будаўнічых матэрыялаў, дываноў. Педінстытут. Узбекскі музычна-драматычны тэатр. Краязнаўчы музей. Зберагліся: мячэці - Кок-Гумбез з мазаікамі з паліванай цэглы (2-я палова 16 ст.), Одзіна (15 ст.),

Курганча з мінарэтам (19-20 ст.ст.); медрэсэ Бекмір (1905), Хаджы Абдулазіза (20 ст.), Калыбчая (1914г.), мост на р. Кашкадар`я (16 ст., перабудаваны да 20 ст.). У наваколлях Каршы-гарадзішчы Ер-Курган (сярэдзіна 1-га тысячагоддзя да н.э. - сярэдзіна 1 тысячагоддзя н.э.), Калаі-Захак (5-8 ст.ст.), Шуллюк-Тэпе (6-13 ст.ст.), мазар Хусан-ата (культавы ансамбль з групай маўзалеяў 11-14 ст.ст., мячэць і вароты 16-17 ст.ст., дабудовы 19-20 стст.).

Карымаў Іслам Абдуганіевіч, дзяржаўны і палітычны дзеяч Узбекістана. Нарадзіўся 30.01. 1938 у Самаркандзе ў сям`і служачага; жонка Таццяна Акбараўна, у сям`і дзве дачкі. Адукацыя І.А. Карымава: Сярэдняазіяцкі палітэхнічны інстытут, Ташкенцкі інстытут народнай гаспадаркі; па спецыяльнасці інжынер-механік, эканаміст, кандыдат эканамічных навук.

Скончыўшы палітэхнічны інстытут працаваў памочнікам майстра, майстрам, тэхнолагам завода "Ташсельмаш" (1960-1961 г.г.); затым– інжынер-канструктар, вядучы інжынер Ташкенцкага авіяцыйнага вытворчага аб`яднання (1961-1966 г.г.); галоўны спецыяліст аддзела, памочнік старшыні, начальнік аддзела, начальнік упраўлення, намеснік, першы намеснік Старшыні Дзяржплана Узбекскай ССР (1966-1983 г.г.); міністр фінансаў Узбекскай ССР (1983-1986 г.г.); у 1986 г. - намеснік Старшыні Савета Міністраў, старшыня Дзяржплана Узбекскай ССР; першы сакратар Кашкадар`інскага абкама Кампартыі Узбекістана (1986-1989 г.г.); першы сакратар ЦК Кампартыі Узбекістана (1989-1991 г.г.); з сакавіка 1990г. - адначасова Прэзідэнт Рэспублікі Узбекістан; з лістапада 1990 г. да студзеня 1992 г. - адначасова Старшыня Кабінета Міністраў пры Прэзідэнце Рэспублікі Узбекістан; дэпутат Вярхоўнага Савета СССР 11-га склікання; народны дэпутат СССР з 1989 г. да студзеня 1992 г.; ганаровы старшыня Фонду дружбы народаў Сярэдняй Азіі і Казахстана; член КПСС з 1964 г. да 1991 г.; член ЦК КПСС (1990-1991 г.г.); член Палітбюро ЦК КПСС (1990-1991 г.г.); з лістапада 1991 г. - старшыня Народна-дэмакратычнай партыі Узбекістана. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў. Аўтар кнігі "Узбекистан: свой путь обновления и прогресса".

Кулан (Equus hemionus), млекакормячая жывёла атрада няпарнакапытных. Паводле слоўніка Шыпавай слова кулан цюркскага паходжання. Даўжыня цела 2,5 м, вышыня ў карку да 1,5 м. Цела мае каржакаватае, ногі невысокія, галаву масіўную. Грыва кароткая, стаячая. Хвост даволі кароткі (каля 40 см), доўгія валасы толькі на канцы хваста. Вушы доўгія (даўжэйшыя, чым у каня, але карацейшыя, чым у асла). Капыты вузкія і высокія. Куланы пашыраны ў Пярэдняй, Сярэдняй і Цэнтральнай Азіі, раней траплялiся таксама ў паўднёваеўрапейскіх стэпах. Утварае некалькі геаграфічных рас. Уласна кулан, або анагр (equs heminonus onager) мае пясочнажоўты акрас спіны і бакоў, белае бруха і цёмна-бурую грыву, хвастом і паласой на спіне. Летам трымаецца табункамі па 10-15 галоў. Увосень і

зімою ўтварае табуны да 100 асобін і больш. Жарэбнасць каля 11 месяцаў, самка прыносіць 1 жарабя. Паляванне на куланаў забаронена.

Наваі (да 1958 г. пасёлак Кермінэ), горад у Бухарскай вобл. Узбекістана, у даліне р. Зераўшан; чыгуначная станцыя. 107 тыс. жыхароў. Горад пабудаваны ў 1960 -е гады. У 1982 - 88 г.г. Цэнтр Наваіскай вобл., у 1988-89 г.г. ў складзе Самаркандскай вобл. Вытворчае аб`яднанне "Наваіазот"; электратэхнічны, цэментны, бавоўнаачышчальны заводы; атрыманне золата з прывазной пароды; харчовая прамысловасць. ДРЭС. Названы горад у гонар А.Наваі (1441-1501). Зберагліся: маўзалей Мірсеід Бахром (10-11 ст.ст.) і ханака (культавая пабудова) Касым-шэйха (1559), караван-сарай Рабаты-Малік (1078), рэшткі старажытнага маста на р. Зераўшан. Помнік загінуўшым у грамадзянскую вайну (1980).

Наманган, горад (1610 г.), цэнтр Наманганскай вобл. Узбекістана, у Ферганскай даліне; чыгуначная станцыя. 308 тыс.жыхароў. Вядомы з канца 15 ст. З 1876 г. ў складзе Расіі. У сучасным Намангане: лёгкая, харчовая прамысловасць; машынабудаванне; хімічны завод, домабудаўнічы камбінат, біяфабрыка. Народныя промыслы: вышыўка, роспіс па ганчу, шаўкаткацтва. Педінстытут. Драматычны тэатр. Музеі: краязнаўчы, баявой і працоўнай славы. Зберагліся: маўзалей Хаджамны-Кабры (18 ст.), медрэсэ Муллы Кыргыза (пач. 20 ст.), мячэці Ата Вяліхантура (пач. 20 ст.) і Ісак Шэйха (1872). Помнік воінам-наманганцам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну (1967).

Нукус, горад (з 1932 г.), сталіца (з 1939 г.) Каракалпакіі, у межах Узбекістана, у пачатку дэльты Амудар'і; чыгуначная станцыя. 169 тыс. жыхароў. Заснаваны як горад у 1932 г. на месцы аула Нукус, які ўзнік у 1860-х гадах. У сучасным Нукусе: металаапрацоўчая, будаўнічых матэрыялаў, харчовая, лёгкая прамысловасць. Народныя промыслы: вытворчасць дываноў, разьба і роспіс па ганчу. Каракалпакскі філіял АН Узбекістана. Універсітэт. Музеі: гісторыка-краязнаўчы, мастацтваў Каракалпакіі. Тэатры: музычнай драмы і камедыі, юнага гледача. Помнікі: паэту Бердаху (1977 г.), воінам-камсамольцам, якія загінулі ў час грамадзянскай вайны (1968), воінам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну (1967 г.) і інш.

Пурым, свята ў габрэяў. Паводле Старога Запавету і вуснай традыцыі пра паходжанне свята існуе паданне. Пры двары персідскага цара Ксеркса (Ахавероша), у сталіцы Шушане (Сузах) знаходзіўся саноўнік Аман (Гаман), які ненавідзіў габрэяў. Аднойчы ён сказаў цару: "Ёсць народ, які рассыпаны ва ўсіх абласцях царства твайго; звычаі яго адрозніваюцца ад звычаяў іншых народаў, а царскіх законаў ён не выконвае. Калі цару даспадобы, няхай будзе дадзены загад знішчыць усіх габрэяў". Ксеркс тут жа дазволіў персам рабаваць і забіваць габрэяў, якія жылі у гарадах Персідскага царства. Габрэям у гэтай дзяржаве пагражала поўнае вынішчэнне. Тады на абарону габрэяў выступіў Мардэхай, адзін з самых паважаных габрэяў у Шушане, які быў блізкі да царскага двара і некалі выратаваў цара ад

смяротнай небяспекі. У Мардэхая была пляменніца-сірата Эстэр (Эсфір), якую ён выгадаваў як бацька. Дзякуючы прыгажосці дзяўчына трапіла ў царскі палац і стала самай каханай жонкай Ксеркса. Даведаўшыся ад дзядзькі аб тым, што чакае яе супляменнікаў-габрэяў, Эстэр скарыстала ўвесь свой уплыў на цара, каб папярэдзіць няшчасце. Перш далёкая ад габрэйства, яна адчула сваю крэўнасць з ім. Эстер прасіла цара адклікаць указ аб знішчэнні габрэяў, пры гэтым адкрыла яму ўсе злачынныя козні Амана. Ксеркс, упэўніўшыся ў праўдзівасці яе слоў і ўспомніўшы пра заслугі Мардэхая, выканаў просьбу любімай царыцы: ён загадаў павесіць зачыншчыка зла – Амана, а габрэям дазволіў паўсюдна стварыць самаабарону ад ворагаў, якія рыхтавалі ім пагібель. Скончылася тым, што ў дзень, прызначаны Аманам для пагрому габрэяў (13 Адара), апошнія со зброяй у руках напалі на пагромшчыкаў і знішчылі іх як у правінцыі, так і ў сталіцы Шушане.

У памяць аб гэтай падзеі габрэі кожны год 13 Адара, за месяц да габрэйскай Пасхі, посцяцца (Таанат - Эстэр). Двойчы - вечарам і ўранку - чытаць у сінагогах біблейскую кнігу "Эстэр". 14 Адара святкуюць, успамінаючы цудоўнае выратаванне ад козняў Амана, які замышляў пагібель габрэйскаму народу, але трапіў на шыбеніцу сам.

З кнігі "Краткая история евреев",
С.-Петербург, 1912.

Пустальга звычайная (Falkotinnunculus), птушка сямейства сакаліных атрада драпежных птушак. Паводле слоўніка Шыпавай слова пустальга цюркскага паходжання. Птушка пашырана ў Еўропе, Азіі, Афрыцы. На Беларусі трапляецца часцей за іншых сокалаў (народныя назвы: шулячок, аралок). Даўжыня цела 35-38 см, маса 180-285 г. Самка большая за самца. Апярэнне пераважна рыжае, галава ў самца попельна-шэрая з жаўгаватымі штрыхамі, гарляк белы, падхвосце і хвост шызыя, бруха белавата-вохрыстае. Пералётная і аселая птушка. Жыве ў светлых лясах, лесастэпах, парках, садах, у гарадах і пустынях. Гняздуецца на скалах, дрэвах, у норах на зямлі. Нясе 4-5 яек. Коміцца пераважна мышападобнымі грызунамі, а таксама птушкамі, яшчаркамі, насякомымі. Карысная сельскай гаспадарцы. Здабыча віду забаронена.

Саід, пашыранае сярод мусульман мужчынскае імя арабскага паходжання, якое па-арабску пішуць سعيد. У перакладзе на беларускую мову абазначае шчаслівы, паспяховы.

Саіда, пашыранае сярод мусульман жаночае імя арабскага паходжання, якое па-арабску пішуць سعيدة. У перакладзе на беларускую мову абазначае шчаслівая, паспяховая.

Самарканд, горад, цэнтр Самаркандскай вобл. Узбекістана, у даліне р. Зераўшан; чыгуначны вузел, 336 тыс. жыхароў. Адзін з найбольш старажытных гарадоў Сярэдняй Азіі. Вядомы з 329 г. да н.э. пад назвай Мараканда - сталіца дзяржавы Согд. У пачатку 8 ст. заваяваны арабамі; у 9 - 10 ст.ст. пад уладай Саманідаў; у 11 ст. заваяваны

караханідамі, а затым туркамі-сельджукамі, у сярэдзіне 12 ст. - каракітаямі; у пачатку 13 ст. уваходзіў ва ўладанні харэзмшахаў. У канцы 14 - пачатку 15 ст.ст. сталіца імперыі Цімура. З 1500 г. ў складзе дзяржавы Шэйбанідаў, з канца 16 ст. ў Бухарскім ханстве. У 1868 г. далучаны да Расіі, цэнтр Зераўшанскай акругі, з 1887 г. - Самаркандскай вобл. У 1924 - 30 г.г. сталіца Узбекскай ССР, з 1938 г. - абласны цэнтр.

У сучасным Самаркандзе: машынабудаванне, хімічны завод, біякамбінат; лёгкая, харчовая прамысловасць; фарфоравы завод, домабудаўнічы камбінат, мэблявая фабрыка. Самарканд - старажытны цэнтр мастацкіх рамёстваў Сярэдняй Азіі (вышыўка, залатое шыццё; шаўкаткацтва, чаканка па медзі, кераміка, разьба і роспісь па дрэву). 4 тэатры (у тым ліку оперы і балета); 6 вышэйшых навучальных установ (у тым ліку універсітэт). Музей гісторыі, культуры і мастацтва Узбекістана з філіямі: музей гісторыі заснавання горада, Дом-музей таджыкскага пісьменніка С. Айні і інш. Самарканд - радзіма выдатных астраномаў і матэматыкаў Улугбека і Алі Кушчы. У Самаркандзе жылі філосаф і пісьменнік Абдурахман Джамі, паэт і мысліцель Алішэр Наваі.

Самарканд - вялікі цэнтр турызму, у тым ліку міжнароднага. Зберагліся: гарадзішча Афрасіб (6 ст. да н.э. - 13 ст. н.э., дзяржаўны археалагічны запаведнік); ансамбль гарадской плошчы Рэгістан ("пясчанае месца") - медрэсэ Тылля-Кары (17 ст.), Улугбека (15 ст.), Шыр-Дор (17 ст.); ансамбль маўзалеяў Шахі-Зінда (14-15 ст.ст.); саборная мячэць Бібі-Ханым (14-15 ст.ст.); маўзалей Рухад (14 ст.), Гур-Эмір (пахавальня Цімурыдаў, 15 ст.), Аксарай (15 ст.), Ішрат-хана (15 ст.); культавы ансамбль Абды-Дарун (15 ст.); мячэці Хазрэт-Хызр (19 ст.), мячэць і мінарэт Хаджа-Нісбат-дор (1901 г.); культава-мемарыяльны ансамбль Хаджа Ахрар (15 ст.); рэшткі маста-вадападзела праз Зераўшан (пачатак 16 ст.); абсерваторыя Улугбека (1429 г.). Помнікі: камсамольцам-чырвонагвардзейцам, якія загінулі за ўстанаўленне савецкай улады (1920-е гады); манумент "Свабода" (1919 г.), абеліск "Перамога" (1948 г.) і інш.

Суп рысавы з амлетам, татарская страва. Перабраны рыс і перамыты ў цёплай вадзе кладуць у кіпень. Перад тым як рыс зварыцца, у каструлю кладуць соль, цыбулю і нарэзаную бульбу. Перад падачай на стол у талеркі кладуць па 2 кавалкі загаддзя падрыхтаванага амлету, нарэзанага квардацікамі ці ромбікамі. Суп з амлетам звычайна лічыцца стравай для гасцей. У гэтым выпадку ён варыцца без бульбы. Норма прадуктаў на 5 чалавек: 2 літры вады, 200 г рысу, 0,5 кг бульбы, 80 г цыбулі, 5 яек. Калі суп варыць з лапшой (локшынай), то ўзяць 200 г гатовай лапшы.

Ю. Ахметзянаў

Тапівалдыеў Мамедалі, нарадзіўся 20.09. 1919 г. ў кішлаку Пандыгал, цяпер Рыштанскага раёна Ферганскай вобл., Узбекістан, у сялянскай

сям'і. Узбек. Член КПСС з 1945 г. Скончыў пачатковую школу, працаваў у калгасе. У Чырвонай Арміі з 1939 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны з чэрвеня 1941 г. Быў паранены і трапіў у палон каля Барысава. У 1942 г. уцёк. Стаў камандзірам аддзялення разведкі 5-га партызанскага атрада партызанскай брыгады "Чэкіст" Магілёўскай вобл. Яго аддзяленне мініравала масты і дарогі ў Круглянскім раёне Магілёўскай вобл., узяла ў палон вялікую групу паліцаяў. Асабіста падарваў 4 эшалоны непрыяцеля. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.08. 1944 г. Дэмабілізаваны ў 1944 г. Працаваў старшынёй калгаса на радзіме. Памёр 7.05. 1969 г.

Ташкент, сталіца (з 1930 г.) Узбекістана, цэнтр Ташкенцкай вобл., у перадгор'ях Цянь-Шаня, у даліне р. Чырчык; чыгуначны вузел. 2079 тыс. жыхароў. Вядомы з 4-5 ст.ст. н.э. Развіццю горада садзейнічала яго палажэнне на "Вялікім шоўкавым шляху". У пачатку 8 ст. Ташкент (называўся Шаш) заваяваны арабамі. З 11 ст. вядомы пад назвай Ташкент. У пачатку 13 ст. разбураны. У 14 ст. адна з самых вялікіх крэпасцей дзяржавы Цімурыдаў; з 2-й паловы 16 ст. у складзе Бухарскага ханства; у 1809 г. ўвайшоў у склад Какандскага ханства. Пасля далучэння да Расіі (1865 г.) адміністрацыйны, прамысловы і гандлёвы цэнтр Сярэдняй Азіі. У 1918 -24 г.г. сталіца Туркестанскай АССР, з 1930 г. - Узбекскай ССР. У 1966 г. горад пацярпеў ад разбуральнага землятрасення (гл. Ташкенцкае землятрасенне 1966 г.). Асноўныя галіны прамысловасці: машынабудаванне, лёгкая, хімічная, харчовая. Метрапалітэн (з 1977 г.). АН Узбекістана, 21 ВНУ (у тым ліку універсітэт), 11 тэатраў (у тым ліку Вялікі тэатр оперы і балету імя А. Наваі), 22 музеі (у тым ліку Музей мастацтва Узбекістана, гісторыі народаў Узбекістана, літаратурны імя А. Наваі).

Ад старажытных пасяленняў, якія існавалі на месцы Ташкента, захаваліся: рэшткі замкаў Ак-Тэпэ (6-8 і 11 ст.ст.), Нараз-Тэпэ (10-12 і 15 ст.ст.), Тарнауш-Тэпэ (7-8 і 10-11 ст.ст.); гарадзішча Кургайт-Тэпэ (3-13 ст.ст.). Зберагліся таксама помнікі сярэдневяковай архітэктуры: ансамбль Рэгістан, які ўключае Джума-мячэць (гл. Ташкенцкая джума-мячэць), медрэсэ Кукельташ (16 ст.) - адно з самых вялікіх у Сярэдняй Азіі; ансамбль Шай-хантаўр з маўзалеем шэйха Хавенды Тахура (14-19 ст.ст.), Калдыргач-бія (15 ст.) і Юнус-хана (15-16 ст.ст.); ансамбль Хазрэты Імам з маўзалеямі Каффаль Шашы, Суюнідж-хана (16 ст.) і медрэсэ Барак-хана (16 ст.); маўзалей Зайнутдына-бабо (12-15 ст.ст.); загарадны комплекс Хайрабад-ішана (18-19 ст.ст.) - маўзалей Нурытдына-бабо (16 ст.), комплекс Чупан-ата (18-20 ст.ст.). У канцы 19 - пачатку 20 ст.ст. пабудаваны: дом былой Туркестанскай казённай палаты, ансамбль Нікольскага манастыра, касцёл, кірха, жаночая гімназія, дом дыпламата Полаўцава. Помнікі: У.І. Леніну (1974 г.), М.В. Фрунзе (1958 г.), А. Наваі (1948 г.), Ташкенцкім камісарам (1962 г.) і інш.; мемарыял - Магіла Невядомага салдата (1975 г.).

Ташкенцкая джамі, мячэць у Ташкенце (вуліца Хакікат, 22), помнік архітэктуры 14-15 ст.ст. Аснову цэнтральнага ансамбля Рэгістана,

размешчанага на ўзгорку сярэдневяковага шахрыстана, паклала будаўніцтва ў 1451 г. мячэці і медрэсэ. Медрэсэ разабрана ў 1954 г., мячэць захавала планіровачную аснову і фундаменты канструкцый. Гэта адзіны ў Ташкенце ўзор гарадской саборнай мячэці дваравога тыпу. Яе асаблівасць - незвычайная падоўжанасць уздоўж восі ўсход-захад. Уваход з усходу архітэктурна не вылучаны. Арачна-купальныя галерэі, што абкружаюць падворак, у 18 ст. былі перабудаваны ў жылыя худжары, а галоўны будынак - максуда ў заходнім тарцы падворка адбудаваны нанава ў 1888 г. ў выглядзе традыцыйнага кубічнага аб'ёму, завершанага купалам на цыліндрычным барабане, аднак характар арак хутчэй нагадвае еўрапейскую готыку. Памеры: 58 х 35 м, падворак - 66 х 24 м.

Ташкенцкае землетрасенне 1966 года здарылася 26 красавіка ў 5 гадзін 22 хвіліны 55 секунды. Сіла штуршка каля 8 балаў. Зона максімальных разбурэнняў - 10 кв. км. Вядомы землетрасенні ў Ташкенце, якія здараліся ў красавіку 1866 г., 4 лютага 1868 г., 29 лістапада 1886 г., 7 чэрвеня 1924 г., 3 лістапада 1946 г., 11 снежня 1980 г.

У выніку землетрасення 1966 г. было разбурана звыш 2 млн кв. м жылой плошчы, 236 адміністрацыйных убдынкаў, каля 700 аб'ектаў гандлю і грамадскага харчавання, 26 камунальных прадпрыемстваў, 181 навучальныя ўстановы, у тым ліку школ на 8 тыс. месцаў, 36 культурна-асветных устаноў, 185 медыцынскіх і 235 прамысловых будынкаў. Без даху над галавой засталіся больш за 78 тыс. сем'яў, або больш за 300 тыс. чалавек - амаль трэцяя частка насельніцтва. Зарэгістравана 8 выпадкаў смерці (па натуральных прычынах ў тыя гады памірала кожныя суткі больш за 30 чалавек гараджан) і памешчана ў шпіталі каля 150 чалавек, пацярпелых ад катастрофы.

Усе рэспублікі СССР аказалі дапамогу Ташкенту і за чатыры гады былі ліквідаваны эканамічныя наступствы катастрофы. Беларусь таксама аказала дапамогу ташкентцам у адбудове горада. Ёсць у Ташкенце Беларуская вуліца даўжынёй 1 км, пабудаваная рукамі беларусаў і на іх сродкі.

Мусульмане-вернікі лічаць, што гэтае землетрасенне было папярэджаннем Аллага людзям, якія забылі пра свае абавязкі. На той час у Ташкенце не было ні аднаго дзеючага храма (да рэвалюцыі ў горадзе былі 283 мячэці, праваслаўныя, каталіцкі, пратэстанцкі, габрэйскія, буддыйскія храмы). Адносна малая колькасць ахвяр у час гэтага землетрасення - яшчэ адно сведчанне таму, што Аллаг Літасцівы і Міласэрны.

## ЯКУБ КОЛАС
## У ТАШКЕНЦЕ Ў ЧАС ВАЙНЫ (1941 - 1943 г.г.)

7 жніўня 1941 г. Колас выязджае з сям'ёю з Масквы ў Ташкент. Прыехаў ён туды 14 жніўня. Некалькі дзён жыў у гасцініцы

"Узбекістан". Да 8. X. 41 г. жыў у невялікім пакоі на ўскраіне Ташкента па вул. Фаменка, 5, пасля на вул. Пушкінскі праезд, 13, а з пачатку студзеня 1942 г. і да канца побыту ў Ташкенце жыў у 4-х павярховым доме па Пушкінскай вуліцы, 84 у пакоі 39 на 3-м паверсе. Яму вылучылі для працы яшчэ адзін пакой на 4-м паверсе (№ 44). У доме жылі эвакуіраваныя ў час вайны відныя вучоныя з Масквы, Ленінграда, Беларусі, дзеячы культуры, сем'і адказных работнікаў. Сярод іх акадэмікі АН СССР С.Б. Весялоўскі, Б.Р. Віппер, Р.Ю. Віппер, У.І. Пічэта (ён жа і акадэмік АН БССР, Сербскай АН, першы рэктар Белдзяржуніверсітэта), В.В. Струве, У.Ф. Шышмараў, члены-карэспандэнты АН СССР Э.А. Асрацян, М.І. Багалепаў, С.К. Багаяўленскі, С.У. Бахрушын, Я.Э. Бертэльс, М.І. Веліканаў, А.В. Горынаў, В.М. Жырмунскі, П.М. Нікіфараў, М.К. Піксанаў, А.Д. Удальцоў, Д.М. Ушакоў, віцэ-прэзідэнт і акадэмік АН БССР С.М. Ліпатаў, акадэмік АН БССР М.Ф. Ярмоленка, вядомыя вучоныя А.І. Дэйч, І.А. Казарноўскі, народныя артысты СССР А.Б. Гольдэнвейзер і С.М. Міхоэлс, вядомая кінаактрыса Т.К. Акунеўская і другія. З многімі з іх Колас сустракаўся, а з некаторымі і пасябраваў. Месца жыхарства было зручным для працы і адпачынку. Яно знаходзілася параўнальна блізка ад Саюза пісьменнікаў Узбекістана, рэдакцыі газет "Фрунзевец" (орган Сярэдняазіяцкай ваенная акругі) і рэспубліканскай рускамоўнай "Правды Востока", з якімі Колас часта супрацоўнічаў, з другімі цэнтральнымі ўстановамі. Побач знаходзіліся некалькі паркаў, у якіх Колас часта хадзіў на прагулкі і адпачынак, асабліва ў парк імя Тэльмана. Там працякала р. Салар, апетая пазней Коласам.

Вялікае гора напаткала нашу краіну, наш народ. Акупіравана лютым ворагам родная Беларусь. Разбураны Мінск, згарэў дом Коласа. Напачатку вайны буйныя няўдачы на форнце. Гібель людзей, страта тэрыторыі. Да агульнай бяды для ўсіх далучалася асабістае гора. З канца верасня 1941 г. спынілася паступленне пісем ад сына Юркі з фронта. Хварэе любімая жонка. Былі пэўныя матэрыяльныя цяжкасці. Пакутліва пераносіцца нязвыклая летняя спякота. Колас страціў 16 кг ў вазе. Але ўсё гэта не зламіла народнага паэта. Нават у самыя цяжкія для нас часы Колас ніколі не траціў веру ў перамогу. Увесь час Колас напружана і нястомна працуе ў галінах літаратуры, навукі, грамадскай дзейнасці.

За час знаходжання ў Ташкенце Коласам створана вялікая колькасць вершаў. З іх 80 апублікаваны ў 14-томніку. Напісаў паэму "Суд у лесе" і 12 раздзелаў паэмы "Адплата" (з 24). У Ташкенце выйшлі зборнікі "Голос земли" на рускай мове і "Выбранае" (на узбекскай мове), а ў Ашхабадзе - зборнік выбраных вершаў на туркменскай мове. Напісаў 4 апавяданні і каля 30 публіцыстычных артыкулаў, якія змяшчаліся ў мясцовых, цэнтральных і падпольных органах друку, а многія і перадаваліся па радыё. У 1946 г. Коласу за цыкл вершаў створаных у Ташкенце была прысуджана Сталінская прэмія I ступені.

За час знаходжання ў Ташкенце Колас напісаў многа пісем - на фронт, у Маскву і другія раёны СССР, за лінію фронта. З вялікага мноства пісем апублікавана ў 14-томніку толькі 131. Шмат яшчэ не апублікавана і не выяўлена.

Усё жыццё і творчая дзейнасць Коласа ў Ташкенце прасякнута верай і ўпэўненасцю ў нашу перамогу, нянавісцю да фашысцкіх захопнікаў, заклікамі да нашых воінаў і партызанаў на барацьбу з заклятым ворагам, марай пра вяртанне на родную вызваленую Беларусь. Ён сістэматычна сачыў за зводкамі з фронту, цяжка перажываў нашы няўдачы і радаваўся кожнай нашай перамозе. Гэтым ён жыў у Ташкенце.

У Ташкенце Колас сустракаецца з многімі пісьменнікамі. З беларускіх - з С. Ліхадзіеўскім, былым вучнем па Белпедтэхнікуму, які даўно жыў і працаваў у Ташкенце, з прыехаўшымі ў час вайны Ул. Агіевічам і Эдзі Агняцвет, М. Модалем, са сваім сябрам і перакладчыкам рускім паэтам С. Гарадзецкім, з мясцовымі рускімі паэтамі і празаікамі С. Сомавай, Ул. Ліпко, М. Шавердзіным (двое першых перакладалі вершы Коласа на рускую мову, а з С. Сомавай наладзілася ў далейшым шматгадовая перапіска). Колас знаёміцца і падтрымлівае сяброўскія адносіны з узбекскімі пісьменнікамі - Хамідам Алімджанам, Зульфіёй, Гафурам Гулямам, Уйгунам, Міртэмірам і іншымі. Колас прымаў удзел у рабоце Саюза пісьменнікаў Узбекістана, часта бываў там, неаднойчы выступаў там на пленумахСП Узбекістана. У час вайны ў Ташкенце пражывала многа рускіх пісьменнікаў - А. Талстой, А. Ахматава, Ул. Лугаўской, Б. Лаўранёў, С. Кірсанаў, В. Гусеў, У. Уткін, Л. Пенькоўскі, І. Сяльвінскі, М. Ушакоў, К. Зялінскі, М. Галодны, А. Ціханаў, Дзм. Благой, А. Ігнацьеў, К. Чукоўскі. З украінскіх пісьменнікаў - М. Тарэшчанка. Большасць з іх пражывала ў Ташкенце ў час вайны, некаторыя (як К. Сіманаў) прыязджалі з фронта на кароткі час. З імі Колас прымаў удзел у шматлікіх літаратурных сустрэчах, якія праводзіліся ў ВНУ, школах, установах і сярод вайскоўцаў Ташкента.

Значнае месца займае і навуковая дзейнасць Коласа ў Ташкенце. Як віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР Колас прымае захады для аднаўлення навуковай дзейнасці Акадэміі ў Ташкенце і Самаркандзе. Разам з другім віцэ-прэзідэнтам АН БССР С.М. Ліпатавым арганізуе выяўленне беларускіх вучоных, якія змаглі эвакуіравацца з Мінска і пражывалі ў розных раёнах СССР. Іх выклікалі на работу ў Ташкент і Самарканд. Колас аказваў дапамогу ім у навуковай дзейнасці і імкнуўся забяспечыць памяшканнем, выдзяленнем сродкаў, набыццём неабходнага абсталявання, аказаў дапамогу ім з жыллём і ў паляпшэнні матэрыяльных умоў. На сесіі АН БССР, якая адбылася ў г. Казані, Колас выступае з дакладам "Аб рабоце Акадэміі навук БССР за 1941 год". Даклад у асноўным быў падрыхтаваны ў Ташкенце. 7.VII. 1942 г. выступае на сесііАН БССР у Ташкенце, прысвечанай памяці Я. Купалы з дакладам "Янка Купала і яго паэзія". На сесіі АН БССР,

якая праходзіла ў Ташкенце з 29.X. па 1.XII 1942 года, Колас выступае з дакладам "Векавая дружба беларускага і рускага народаў і іх сумесная барацьба супраць нямецкай агрэсіі". 27. VI.1943 г. адкрывае пасяджэнне АН БССР, СП Узбекістана і філфака Сярэднеазіяцкага дзяржаўнага універсітэта, прысвечанае гадавіне з дня смерці Я. Купалы. У Ташкенце Колас праваазіў вялікую грамадзка-палітычную і ваенна-патрыятычную дзейнасць.

6.XI.1941 г. Колас выступае на літаратурным вечары на хімічным факультэце Сярэднеазіяцкага дзяржаўнага універсітэта. Да 2.XII.41 г. выступаў на літаратурным вечары ў доме Чырвонай Арміі, у адной з ваеных акадэмій. 2.XII.41 г. Колас прымае удзел у вечары паэзіі, на якім выступалі Э. Агняцвет, Х. Алімджан, Г. Гулям, А. Ахматава, С. Гарадзецкі, С. Кірсанаў, І.Уткін, В. Гусеў, Ул. Лугаўской, С. Сомава, 22.8.1942 г.выступае па радыё. 5.1. і пазней наведвае заняткі літаратурнага гуртка Ваеннай акадэміі імя Фрунзе. 12-14.12. 1942 г. прымае ўдзел і выступае з дакладам на пленуме Праўлення СП Узбекістана, прысвечанага 25-годдзю савецкай літаратуры ў дні Вялікай Айчынай вайны. Да 26.12.1942 выступае на вечары, прысвечаным 25-годдзю Савецкай Украіны. Да 6.2.1943 г. Колас прысутнічае на урачыстым выпуску слухачоў Ваеннай акадэміі імя Фрунзе і выступае перад выпускнікамі.

9.4.1943 г. прысутнічае і выступае на вечары ў Ташкенцкім педагагічным інстытуце, прысвечанам Коласу. Вечар адкрыў прафесар Д. Благой, даклады зрабілі С. Ліхадзіеўскі і У. Агіевіч, выступілі С. Гарадзецкі, М. Тарэшчанка, Э. Агняцвет, С. Сомава. 20.6. Колас выступае на ранішніку ў Доме Чырвонай Арміі з успамінамі аб Горкім. 29. 6 1943 г. Колас прымае ўдзел у радыёперадачы, прысвечанай Я. Купалу. 3.7. 1943 г. Колас прысутнічае на вечары памяці вядомага узбекскага паэта-дэмакрата Мукімі (1851-1903 гг).

11. 7. 1943 г. выступае з прамовай на вечары выпускнікоў 47-й школы Ташкента, 18. 8. 1943 г. прымае ўдзел у паседжанні прэзідыума Праўлення СП Узбекістана. 24. 8. 1943 г. Колас у СП Узбекістана вытупае на мітынгу з прычыны вызвалення савецкімі войскамі г. Харкава. 7. 10. 1943 Колас выступае па радыё. Вялікай падзеяй у жыцці Коласа ў Ташкенце з'явілася ўрачыстае святкаванне 60-годдзя з дня яго нараджэння. 3. 11. 1942 г. у Доме Чырвонай Арміі адбылося ўрачыстае паседжанне, якое адкрыў Прэзідэнт АН БССР К. Гораў. З дакладам аб жыцці і творчасці Коласа выступіў К.Крапіва, які прыехаў з Масквы на юбілей. Юбіляра віталі таксама прыехаўшыя з Масквы Старшыня Вярхоўнага Савета Н. Наталевіч, сакратар ЦК КП(б) Узбекістана Юлдашбаева, академік У. Пічэта, паэты І. Сяльвінскі, Г. Гулям, Х. Алімджан, ад ваеннай акадэміі і франтавікоў палкоўнік Я. Леашэня. На вечары былі М. Пагодзін, Б. Лаўранёў, Ул. Лугаўской, М. Тарэшчанка, Д. Благой, К. Зялінскі. Адбыўся вялікі канцэрт з удзелам народнага артыста СССР Гольдэнвейзера. Прайшла вялікая літаратурная радыёперадача, прысвечаная юбіляру. Юбілей шырока

адзначаўся ў мясцовым і цэнтральным друку. Адна з вуліц Ташкента перайменавана ў вуліцу імя Якуба Коласа. Колас быў вельмі рады прыезду свайго сябра К. Крапівы. А ў пачатку жніўня 1942 г. два дні ў Коласа гасціў П. Броўка.

У Ташкенце Колас часта сустракаўся са сваімі землякамі І. Клімавым, відным партыйным і дзяржаўным дзеячам Беларусі, працаваўшым у Ташкенце сакратаром абкома партыі. Да Коласа прыходзілі апынуўшыеся ў Ташкенце мінчукі, сябры яго сям,і Ф. Лагута, М. Малёнак, У. Петухоўскі, І. Флакс, выхаванка сям'і Коласа В.Прачук, якая жыла пад Ташкентам, жонкі знаёмых Коласа рэпрэсіраваных у 20-30-я гады Н. Ярашэвіча і В. Дружчыца - В. Шыманская і Г. Дружчыц, навукоўцы АН БССР. Яны часты бывалі на кватэры Коласа, дзе заўсёды знаходзілі цёплы прыём і падтрымку.

Важным падзеямі ў жыцці Коласа ў час яго пражывання ў Ташкенце з'явіліся яго тры паездкі ў Маскву. Першая - 29. 1. 1942 г. па 14. 4. 1942 г. (у час гэтай паездкі Колас ездзіў у Казань на сесію АН БССР. У Казані ён знаходзіўся з 6. 3. па 16.3. 1942 г.). Другая - з 6. 2. па 21. 3. 1943 г. Трэцяя - з 6. 5. па27. 5. 1943 г. У час знаходжання ў Маскве Колас сустракаецца з беларускімі, рускімі і пісьменнікамі іншых славянскіх народаў. З вучонымі, кіраўнікамі Беларусі, прымае ўдзел у шматлікіх літаратурных сустрэчах, часта выступае па радыё са зваротамі да беларускага народа, да воінаў і партызанаў, сустракаецца з дзедам Талашом і другімі беларускімі партызанамі. Прымае ўдзел у рабоце другога і трэцяга Усеславянскіх мітынгаў, дзе выступае з такімі вядомымі пісьменнікамі і дзеячамі культуры як В.Васілеўская, А. Карняйчук, З. Неедлы, М. Ціханаў, Р. Стыенскі, І. Бехер, А. Талстой, А. Фадзееў, А. Даўжэнка.

З 26. 8 па 22. 9 1943 г. Колас адпачывае разам з жонкай Марыяй Дзімітрыеўнай і малодшым сынам Міхасём у дачнай мясцовасці побач з гарою Чымган у той час Паўднева - Казахстанскай вобласці. Там напісаны вершы "Чымган", "Заняволенай Беларусі", " На восеньскі лад", некалькі раздзелаў з паэмы "Адплата".

1 лістапада 1943 года Колас з сям,ёю выяжджае ў Маскву. Пазней побыт у Ташкенце часта прыгадваецца ў пісьмах і некаторых публіцыстычных артыкулах Коласа. На доме, на Пушкінскай, 84 (цяпер 88), дзе жыў Колас у час вайны, 25.4.1960 устаноўлена мемарыяльная дошка з адпаведным надпісам на узбекскай, беларускай і рускай мовах.

25. 3. 1996 г. Даніла Міцкевіч

## МУСУЛЬМАНСКІЯ СПРАВЫ Ў ТАШКЕНЦЕ

Карэспандэнт "Байрама", даведаўшыся пра тое, што летам 1995 г. я паеду ў госці ў Ташкент, папрасіў мяне пацікавіцца, як ідуць мусульманскія справы ў гэтым горадзе. Не вельмі многа мне ўдалося

даведацца, бо пытанні былі такія, што некаторым маім субяседнікам здаліся калі не падазронымі, то можа дзіўнымі.

Большасць татар, якія жылі ў Ташкенце - гэта крымскія татары. Яны выехалі на радзіму, у Крым. Не выходзіць крымскататарская газета, не чуваць пра крымскататарскі ансамбль. Адрасы, дзе знаходзяцца і дзейнічаюць мячэці, мне не назвалі. Кажуць, што іх больш за тысячу, але я думаю, што лічба вельмі перабольшана.

У Ташкенце дзейнічаюць джамі (жамі, як кажуць) - вялікія мячэці. У пятніцу і гадавыя мусульманскія святы ў іх бывае многа вернікаў. Пасля богаслужэння мусульмане слухаюць хутбу. Пры джамі ёсць кнігазборы мусульманскай літаратуры, школы юнакоў-мусульман, якімі кіруюць мулла ці нават муфтэй.

У мікраранёнах (махалля) ці кварталах ёсць мячэці мясцовага значэння. У іх моляцца па 5 разоў у суткі кожны дзень, акрамя нядзелі. Пра мячэці я кажу толькі тое, аб чым даведалася ў людзей, бо жанчыны ў Сярэдняй Азіі ў мячэці не ходзяць, а моляцца дома.

У Ташкенце працуе мужчынскі мусульманскі тэхнікум, куды прымаюць юнакоў пасля завяршэння 9-гадовай адукацыі. Такія тэхнікумы ёсць па аднаму ў кожнай вобласці Узбекістана. У Ташкенце можна атрымаць вышэйшую адукацыю ў мусульманскім інстытуце. У сталіцы Узбекістана ёсць дзявочы мусульманскі тэхнікум. Па-арабску там чытаюцца лекцыі па гісторыі Ісламу, а астатнія прадметы - па-узбекску. У гэтым тэхнікуме з татарскімі дзяўчынкамі праводзяцца заняткі тры дні ў тыдзень па 4-5 гадзін, дзе яны вывучаюць Іслам.

У тэхнікумах і інстытуце могуць вучыцца толькі мусульмане - грамадзяне Узбекістана.

Г. Хамідулліна

## ПРАБЛЕМЫ ЭТНАГЕНЕЗУ БЕЛАРУСКІХ ТАТАР
(з дыпломнай працы Алены Ахметшынай - працяг)

Пытанне пра тое, калі пасяліліся першыя татары на землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы, канчаткова не вырашана. Звычайна лічаць 14-15 стагоддзі. Аднак можна меркаваць і пра больш ранняе паяўленне іх на землях Беларусі. Думку пра гэта выказваў у канцы 19 ст. І.І. Лаппо, у 1920-х гг. Дж. Александровіч-Насыфі.

Сапраўды, першае сутыкненне Беларуска-Літоўскай дзяржавы з мангола-татарамі адбылося ў 40-х гг. 13 ст. Так, у "Хроніцы Быхаўца" распавядаецца пра бітвы пад Магільным у 1241 г. (цяпер у Уздзенскім раёне) і паблізу Крутагор'я ў 1249 г. Аднак нядаўна ўзнікла версія, высунутая беларускім гісторыкам М. Ермаловічам, што гэтых бітваў не было. Свае высновы ён грунтуе на тым, што ў розных летапісах не супадаюць ні імёны, ні гады жыцця і праўлення князёў. Тым не менш М. Ермаловіч не аспрэчвае ўпамінанні пра іншыя сутычкі з татарамі на

Беларусі ў канцы 13 ст. і нават пацвярджае дадзеныя пра паходы татар на Наваградак у 1258 і 1274 гг.

Бітваў без палонных з прайграўшага боку, як правіла, не бывае, таму тая ці іншая колькасць татараў трапляла ў палон. Гуманныя адносіны літоўскіх князёў да сваіх праціўнікаў агульнавядомыя. Так, у войску Гедыміна (1316-1341 гг) былі татарскія атрады, частка з якіх магла быць сфарміраваная з тых, хто ўжо да гэтага жыў на землях княства. Цікавы і такі факт, што ўцякаючы ад Батыя, у 1238 годзе кыпчацкі народ (каля 40 тыс. сямей) рассяліўся ў асноўным у Венгрыі, Галіцыі і Кракавіі. Частка з іх магла апынуцца і на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Але, безумоўна, найбольш спрыяльным часам для перасялення татараў быў час праўлення Вітаўта (1392-1430). Як дальнабачны палітык, ён устанавіў добрасуседскія адносіны з татарамі, каб пазбегнуць іх нападаў, а таксама выкарыстоўваў іх ваенную сілу для абароны ад Тэўтонскага ордэна і заходніх суседзяў і пашырэння Беларуска-Літоўскай дзяржавы.

Што датычыцца пытання пра колькасць татарскага насельніцтва ў ВКЛ, то тут не ўсё вядома. Звязана гэта з тым, што дакладных звестак у гістарычнай літаратуры няма, А тое, што ёсць вельмі супярэчлівае (няма бясспрэчных звестак і пра колькасць хрысціянскага насельніцтва ў ВКЛ - заўвага рэд).

Так, у “Рызале-і-татар-і-Лех”, невялікай справаздачы, напісанай адным татарынам з ВКЛ для візіра Султана Сюлеймана - Рустама-пашы ў 1558 г., колькасць татар вызначана як 200 тысяч чалавек. Аўтар “Аль-Фуркана татарскага” (1616 г.) называе колькасць татар у ВКЛ 100 тысяч. Але і гэтая лічба, верагодна, перабольшана. У канцы 16 - пачатку 17 стст. у час праўлення Жыгімонта III частка татар у выніку праследавання іх у ВКЛ выехала на землі, падпарадкаваныя турэцкаму султану. Паводле ацэнак навукоўцаў, гэтых перасяленцаў было каля 36 тыс. чалавек. Паводле перапісу Кэрдэя ў 1631 г. татарскае насельніцтва у ВКЛ складала 25 тыс. чалавек, значыць у 1616 г. яно не магло складаць 100 тысяч.

Гаворачы пра 19 ст., мы не маем дакладнай інфармацыі. Паводле ацэнкі прафесара А. Мухлінскага ў шасці губернях Паўночна-Заходняга края, Ковенскай губерні і Прывісленскага края пражывала 5737 мусульман, а паводле перапісу 1897 г. называецца лічба 25,9 тыс., расселеных на захадзе Расійскай імперыі.

Паводле апошняга перапісу насельніцтва на Беларусі ў 1989 г. жыло 12436 чалавек татарскай нацыянальнасці, пры гэым 3,2 тыс. з іх назвалі роднай мовай татарскую, значыць нашчадкаў татар ВКЛ можна аднесці прыблізна 9 тысяч чалавек.

Такім чынам, мы бачым, што праблемы, якія датычацца часу паяўлення татар на беларускай зямлі, іх колькасці ў розныя гістарычныя перыяды, застаюцца не зусім даследаваныя і патрабуюць далейшага вывучэння.

# ДАЛЁКІЯ ПРОДКІ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ БЫЛІ ТАТАРСКАГА ПАХОДЖАННЯ?

(з росшукаў Алеся Баркоўскага)

Пастаянны аўтар допісаў для "Байрама" на гэты раз затрымае ўвагу дапытлівага чытача, які ведае пра тое, што беларуская паэтка Арсеннева і рускі паэт Лермантаў належалі да аднаго роду. Але тое, што яны належалі таксама да татарскага роду – то гэта магчыма, але яшчэ не даказана, ці проста ... неяк нечакана.

Вядома, што калі чалавек зрабіўся знакамітым, то знойдуцца аматары, якія будуць шукаць і знойдуць крэўныя сувязі са славутым чалавекам, а калі агульных продкаў няма, дык хоць бы давядуць тое, што яны з аднаго народу з гэтым чалавекам. Пра рускага паэта Міхаіла Лермантава ну проста неаспрэчна (на іх думку) даказана, што па бацьку паэт паходзіў з іспанцаў, шатландцаў, беларусаў. А да іспанскага быў продак з габрэяў. Доказы, а часцей, проста згадкі пра такое складанае паходжанне роду Лермантавых прыхільнікі славутага паэта знаходзяць у дакументах і творах свайго куміра.

Магчыма, не ўсе чытачы "Байрама" ведаюць пра тое, што Міхаіл Юр'евіч Лермантаў па мацярынскай лініі паходзіў з татараў. Расійскі даследчык-літаратар Авідзій Гарчакоў у сваёй кнізе "Если бы мы не любили так нежно..." (Масква, 1994 г.) на старонцы 6 даводзіць, што род Арсенневых, з якім парадніўся Юрый Лермантаў (Джордж Лерман), бацька паэта, "бярэ пачатка ад татарскага мурзы Арслана, які прыйшоў у XIV ст. з Залатой Арды. Арслан хрысціўся Арсеніем. Ад яго пайшлі Арсенневы і князі Юсупавы."

Энцыклапедычнае выданне – "Беларускія пісьменнікі. Бібліяграфічны слоўнік", Мн., 1992, Т. I, стар. 103 падае, што бацька выбітнай беларускай паэткі Наталлі Арсенневай "быў служачым, паходзіў з роду Арсенневых, якія па жаночай лініі даў паэта М. Лермантава" (аўтар артыкалу ў Бібліяграфічным слоўніку – І.Э. Багдановіч). Тады мне засталося пашукаць у іншых крыніцах пра тое, што бабка паэта Лізавета Аляксееўна Арсеннева, мела татарскія карані. Вось якія выпіскі я зрабіў з кнігі Н.А. Баскакава "Руские фамилии тюркского происхождения" (М., 1981, стар. 39. Аўтар артыкула С.А. Панфілава).

У кнізе Баскакава сказана: "Предок рода Арсеньевых Ослан мурза, а по крещении названный Прокопием, выехал к великому князю Дмитрию Иоанновичу Донскому из Золотой Орды и пожалован поместьями. У сего Ослана были дети: Арсений, Федор, Лев по прозвании Широкий рот и Павел. От них пошли: от Арсенья - Арсеньевы, от Федора - Сомовы, от Льва - Широкого рта - Ртищевы, а от Павла - Павловы".

(Общий гербовник дворянских родов Всеросийской империи, начатый в 1797. Т.5, с.28).

У артыкуле Панфілавай сказана: " Род Арсеньевых в Росии берет свое начало в 1389 г. когда к Великому князю владимирскому и московскому Дмитри ю Донскому из Золотой Орды перешел на службу Аслан Мурза Челебей (наряду с другими представителями татарской знати). Челебей принял православную христианскую веру и получил имя Прокопий. По родословной легенде" сам Великий князь был его воспреемником и выдал за него дочь своего ближнего человека Житова - Марию. У Прокопия было три сына - Арсений, Яков и Лев. Старший сын Арсений (Юсуп) является родоначальніком Арсеньевых. Из рода Арсеньевых вышли крупные государственные и военные деятели России".

Як заўважыў пільны чытач, у звестках Гарчакова, Баскакава і Панфілавай ёсць некаторыя разыходжанні, але ў асноўным яны супадаюць. Дык пакуль што можна пагадзіцца, што ў паэткі Наталлі Арсеневай ёсць нешта ад цюрскага паходжання яе продкаў. Чытайце ўсе творы Лермантава і Арсенневай. Думаю, што татарыну гэта не пашкодзіць, а задавальненне, гарантую, вы атрымаеце.

А. Баркоўскі

## КАРАІМЫ І ТАТАРЫ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ ПАСЯЛІЛІСЯ ШЭСЦЬ СТАГОДДЗЯЎ ТАМУ НАЗАД

У 1997 г. татары Беларусі адзначаюць 600-годдзе свайго пасялення на гэтай зямлі. Караімы таксама будуць у ліпені 1997 г. адзначаць свой 600-гадовы юбілей на землях Літвы. Мова і гісторыя пасялення гэтых народаў у Беларуска-Літоўскай Дзяржаве маюць шмат агульнага.

У IV ці V ст. цюркскія народы, відавочна, трапілі пад уладу гуннаў і толькі ў пачатку VI ст. зусім вызваліліся ад іх улады. Хазары - адзін з цюркскіх народаў пашырылі свае ўладанні на абшырных прасторах у Перадкаўказзі, у басейне ніжняй Волгі і ніжняга Дона, паўночнай часткі Крыма. На ўсход, за Волгай і Яікам (Уралам) хазары межавалі з цюркамі-качэўнікамі, на захад іх уладанні цягнуліся за Дняпро да Буга, а на поўначы яны межавалі з буртасамі і царствам волжска-камскіх булгар. Уладанні хазар даходзілі да Самарскай Лукі. У VIII ст. хазары пакарылі некаторыя славянскія плямёны - палян, севяран, радзімічаў і вяцічаў. Пра хазар вядома, што яны былі народам напаўкачавым. Зімой жылі ў гарадах і паселішчах, а з наступленнем вясны выязджалі ў стэп да сваіх статкаў, палеткаў, садоў і вінаграднікаў. На чале Хазарскага царства стаяў каган, які меў неабмежаваную ўладу, асоба яго лічылася свяшчэннай. З каганам, які меў вялікае войска (першая ў Еўропе рэгулярная армія) лічыліся далёка за межамі Хазарскага ханства. Візантыйскія імператары шукалі добрых адносін з хазарамі. Іх уладанні судакраналіся ў Крыме: хазары з VIII ст. валодалі стэпавай і перадгорнай часткай Крыма, а Візантыі

належалі Корсунь і Паўднёвы бераг Крыма. Дружбы з вялікім, культурным і моцным хазарскім народам шукалі ў свой час такія магутныя дзяржавы як Персія і Арабскі халіфат, не кажучы ўжо пра Русь і невялікія каўказскія дзяржавы. Вось што піша пра хазар вядомы рускі арыенталіст В.В. Грыгор'еў: "Незвычайным з'явішчам у сярэднія вякі быў народ хазарскі. Акружаны плямёнамі дзікімі і качэўнікамі, ён меў усю перавагу краін цывілізаваных: упарадкаванае ўпраўленне, абшырны, квітнеючы гандаль і рэгулярнае войска. Калі найвялікшае безуладдзе, фанатызм і бязмежная невуцтва аспрэчвалі адзін у другога панаванне над Заходняй Еўропай, Хазарская дзяржава славілася правасуддзем і талерантнасцю, і праследуемыя за веру сцякаліся сюды адусюль. Як светлы метэор зіхацела яна на змрочным небасхіле Еўропы і згасла, не пакінуўшы ніякага следу свайго існавання" (Грыгор'еў. Расія і Азія. С. 68).

Гісторыкамі даказана, што частка цюркскага народа – хазары у эпоху свайго найвышэйшага росквіту ў канцы VIII – пачатку IX стст. прынялі вучэнне Старога Запавету.

У VIII ст. ў Міжрэччы-Месапатаміі ўзнікла новае веравучэнне, пачатак якога некаторыя вучоныя вызначаюць часам зямного жыцця Ісуса Хрыста і лічаць, што сам караізм узнік пад уплывам вучэння заснавальніка хрысціянства. А на далейшае развіццё караізму вялікі ўплыў аказаў іслам. Пашырэнне караізму паступова знаходзіць новыя тэрыторыі. На поўначы ананіты (паплечнікі Анана бен Давіда з Басры) дайшлі да Дамаска, далей яны дасягнулі ў канцы VIII ст. да Нікамедыі ў Малой Азіі (Ізмір – цэнтр правінцыі Коджаэлі), дзе жыў вядомы Афрон Нікамедыйскі або Аарон II. Адсюль родам быў знакаміты Ісаак Сангары, пад кіраўніцтвам якога прыйшла група місіянераў караімскага веравучэння да двара Хазарскага царства, дзе іх вельмі ветліва сустрэлі. Трэба дадаць, што пры царскім двары ўжо знаходзіліся таксама хрысціянскія і мусульманскія багасловы. Вядома, што Ісаак Сангары неравёў у сваю веру царэвіча Булана, які пазней заняў трон. Затым гэтае веравучэнне прыняла царская сям'я і бліжэйшае наваколле – прадстаўнікі пануючага класа. Рашэнне прыняць караімскую веру перапляталася з палітычнымі меркаваннямі: хазарам не хацелася заключаць саюз з хрысціянскай Візантыяй і ваяваць супроць Персіі, ні ў саюзе з мусульманскай Персіяй ваяваць супраць Візантыі.

Такім чынам місіянерам караізму ўдаецца пашырыць сваё вучэнне сярод народаў цюркскага і часткова славянскага паходжання.

У пачатку XI ст. Хазарскае царства пала і шматлікі хазарскі народ паступова зліўся з навакольнымі народамі, пры гэтым хрысціяне – са сваімі пераможцамі – рускімі, а мусульмане растварыліся ў масе печанегаў, якія ў сваю чаргу зліліся з полаўцамі. Куды ж падзелася тая частка хазар, якая вызнавала Стары Запавет? Яны рушылі ў напрамку паўвострава Крым, дзе ўжо засяродзілася асноўная маса адзінаверцаў. Вучоныя-арыенталісты, якія спецыяльна займаліся лёсам старажытнага

насельніцтва сучаснага поўдня Расіі, прыйшлі да высновы, што сучасныя караімы, якія гавораць на старым цюркскім дыялекце, з'яўляюцца, безумоўна, нашчадкамі гэтай часткі хазар.

Даследчыкам гісторыі вядома, што месца хазар на ніжняй Волзе і ў Дагестане занялі аланы, а часткова, можа быць, цюркі-агузы. Былая хазарская тэрыторыя ў сучасных паўднёва-рускіх стэпах была занята спачатку печанегамі, але печанегі, у сваю чаргу, не ўтрымаліся даўжэй чым да XII ст., калі яны ўжо перасталі існаваць як народ, зліўшыся з полаўцамі. Тут трэба мець на ўвазе, што полаўцы (у славян), куманы (у грэкаў, часткова ў арабаў і ў Заходняй Еўропе) і кыпчакі (у мусульманскіх пісьменнікаў) з'яўляецца адным і тым жа народам пад трыма рознымі імёнамі.

Пра тое, што частка полаўцаў вызнавала караімскую веру, ёсць дастаткова дадзеных, якія можна знайсці ў расказах вядомых падарожнікаў. Ёсць яшчэ доказы і лінгвістычнага парадку, а менавіта: надзвычайнае падабенства мовы сучасных караімаў Літвы і Польшчы (выехаўшых з Крыма ў канцы XV ст) да мовы тэкстаў *Codex Comanicus,* адзінага помніка палавецкай мовы, пакінутага ў XIII ст. каталіцкімі місіянерамі. На гэту ж мову перакладзена караімская Біблія, якой карыстаюцца як у богаслужэнні ў храмах, так і дома. У караімаў у Крыме яшчэ да гэтага часу збярогся даволі значны род, які мае прозвішча Камэн.

Хоць злучаныя сілы Візантыі і цьмутараканскага князя паклалі канец Хазарскай дзяржаве, але гэта яшчэ не азначае, што адразу бясследна знік увесь шматлікі хазарскі народ. Калі ўпамінак пра хазараў і іх ваенных дзеях адзначаецца ў канцы XI ст., то аб іх жа, як аб народзе, які збярогся, звесткі трапляюцца нават у XII і XIV стст. Ёсць указанні пра тое, што папы рымскія яшчэ ў XIII і XIV стст. пасылалі прапаведнікаў і місіянераў для хрышчэння рэшткі хазар у каталіцкую веру, а менавіта: папа Інакенцій IV у 1253 г., Мікалай IV у 1288 г. і Урбан V у 1369 г. Яшчэ некалькі стагоддзяў пасля падзення хазарскай дзяржавы імя хазар ужывалася як назва Крымскага паўвострава. Калі караімы цяпер з'яўляюцца адзінымі на паўвостраве нашчадкамі хазарскага народа, то трэба ў іх шукаць сляды іх даўніх продкаў.

У 1016 г. злучаныя сілы князя Мсціслава Уладзіміравіча Цьмутараканскага і візантыйскага імператара Васіля II разбілі ўшчэнт армію ўзятага імі ў палон хазарскага кагана Чулу. Гэта адбылося ў Крыме. Пасля гібелі кагана былыя хазарскія ўладанні ў Крыме часткова заставаліся ў руках грэкаў-херсанесцаў, далей на ўсход і ў гарах - готаў і аланаў, а на Керчанскім паўвостраве (Пантыкапея - Баспор) прасціралася ўлада рускага цьмутараканскага княства, якое выцясніла адтуль печанегаў. У астатняй частцы паўвострава ад перашыйка і далей праз Салхат да Кафы (з 1030) панавалі полаўцы (яны ж куманы, кыпчакі), якія займалі і прылеглыя да Крыма паўднёва-рускія стэпы. У пачатку XIII ст. на паўднёвым беразе Крыма

паяўляюцца спачатку на кароткі час венецыянцы, а затым - генуэзцы, якія заснавалі тут гандлёвыя факторыі.

Між тым у горнай частцы яшчэ трымаліся на невялікай прасторы грэка-готы ў так званым княстве Феадора (Дарос, Тадора, цяперашні Мангуп) і на паўночным усходзе – караімы, якія мелі сваіх князёў у крэпасці Гухур-Кермен (Курк-Ор, Кыркор, Кырк-Ер, Чуфут-Кале, Чуфт-Кале, Джуфт–Кале) і яго бліжэйшым наваколлі – Таш-Ярган, Ягмунчу, Чабак, Каксу і інш.

Лёс Дуфут-Кале і караімскіх князёў быў непараўнальна больш шчаслівы за тых, хто жыў у Мангупе. Пасля заваявання Крыма татарамі адносіны іх з караімскімі князямі былі даволі добрыя. Ханы з дынастыі Гірэяў прадаставілі караімам поўную свабоду ў справе ўнутранага кіравання. На чале народа стаялі ўсё тыя ж князі, якія хоць і лічыліся на службе ханаў, усё ж працягвалі па-ранейшаму правіць народам і крэпасцю, у якой у цяжкі час міжусобіц шукалі схованкі самі ханы Крыма, якіх хавалі і абаранялі тыя ж караімы. У ярлыках, наданых ханамі караімам, напісана, што за ваенную службу, за абарону крэпасці караімы залічаны ў вельмі ганаровае ў ханстве саслоўе – тарханаў (ваеннай адміністрацыі), а прывілеі гэтыя бяруць свой пачатак з часоў першага хана Хаджы-Гірэя і захоўвалі яны сваю моц да пачатку XVI ст.

Вядома, што князь Вітаўт Вялікі дайшоў у 1397 г. да Салхата – цэнтра Крыма, калі той яшчэ не быў самастойнай дзяржавай і афіцыйна з'яўляўся правінцыяй Залатой Арды, хоць і ўпраўляўся асобным эмірам. Адным з вынікаў гэтага паходу было перасяленне ў Вялікае Княства Літоўскае часткі мясцовага крымскага насельніцтва - татар і караімаў. ВКЛ, як вядома, мела патрэбу ва ўмацаванні сваіх заходніх земляў, сумежных з землямі, падпарадкаванымі нямецкім рыцарам.

Новапасяленцы – татары і караімы – увайшлі ў склад гарнізонаў ВКЛ і прымалі ўдзел у войнах княства з суседнімі краінамі. Вядома, што пад Грунвальдам у 1410 г. у бітве супроць крыжакоў прымаў удзел атрад, які складаўся з татарскіх пасяленцаў у ВКЛ.

Гістарычныя крыніцы, як заходнееўрапейскія, так і цюркскіх краін адзначаюць тое, што Літва часоў Вітаўта і пазней была цесна звязана з мусульманскімі краінамі і народамі – з Залатой Ардой, а пасля вылучэння з яе складу асобных незалежных ханстваў, то і з імі. У ВКЛ ханы, іх нашчадкі і княжацкія (ханскія) дружыны знаходзілі прытулак, а таксама падтрымку ў барацьбе за страчаны на радзіме прастол. Вядома, што заснавальнік крымскай дынастыі – Хаджы-Гірэй-хан нарадзіўся ў Тракаі (Троках), у час пражывання ў ВКЛ стрыечнага брата Тахтамыша. Умацавацца на троне Хаджы-Гірэю дапамог Вітаўт.

Ні ў гістарычных крыніцах, ні ў народных паданнях няма ўпаміну пра які-небудзь усціск караімаў ці пра які-небудзь факт, які азмрочваў бы вобраз Вітаўта. Наадварот, караімы захавалі "амаль свяшчэнную

павагу" да памяці Вітаўта. Караімскія народныя паданні гавораць аб ім як аб мудрым і магутным уладары, сэрца якога напоўнена бацькоўскім клопатам і любоўю да сваіх падданых.

Самым старадаўнім месцам пасялення караімаў у ВКЛ з'явіўся горад Тракай. Ён стаў цэнтрам для караімаў, якія рассяліліся як паблізу Тракая, так і далёка за яго межамі. У Тракаі знаходзілася і вышэйшае духавенства, якому падпарадкоўваліся караімы ВКЛ.

У першыя гады пасялення караімаў у Тракаі іх, відавочна, не адрознівалі ад татар, бо па выгляду, мове, звычаях і побыту ў вачах карэннага насельніцтва яны здаваліся адным народам. таму і возера, на беразе якога размясціўся караімскі стан, атрымала назву Татарышкю (Татарскае). Гэта назва зберaглася і да сённяшняга часу. Акрамя гэтага, старадаўні караімскі магільнік у Тракаі, акружаны валам, да гэтага часу ў навакольнага насельніцтва называецца не інакш, як "татарскім валам" ці "татарскім магільнікам".

Караімы, якія пасяліліся ў ВКЛ, паводле сваіх заняткаў падзяляліся на два саслоўі: ваеннае і цывільнае. Ваенныя выконвалі свае абавязкі, мелі свае правы і прывілеі. Цывільнае насельніцтва атрымала зямлю і апрацоўвала яе, а назва гэтым землям была "каралеўскія землі" або "караімскія палі".

Самым старадаўнім дакументам, які збярогся да гэтага часу, з'яўляецца грамата Казіміра IV, сына Уладзіслава Ягелона, абвешчанага ў 1440 г. у Вільне вялікім князем Літвы.

Г. Гаммал

## ТАШКЕНТ У ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ
### (па розных даведніках, успамінах бежанцаў, якія жылі тады ў гэтым горадзе)

Сталіца Узбекістана - Ташкент лічыўся вялікім горадам у СССР. У 1939 г. тут жыло 550 тыс. чалавек, тэрыторыю ён займаў 90 кв. км. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў адным з арсеналаў Чырвонай Арміі. У чэрвені 1941 г. прынята рашэнне аб рабоце ва ўмовах вайны жыхароў горада, прадпрыемстваў і ўстаноў. Да пачатку 1942 г. амаль палова прамысловых прадпрыемстваў горада перайшла на поўны ці частковы выпуск ваеннай прадукцыі. Разам з тым трэба было ў сціслы тэрмін размясціць на тэрыторыі горада і забяспечыць работу больш чым 100 прадпрыемстваў, якія былі эвакуаваны з іншых раёнаў краіны, у тым ліку Маскоўскі авіяцыйны завод імя В.Чкалава, заводы "Растсельмаш", "Электракабель" і іншыя. Для размяшчэння прадпрыемстваў абароннага значэння было пабудавана і рэканструявана больш за 150 тыс. кв.м вытворчых памяшканняў. Пры мантажы абсталявання і будаўніцтве новых аб'ектаў удзельнічала да 115 тыс. чалавек. У снежні 1941 г. у Ташкенце дзейнічала 137 прадпрыемстваў, 64 выпускалі ваенную прадукцыю. У 1943 г. прамысловасць Ташкента дала прадукцыі ў 3 разу больш, чым у 1940 г.

За гады вайны карэнным чынам змянілася структура прамысловасці Ташкента. Калі ў 1940 г. 81% прыпадала на долю тэкстыльнай, лёгкай і харчовай прамысловасці, то ў 1941 г. 60% складала цяжкая прамысловасць, найбольш значным былі машынабудаванне і металаапрацоўка.

За гады вайны ў горадзе было створана да 20 шпіталяў (7650 ложкаў). Апеку над параненымі і хворымі воінамі Чырвонай Арміі ажыццяўлялі калектывы фабрык, заводаў, устаноў, санітарныя дружыны, навучэнцы школ і курсаў медсясцёр, дзеячы літаратуры і мастацтва.

Для размяшчэння дзіцячых дамоў і дзяцей, якія разлучыліся з бацькамі, былі вылучаны найлепшыя памяшканні горада. Падлеткаў накіроўвалі ў школы фабрычна-завадскога навучання, рамесныя і чыгуначныя вучылішчы з наступным накіраваннем на працу. Праводзіўся збор грашовых сродкаў, дзіцячых вопраткі. Па закліку жанчын Ташкента пачаўся масавы рух па ўсынаўленню эвакуаваных дзяцей. тысячы сямей падтрымалі гэты заклік фактычна. Сям'я Шамахмудавых (Шаахмед і яго жонка Бахры Акрамава) у студзені 1942 г. і наступныя месяцы ўсынавілі 15 сірот і выгадавалі іх дастойнымі людзьмі. Пасля разбуральнага землетрасення ўсе яны ўдзельнічалі ў хашары (талацэ) па адбудове жылля для пацятрпелах ад стыхійнага бедства.

У гады вайны. Ташкент стаў буйным цэнтрам падрыхтоўкі высокакваліфікаваных спецыялістаў па ўсіх галінах народнай гаспадаркі, навукі і культуры. Тут працавала 375 буйных вучоных і навуковых супрацоўнікаў з Акадэміі навук СССР. Іх дапамога і садружнасць з вучолнымі Ташкента далі добры плён у стварэнні капітальных навуковых прац, падрыхтоўцы і выхаванні маладых вучоных. У 1943 была ўтворана Акадэмія навук Узбекістана, працавалі 23 навукова-даследчыя ўстановы, у тым ліку Усесаюзны навукова-даследчы інстытут па бавоўнаводству, сярэднеазіяцкі інстытут ірыгацыі і іншыя. Вілікую ролю ў развіцці навукі і культуры адыгралі ВНУ Ташкента, а таксама эвакуаваныя сюды Маскоўскія інстытуты інжынераў геадэзіі, аэрафотаздымкі і картаграфіі, аўтадарожны, архітэктурны, планавы, Кіеўскі індустрыяльны інстытут і іншыя.

За гады вайны да 10 тэатраў Ташкента дадалося 8, эвакуаваных з іншых гарадоў краіны, у тым ліку Маскоўскі тэатр Рэвалюцыі, Кіеўскі тэатр імя Франка і іншыя. У Ташкенце жылі і працавалі вядомыя кампазітары, пісьменнікі, у тым ліку народны паэт Якуб Колас (адна з вуліц горада носіць яго імя), літаратуразнаўцы, перакладчыкі, эвакуаваныя з іншых гарадоў. У Ташкенце ў час вайны былі створаны вядомыя і любімыя гледачамі кінафільмы: "Аляксандр Пархоменка" (1942), "Два байцы"(1943), "Насрэддзін у Бухары" (1943) і іншыя. Працоўныя Ташкента аказвалі дапамогу насельніцтву, вызваленаму ад акупантаў.

Па просьбе чытачоў "Байрама" актыўная ўдзельніца Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" падзялілася ўспамінамі пра тое, як жылося дарослым, юнакам і дзецям у час вайны ў Ташкенце.

Вось аб чым расказала нам Сюмбіке Гарыфаўна Абязава: "Вялікая Айчынная вайна вельмі балюча адбілася на лёсе нашай сям'і. Спачатку раскажу пра маму, якая была найлепшай жанчынай, клапатлівай, працавітай і мужнай. Калі пачалася вайна, яна працавала на абаронным прадпрыемстве – шыла салдацкае адзенне. Збор бавоўны, здаецца, вельмі далёкая ад вайны справа, але аказалася была вельмі цесна звязаны з вайной. З бавоўны недзе на прадпрыемствах рабілі порах (а без яго ні стралкам, ні артылерыстам не абысціся), ткалі палатно для гімнасцёрак, брэзент для палатак і плашч-палатак, бялізну і бінты, вату для параненых. Вось што такое збор бавоўны ва Узбекістане.

Да таго ж маці вельмі пакутвала ад трапічнай ліхаманкі, калі чалавека знясільваюць прыступы то холаду, то гарачыні. Адзінае лячэнне ад гэтай хваробы – змяніць клімат. Маці даводзілася таксама выхаджваць параненых у шпіталях, а цяжка параненых, інвалідаў, калі ён не мог за сабой глядзець, трэба было адвезці дамоў, да яго родных. Можаце сабе ўявіць, як цяжка было маёй матулі везці параненых, дзе маці і жонкі параненых галосяць, калі ўбачаць, што зрабіла вайна з іх родным чалавекам.

У той час усе ў эвакуацыі працавалі вельмі аддана. Тата мой, выконваючы свае абавязкі, выязджаў на палявыя работы і працаваў там да апошняй моцы. Я і мая сястрычка Мадзіна таксама паспыталі працу ў полі, пад промнямі спякучага сонца. А ў мяне яшчэ да таго ж пачалася алергія, цела пакрылася пухірамі, пачалося заражэнне крыві, і ледзь не памерла. Толькі наш брат Рашыд, зусім маладзенькі хлопчык, мог бавіць час на вадасховішчы, добра плаваў (пазней стаў чэмпіёнам СССР і майстрам спорту па плаванні, майстрам спорту па шахматах і інжынерам-канструктарам ва ўзросце 21 год).

Я вучылася ў 9-м класе, а пасля таго, як скончыла дзесяцігодку, была запрошана на вучобу ў Маскоўскі архітэктурны інстытут, які працаваў у эвакуацыі ў Ташкенце. Мае настаўнікі ў школе і выкладчыкі ў інстытуце цікавіліся тымі дзяўчатамі (юнакі-аднакласнікі пайшлі на вайну і многія з іх загінулі ў баях), якія мелі добрыя здольнасці па матэматыцы і добра чарцілі і малявалі. Тое, аб чым марылася мне ў дзяцінстве і раннім юнацтве – спраўдзілася. Пасля таго, як фронт адсунуўся на захад і вораг ужо не пагражаў Маскве, некаторыя інстытуты вярнуліся і сталі працягваць сваю работу ў сталіцы СССР. Я разам са сваімі дзяўчатамі паехала туды, там з імі сустрэла і незабыўны Дзень Перамогі над фашысцкай Германіяй. Мая сястра адразу не змагла паступіць на вучобу туды, куды хацелася. Скончыла гандлёвы інстытут, але пасля скончыла яшчэ інстытут замежных моў.

Прайшло пасля вайны шмат гадоў, але добра памятаецца тое, што азмрочвала нас, хоць мы былі маладыя. Вельмі даймаў нас голад. Праўда, крыху ратавалі садавіна і гародніна. Думаю, што напоўгалоднае наша існаванне тады не маглі не паўплываць на здароўе ўсіх тых, хто перажыў вайну. Вось як адбілася вайна на лёсе маёй блізкай радні: дзьве цёткі засталіся ўдовамі, брат маёй маці, прыгожы малады хлопец вярнуўся з вайны інвалідам. Памерла адразу пасля вайны адна з сясцёр бацькі з прычыны недаядання, памёр ад голаду мой стрыечны брат - пляменнік бацькі.

Здарылася так, што я і мая сястра пасля вайны апынуліся у Калінінградзе. У Менску, прафесарам у кансерваторыі, аказалася мая аднакласніца Ніна Юдзевіч ,з якой разам я вучылася з 4-га класа і да заканчэння дзесяцігодкі. Яна і выказвала думку , а ці не пераехаць мне, а затым і маёй сястрыцы Мадзіне на пастаяннае жыццё ў сталіцу Беларусі. Так я і знайшла сабе тут прытулак. Сустракаюся з супляменнікамі-казанскімі татарамі. Цікаўлюся лёсам і справамі тых, з кім сябравала у Ташкенце, у Калінінградзе. Няхай 1996 год (1416-1417 Хіджра) будзе спакойным і шчаслівым для ўсіх людзей на зямлі.

## ДА ПЫТАННЯ АБ УЗАЕМААДНОСІНАХ БЕЛАРУСКАГА І ТАТАРСКАГА ЭТНАСАЎ

Напрыканцы дваццатага стагоддзя сусветная супольнасць сутыкнулась з праблемай нацыянальнага адраджэння, якая ў навуковым асяроддзі ўжо атрымала назву этнічнага рэнесансу. Як лагічнае наступства гэтага працэсу - з'яўленне на сусветным палітычным небасхіле новых самастойных дзяржаў. Паралельна з гэтай з'явай назіраецца рост нацыянальнай самасвядомасці, нацыянальнага самавызначэння ў краінах былога СССР.

Такая з'ява назіраецца не выпадкова. Яна - вынік антынацыянальнай палітыкі тагачаснага кіраўніцтва СССР. Ведама, што ў рамках таталітарнага камуністычнага рэжыма дэкларавалі, а не рэалізоўвалі нацыянальныя правы. Перад нацыямі паўстала пытанне нацыянальнага адраджэння. Гэта складаны і цяжкі працэс, які абумоўлівае рост нацыянальнай самасвядомасці. Вядома, таксама, што нацыянальная самасвядомасць - гэта свядомасць становішча, месца і ролі сваёй нацыі ў сістэме грамадскіх зносін, у тым ліку і міжнародных. Аднойчы ўзнікнуўшы, нацыянальная самасвядомасць набывае адносную самастойнасць. У склад нацыянальнай самасвядомасці ўваходзяць такія элементы, як: свядомасць этнічнай агульнасці і адносін да іншых суполак, прыхільнасць да нацыянальных каштоўнасцей (мовы, тэрыторыі, дэмакратычнай культуры).

Бывае так, што грамадства не здольнае ўсвядоміць рост нацыянальнай самасвядомасці, ставіцца да яе варожа. Феномен нацыянальнага атаясамліваецца як нацыяналістычнае. У сувязі з

гэтым трэба адзначыць, што нацыяналізм як ідэалогія мае пад сабой пазітыўны змест. Ён стымулюе абнаўленне закасцянелых сацыяльных структур.

Краіны СНД па-рознаму вырашаюць праблему нацыянальнага адраджэння, узаемаадносін карэннай нацыі і нацыянальнай меншасці. Рэспубліка Беларусь станоўча вырашае праблему нацыянальных меншасцей. У рэспубліцы створан шэраг нацыянальна-культурных згуртаванняў, прыняты Закон аб дзяржаўнай мове і мовах этнасаў, што пражываюць у межах рэспублікі. Вырашана часткова канфесіянальная праблема. Вядома, што вырашаць дзяржаўныя праблемы, у тым ліку і нацыянальныя, можна толькі пры абагульненні гістарычнага мінулага, традыцый беларускага народа і іншых этнасаў.

Звернемся да гістарычнага вопыта ўзаемаадносін беларусаў і беларускіх татараў. Беларусаў лічаць талерантнай нацыяй. У чым жа вытокі гэтай талерантнасці? Некаторыя даследчыкі лічаць, што адным з такіх вытокаў з'яўляецца размяшчэнне Беларусі ў цэнтры Еўропы, тое, што Беларусь займае прамежкавае становішча паміж Усходам і Захадам. На маю думку, талерантнасць можа паспяхова існаваць ва ўмовах ўзаемадзеяння і ўзаемаразумення розных народаў.

Так, спрадвеку на тэрыторыі Беларусі пражываюць беларускія татары. Гэта невялікі этнас акрамя Беларусі пражывае на тэрыторыі Польшчы і Літвы - краін, якія ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, а затым Рэчы Паспалітай.

Напрыканцы XIII ст. і ў пачатку XIV ст., як сведчаць гістарычныя крыніцы, на тэрыторыі заходнерускіх зямель з'явіліся цюрка-татары. У аналах даміниканскага ордэна 1324 г. гаворыцца аб тым, што манахі-місіянеры наведалі край язычнікаў-літвінаў і сярод іх выявілі прадстаўнікоў нейкага хана, якія жылі там.

Вядома, што татары Дэшт-Кіпчака (Залатой Арды) прынялі Іслам у другой палове XIII ст. Таму першыя татарскія загоны, прыбыўшыя на Літву, былі мусульманскія. І тое, что паміж мусульманамі і мясцовым насельніцтвам, часткова яшчэ язычніцкім, было паразуменне, сведчыць, што вытокі талерантнасці закладаліся яшчэ ў старажытнасці.

Прыкладна ў гэтыя часы была збудавана першая мячэць у Сорак-Татарах каля Вільні. Пазней мячэці сталі ўзнікаць у месцах кампактнага пражывання татарскага насельніцтва. Ужо ў XIV ст. у Вялікім княстве Літоўскім налічвалася каля трыццаці мячэцяў.

У канцы XVI ст., калі абвастрыліся ўзаемаадносіны паміж каталікамі і праваслаўнымі, умацаванне мусульманскага фактара можна адзначыць як фенамен. Якімі інтарэсамі кіраваліся пры гэтым князі ВКЛ, цяжка акрэсліць адназначна. Відавочна толькі, што гэта быў прыклад верацярпімасці, паразумення.

Татары, як сведчаць гістарычныя крыніцы, належалі да вайсковага саслоўя. І каб захаваць і пашырыць яго памеры, татарам

дазвалялася браць шлюб з мясцовымі дзяўчатамі. Дзеці ад гэтых шлюбаў прымалі веру бацькі. Вялікія князі Літоўскія і польскія каралі бачылі ў мячэцях ідэалагічны цэнтр, які акумуляваў інтарэсы рознапляменнай татарскай масы пад эгідай веры. Іслам жа патрабаваў ад веруючага чалавека добрасумленнасці, добразычлівасці, дабрыні.

Да нашых часоў дайшла легенда пра нейкага татарына Абіда, які ійшоў да мячэці. Але яго спакусіла карчмарка, угаварыла выпіць куфаль гарэлкі, пасля чаго Абід згвалціў карчмарку і забіў яе дзіця. Гэтая легенда сцвярджае шкоду п'янства, распавядае пра тое, што Бог пакараў гэтага чалавека.

Вядома таксама, што дзесьці ў другой палове XVI ст. татары забылі сваю мову і сталі выкарыстоўваць мову мясцовага насельніцтва: беларускую або польскую. Але гэта адбывалася не механічна, а праз ўзаемаабагачэнне моў. Мясцовая і цюркская мовы ўзаемаабагачаліся. Як вынік гэтага ўзаемаабагачэння - наяўнасць вялікай колькасці цюркскіх слоў у беларускай мове. У сваю чаргу, татары пастулова пачынаюць успрымаць мясцовую мову і разам з тым захоўваюць пэўныя элементы цюркскай мовы. Аб гэтым сведчаць рукапісныя кнігі (кітабы), пісаныя арабскай графікай. На жаль, вялікая колькасць гэтых кніг знікла бясследна. Першыя з кітабаў былі напісаны ў XVII ст. У іх можна знайсці розныя звесткі, казкі, легенды, сведчанні аб нейкіх гістарычных падзеях. Станоўчае яшчэ тое, што ў гэтых кнігах захаваліся элементы старажытнай беларускай і цюркскай мовы, якая выкарыстоўвалася ў лексіконе татар. Гэтыя кнігі перадаваліся з пакалення ў пакаленне і былі сямейнай спадчынай. Адсутнасць доступу да іх і незнаёмае пісьмо сталі прычынамі адсутнасці ўвагі даследчыкаў да гэтых кніг.

І зараз прыкмента тое, што татарскае насельніцтва рэспублікі размаўляе пераважна на беларускай мове. У лексіконе беларускіх татараў можна пачуць і цюркскія словы, сутнасць якіх яны, на жаль, забылі.

Але ў іх засталася рэлігія - Іслам, адданасць да якой яны пранеслі праз стагоддзі. У штодзённых малітвах яны просяць літасці ў Бога да беларускай зямлі, на якой яны жывуць і якая ім стала Радзімай, да людзей, якіх яны лічаць сваімі братамі.

Самаадданасць Радзіме, Бацькаўшчыне з'яўляецца характэрнай рысай гэтага народа. І гэта вельмі важна адзначыць ва ўмовах нацыянальнага нігілізму, негатыўнага стаўлення пэўнай часткі беларускага грамадства да сваёй нацыянальнай спадчыны.

Мустафа Канапацкі (Мінск)

# ПРЫКЛАДАМ БЫЛА РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ ФРАНЦЫЯ

У 1994 годзе патрыятычна свядомыя колы Беларусі адзначылі двухсотгоддзе нацыянальна-вызваленчага паўстання, на чале якога стаяў Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка. У сувязі з гэтай падзеяй былі выпушчаны чатыры маркі з выявамі кіраўнікоў паўстання. На адной з іх змешчана выява Якуба Ясінскага.

Гэта чалавек па праву лічыцца нацыянальным героем беларускага, літоўскага і польскага народаў. Без згадкі аб ім не абыходзіцца ні адна навуковая або навукова-папулярная праца з тых, што распавядаюць аб паўстанні 1794 г. Аўтару гэтых радкоў давялося прагледзець не адну з такіх прац. Аднак нідзе ў іх не прыгадваецца аб тым, што ён меў татарскае паходжанне. А між тым гэта менавіта так. Яго продкі пасяліліся на зямлі Вялікага княства Літоўскага яшчэ ў XVI стагоддзі. Заснавальнікам роду Ясінскіх, як, дарэчы, і Смольскіх, і Рчэповічаў, быў Сенчук, бацька Араза, які прыгадваецца ў пісьмовых крыніцах пад 1528 годам. Араз меў чатырох сыноў: Багдана, Адама, Януша і Кудземана. Два першыя, падобна, нашчадкаў не пакінулі. Магчыма, загінулі падчас удзелу ў якойсці вайне. Ад Януша пайшлі роды Смольскіх і Рчэповічаў. А Кудземан даў пачатак роду Ясінскіх. Ён значыцца пад 1567 годам у спісах харугвы ўланскай. Дарэчы, усе першыя Ясінскія былі прыпісаны менавіта да ўланскай харугвы. Кудземан пад канец жыцця атрымаў пасаду вознага гродзенскага. Можна меркаваць, што менавіта тады ён прыняў імя, якое было сугучным з мясцовым. Бо яго сын, "атаман уланскі" (як прыгадваецца аб ім у крыніцах падчас 1631 года) ужо называўся Ясінскім. Адзін з яго сыноў, Сулейман, стаў у 1657 годзе ротмістрам баранавіцкім. Варта звярнуць увагу на гэту акалічнасц, бо дзякуючы ёй, а таксама пасадзе Кудземана магчыма сцвярджаць, што яны служылі, а галоўнае, жылі на землях Вялікага княства Літоўскага. Бо, як вядома, жыхарам Кароны (Польшчы) законам было забаронена займаць дзяржаўныя пасады ў Княстве. Пэўныя акалічнасці, гледзячы па ўсім, вымусілі іх нашчадкаў перасяліцца ў Польшчу. Аднак сувязі з Вялікім княствам Літоўскім Ясінскія не страцілі. Так, да прыкладу, бацька Якуба Павел Ясінскі ў свой час служыў у званні паручніка ў харугве ваяводы смаленскага князя Сапегі. Па яго слядах пазней пайшлі тры сыны.

Якуб нарадзіўся 24 ліпеня 1761 года ў Венглеве на Вялікапольшчы. Маці яго, Францішка, паходзіла з роду Касцецкіх. Хлопец выбраў тую ж дарогу, што і большасць прадстаўнікоў шляхты татарскага паходжання, - ваенную. Аднак не лёгкую кавалерыю, як яго продкі, а інжынерныя войскі. У 1773 годзе ён быў залічаны ў незадоўга да гэтага створаны корпус. Кадэты займаліся ў ім страявой падрыхтоўкай, фехтаваннем, коннай яздой, вывучалі тактыку, літаратуру, гісторыю, французскую, нямецкую і лацінскую мовы, арыфметыку, геаметрыю і вышэйшую матэматыку, фізіку. Але адным з асноўных прадметаў былі артылерыя і ваенна - інжынерная справа.

Закончыў корпус Якуб у 1781 годзе. Потым у якасці афіцэра да 1784 знаходзіўся пры корпусе. Атрымаў званне капітана. Аднак з-за цяжкага матэрыяльнага становішча вымушаны быў пакінуць яго. У лютым 1785 г. ўладкаваўся да Пятра Патоцкага. Выконваў функцыю выхавацеля яго дзяцей. З гаспадаром быў у цудоўных адносінах, але праца не заладзілася, і ў 1787 г. Ясінскі вятраецца ў Варшаўскі кадэцкі корпус. Сувязь з былым гаспадаром не парывае. Менавіта па пратэкцыі Патоцкага Якуб узначаліў у 1790 г. корпус літоўскіх інжынераў, які толькі-толькі быў заснаваны ў Вільні. На новай пасадзе развіў кіпучую дзейнасць. Нават стварыў пры корпусе спецыяльную інжынерную школу.

На пачатку 1792 г. Ясінскі атрымаў званне падпалкоўніка. У тым жа годзе прыняў удзел у ваенных дзеяннях. На чале корпуса інжынераў змагаўся з войскамі Расейскай імерыі. Найбольш значныя бітвы, у якіх ён прыняў удзел, адбыліся пад Мірам і Брэстам. У апошнім назвным горадзе менавіта ён арганізаваў абарону. Прычым настолькі добра, што за гэтую справу і асабістую адвагу быў узнагароджаны ордэнам "Virtuti militari". Якуб быў адным з першых, хто атрымаў гэтую узнагароду. Як вядома, з-за здрадніцтва часткі прадстаўнікоў магнацка-шляхецкіх колаў ды самога караля вайна была прайграна. У знак пратэсту супраць гэтай здрады многія генералы і афіцэры падалі у адстаўку. Якуб жа вырашыў застацца ў арміі. Ён лічыў, што,такім чынам зможа прынесці болей карысці ў змаганні за незалежнасць роднай зямлі. У 1793 годзе ён вяртаецца ў Вільню. Аднаўляе дзейнасць інжынернага корпуса. Кіраўніцтву падаецца, што ён цалкам аддадзены новым ўладам. Праз пэўны час яго нават прызначылі сакратаром Вайсковай камісіі Вялікага княства Літоўскага. А між тым Ясінскі ў гэты час захапіўся ідэямі якабінцаў. Ён марыў аб барацьбе не толькі за аднаўленне незалежнасці радзімы, але і за вызваленне сялян ад прыгону, за змяненне сацыяльнага ладу. Ён увайшоў у склад нелегальнага згуртавання, якое займалася зборам зброі, ваеннай амуніцыі, боепрыпасаў, пошукам новых членаў - карацей, падрыхтоўкай да паўстання. Якуб унёс у дзейнасць гэтага згуртавання вопыт канспіратыўнай дзейнасці масонаў, з якімі быў дасканала знаёмы. Існуе нават думка, што ён сам з'яўляўся членам адной з варшаўскіх масонскіх ложаў. З цягам часу Ясінскі ўзначаліў згуртаванне, ў якое ўвайшоў. Пад яго кіраўніцтвам яно стала больш арганізаваным. Падзялялася на асобныя дзесяткі. Іх кіраўнікі прызначаліся самім Ясінскім. Аднак і яны не ведалі, хто стаіць на чале ўсёй справы, бо падтрымлівалі сувязь толькі з яго намеснікамі. Аб ролі Якуба ведалі толькі гэтыя намеснікі ды некалькі надзейных сяброў.

Тым часам у Варшаве сфармаваўся цэнтр паўстання. Ад яго ў Вялікае княства Літоўскае для больш дакладнага вызначэння абстаноўкі і для планавання сувязей з мясцовымі нелегальнымі суполкамі быў пасланы жыхар Вільні стольнік старадубскі П.

Грацман і пасля гэтага наведвання стольнік найбольш адзначыў сярод віленцаў менавіта Ясінскага, які "цэлы гарнізон Вільні мог узначальыь". Бедалага і не ведаў, што той, каго ён так хваліў, пазнаёміўся з яго жонкай Тэкляй з Патоцкіх і закахаўся ў яе, а тая адказала Якубу ўзаемнасцю. Справа ў тым, што гэтая жанчына не мела шчасця ў шлюбе і спадзявалася знайсці ў жыцці з новым знаёмым спакой і шчасце. Яна пачала шукаць магчымасць развесціся, аднак з пачаткам паўстання адклала гэтую ідэю.

Паўстанне пачалося ў Польшчы. Вельмі хутка яго полымя перакінулася на Літву і Беларусь. Да ранку горад быў у руках паўстанцаў. Узначаліў выступленне Ясінскі. Для кіраўніцтва паўстаннем і грамадскім жыццём ён стварыў Найвышэйшую літоўскую раду. 24 красавіка абвясціў акт аб закліку жыхароў Беларусі і Літвы да паспалітага рушэння. Даведаўшыся аб яго намерах адносна адмены прыгону, да паўстання далучыліся сяляне. Аднак ідэі Якуба выклікалі незадавальненне сярод колаў, якія кіравалі ў Польшчы. Варта заўважыць, што дзякуючы намаганням Якуба і яго прыхільнікаў, а таксама аддаленасці ад Варшавы, планы мясцовых паўстанцаў былі больш радыкальнымі, чым у Польшчы. Сам Ясінскі, трэба паўтарыць, выступаў за адмену прыгону і звяржэнне самаўладства. Прыкладам для яго была рэвалюцыйная Францыя. Ён лічыў неабходным абавязковае спалучэнне барацьбы за незалежнасць з сацыяльнай рэвалюцыяй, са змаганнем за роўнасць усяго насельніцтва краю. Зразумела, што гэтыя ідэі не маглі прыйсціся даспадобы тым кіраўнікам паўстаня, якія выступалі супраць усялякіх сацыяльных зменаў. Узніклі нават падазрэнні, што Вялікае княства Літоўскае імкнецца аддзяліцца ад Польшчы. Польскія колы адразу ж пачалі дзеянні па адхіленні Якуба ад кіраўніцтва.

Шэраг памылак быў дапушчаны і ў Вільні. Ясінскага прызначалі часовым галоўнакамандуючым у Літве (да ўстанаўлення сувязей з Касцюшкам), аднак тут жа былі вызначаны тры чалавекі - Я.Казёл, Я. Несялоўскі, Р. Гедройц, якія разам з ім павінны былі распрацоўваць аперетыўныя планы дзеянняў. На першых этапах барацьбы паўстанцы дабіліся перамогі. Аднак шэраг іх памылак, а галоўнае, памылкі Касцюшкі перакрэслілі яе. Той надаў Якубу чын генерал-лейтэнанта, аднак пазбавіў пасады галоўнака-мандуючага. Прызначыў камандзірам першага корпуса, а два іншых аддаў Сапегу і Хлявінскаму. Вярхоўнакамандуючым быў прызначаны генерал М. Вяльгорскі, які вылучаўся поўнай адсутнасцю ваенных здольнасцей і аўтарытэту. Фактычна кожны паўстанцкі камандзір пачаў дзейнічаць самастойна.

Ясінскі імкнуўся растлумачыць Касцюшку недарэчнасць гэтай сітуацыі спачатку ў лістах, потым выехаў у Варшаву сам, але нічога дабіцца не змог. Там, у Варшаве, і скончылася яго жыццё. Генерал - лейтэнант Якуб Ясінскі загінуў пры абароне прыгарада Варшавы - Прагі.

Перадрук артыкула гісторыка Міколы Багадзяжа з газеты "Культура" № 42 ад 8-14 лістапада 1995 г.

# ПАД ЧАРНОБЫЛЬСКІМ ПОПЕЛАМ

У гісторыі Беларусі было мноства юбілеяў. Адны навязвалі народу, іншыя людзі пазначалі на патаемных календарах, адзначалі і святкавалі іх таксама па-рознаму. З'явіўся яшчэ адзін юбілей. Сумны, жахлівы, які не схаваць, бо ад яго баліць, баліць кожнаму жыхару Беларусі, хоць паводле афіцыйных звестак датычыцца ён толькі кожнага пятага жыхара краіны (2,1 млн. чалавек жыве сёння ці жылі на забруджаннай Чарнобылем зямлі). 10 гадоў прайшло з той жахлівай красавіцкай ночы 1986 г. , а боль не аддаляецца, а, здаецца, наступае са страшэнай сілай на кожнага. Да гэтага юбілею і даведнік "Чарнобыль", што толькі выйшаў у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя" імя П. Броўкі. У кнізе выкладзены важнейшыя аспекты вынікаў Чарнобыльскай катастрофы, асвятляюцца экалагічныя, сацыяльна-эканамічныя, дэмаграфічныя і медыцынскія аспекты, пытанні захавання гісторыка-культурнай і духоўнай спадчыны ў пацярпелых раёнах, навукова-даследчая дзейнасць, звязаная з паслячарнобыльскімі праблемамі, міжнароднае супрацоўніцтва па пераадоленні наступстваў гэтай трагэдыі. Аўтары артыкулаў – вядучыя спецыялісты краіны па азначаных праблемах. Энцыклапедычны даведнік "Чарнобыль" пра нашу незагойную рану, якая, (о,жах!) можа застацца ў спадчыну дзецям, унукам, тым хто будзе жыць (калі будзе) на гэтай зямлі ў 3-ім тысячагоддзі. Гэта кніга - помнік тым, хто "тараніў" палаючы рэактар, хто ахвяраваў сваім жыццём, але гэта і помнік тым, хто запэўніваў, што нічога страшнага няма, што бяда ў нас не бяда, а так, няма пра што і казаць.

Пагартайце кнігу. Яна не прынясе вам палёгкі, хоць і ілюстравана вельмі добра, не, выбачайце, жахліва ілюстравана. Слёзы самі набягаюць, але трэба яе гартаць, чытаць і думаць. У ёй Чарнобыль без перабольшванняў.

Чарнобыль "праславіў" Беларусь на ўвесь свет і могільнікам вёсак на забруджаннай радыенуклідамі тэрыторыі – каля 70 вёсак ужо пахавана і больш за 200 яшчэ будуць пахаваны.

Кніга крычыць, заве на дапамогу. Супраць бяды можна змагацца толькі разам. І дзякуй Богу, што чуюць голас з Беларусі добрыя людзі на Зямлі. Як могуць, дапамагаюць лекамі, прымаюць да сябе на аздараўленне нашых дзетак. У кнізе ім старонкі удзячнасці!

Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў. Яна будзе карысная спецыялістам і ўсім, хто хацеў бы мець абагульненую інфармацыю пра вынікі Чарнобыльскай катастрофы. Тыраж кнігі 5 тыс. экз. Чытайце, думайце, каб не дапусціць нам новых катастроф.

"Ратуй нас, Божа!" – гэта назва сачынення вучаніцы Калінкавіцкай школы № 6 Таццяны Акулевіч. "Які жах, – піша

дзяўчына, – успамінаць цяпер усё гэта і працягваць жыць сярод стронцыю і цэзію..."

Л.М. Драбовіч

## СЛАВУТЫ БЕЛАРУСКІ ГІСТОРЫК

Мікалай Ермаловіч нарадзіўся 29 красавіка 1921 г. ў вёсцы Малыя Навасёлкі Койданаўскай воласці Мінскага павета. Бацькі - Іван і Стэфанія працавалі на зямлі. Першай у іх сям'і нарадзілася Марыя (цяпер ужо не жыве), затым Мікалай, Лявон і Валянцін.

Мікалай у 1938 годзе скончыў Дзяржынскую СШ і тады ж паступіў у Мінскі педінстытут на адзяленне мовы і літаратуры, дзе да пачатку Вялікай Айчынай вайны скончыў тры курсы. З-за дрэннага зроку ад вайсковай службы быў вызвалены. Эвакуіраваўся і працаваў настаўнікам рускай мовы ў вёсцы Лабаскі Мардоўскай АССР (1941-43). Наркам асветы БССР накіраваў М. Ермаловіча на працу ў вызваленныя ад фашысцкай акупацыі раёны Беларусі. У 1943-44 гг. працаваў інспектарам райана ў г.п. Сураж Віцебскай вобл., потым завучам у сярэдняй школе Дзяржынска. У 1946 г. аднавіў вучобу ў педінстытуце. Пасля заканчэння яго быў накіраваны ў Маладзечанскі настаўніцкі інстытут, дзе да 1955 г. выкладаў беларускую літаратуру. У 1955-57 гг. загадчык педкабінета абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў (Маладзечна). У1957 г. выйшаў на пенсію ў сувязі са значнай стратай зроку.

Пачаткам творчай дзейнасці М.Ермаловіча быў вершаваны водгук на смерць Максіма Горкага, змешчаны у раённай газеце "Ударнік Дзяржыншчыны" 22 чэрвеня 1936 г. Сталай літаратурнай працай займаецца з 1948 г. Друкаваўся ў Маладзечанскай абласной газеце, альманаху "Нарач", газетах "Звязда", "Голас Радзімы", "Літаратура і Мастацтва", часопісах "Полымя", "Неман", "Маладосць", навуковых зборніках. Першую кніжку, прысвечаную сувязям У. І. Леніна з Беларуссю (Дарагое беларусам імя), выдаў у 1970 гг. (у 1980 перакладзена на англійскую мову). Пяру М.Ермаловіча належаць артыкулы пра Ф. Багушэвіча, Я.Лучыну, Я. Купалу, Я. Коласа, А. Гурыновіча, К. Каліноўскага.

Мікалай Іванавіч з 1957 працуе над даследаваннем гісторыі Беларусі. Ён вывучыў летапісныя крыніцы і ўсе даступныя матэрыялы, на падставе якіх вызначыў месцазнахожанне летапіснай Літвы ў верхнім Панямонні ("Дзе была летапісная Літва?", 1969), абгрунтавана абверг версію пра заваёву беларускіх зямель у 13 ст. літоўцамі, вызначыў Навагрудак як цэнтр утварэння і сталіцу ВКЛ ("З гісторыі Навагрудка", 1972; "Па слядах аднаго міфа", 1989, 2-е выданне,1991), дэталізавана падаў гісторыю развіцця са старажытнах

часоў да канца 14 ст. ("Старажытная Беларусь: Полацкі і Навагрудскі перыяды", 1990, Дзяржаўная прэмія Беларусі імя К. Каліноўскага 1992; "Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд", 1994). Публікацыі М.І. Ермаловіча па старажытнай гісторыі Беларусі былі з радасцю сустрэты патрыётамі Бацькаўшчыны. Некаторыя выкладчыкі ў школах і інстытутах, абыякавыя да мінуўшчыны і сённяшняга стану народа Беларусі ўбачылі ў выніках працы Міколы Ермаловіча лішнюю турботу: трэба пераглядаць збуцвелыя канспекты, непатрэбнымі акажуцца завучаныя на памяць цытаты "славутых вучоных, класікаў" пра тое, што балты заваявалі беларускія землі. Ваяўнічыя ворагі ўсяго беларускага з кафедраў, друкаваным словам накінуліся на Міколу Ермаловіча, супроць яго доказаў, што беларусы не скарыліся ворагам, развівалі сваю эканоміку і культуру у той час, калі вялікія і шматлюдныя суседнія княствы плацілі даніну шмат дзесяцігоддзяў. Вядома, што збіраючы даніну для хана Залатой Арды, рускія князі-зборшчыкі немалую частку грошаў клалі і ў сваю торбу-каліту.

Беларускія татары з цікавасцю чыталі і чытаюць публікацыі Мікалая Іванавіча Ермаловіча. У яго кнізе "Па слядах аднаго міфа" (перавыданай у Менску ў 1991 г.), на старонках 50-53 сказана, што Магільнянскай бітвы і Крутагорскай бітвы 1274 года на землях Беларусі не было, хоць сутычак Беларуска-Літоўскай Дзяржавы з татарскамі атрадамі на працягу стагоддзяў было нямала.

Чытачы "Байрама" зычаць дарагому Мікалаю Іванавічу Ермаловічу добрага здароўя і плённай працы на карысць беларускага народа на карысць усіх тых, каму Беларусь - Бацькаўшчына

Мемуарная старонка

## УДЗЕЛЬНІК ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ БРАНІСЛАЎ АЛЕКСАНДРОВІЧ

Мы жылі на хутары Брэхаўка, непадалёк ад Кальварыі - ускраіны Менска. Бацька хацеў мець добрую гаспадарку. Сабраўшы грошы ён прадаў хутар і купіў маёнтачак недалёка Фаніпаля, за 20 вёрст ад Менска. У засценку, а называлі яго Багатэлька, акрамя нас жылі яшчэ дзьве сям'і, Яны мелі па 20 дзесяцін зямлі, а ў нас - 40 дзесяцін. Там быў добры дом, гаспадарчыя пабудовы, у тым ліку вялікае гумно. Бацька купіў малатарню, веялку, жняярку, касарку, сячкарню і іншае. Вядома, былі коні і добрыя дойныя каровы. Кожны дзень хлопец-работнік вазіў у Менск малако і там прадаваў перакупшчыку, а ён ужо людзям. Была у нас яшчэ дзяўчына-работніца, бо маці з чатырма дзецьмі не магла справіцца з работай.

Пачалася вайна з немцамі. Бацьку мабілізавілі, але спачатку ён быў пасланы служыць на чыгунку, на Сызрана-Вяземскую дарогу.

Калі фронт наблізіўся да Менска, бацька напісаў ліст, у якім раіў для жонкі: “Ліма, здай у арэнду гаспадарку, што можна вязі з сабою, а астатняе прадай”. Маці так і зрабіла, паехаўшы з намі на ўсход. Спачатку жылі мы не так і кепска, але пачалася рэвалюцыя. Каб пракарміць сям'ю, маці наймалася на сялянскую працу, якая ей была добра знаёмая. Брала мяне з сабою ў поле, калі было жніво. Затым здарылася вялікая бяда. Людзі гінулі ад хваробы. Маці таксама захварэла, і хоць памясцілі яе ў шпіталь, вельмі стараўся доктар, але хутка памерла. Засталіся мы адны, бо бацька быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію і ваяваў недзе ў Сібіры з Калчаком. Наш сусед здаў нас у дзіцячы прыют (так тады называлі дзіцячы дом).

У 1921 г. вярнуўся з вайны бацька і знайшоў нас. Ён нават нейкі час працаваў загадчыкам гаспадаркі ў гэтым прыюце. Але хацелася вярнуцца на радзіму. Адразу мы не вярнуліся ў Багатэльку, бо ў Менску былі палякі. Толькі ў 1922 г. мы дабраліся дадому. Нам нашу зямлю і маёмасць усю не аддалі, бо акрамя арандатара пасяліўся яшчэ яго стрыечны брат. Дык зямлю падзялілі на тры часткі, далі нам каня і карову. У 1924 г. бацька памёр. Было гэта зімою і я павёз быцьку ў Менск, каб пахаваць на мізары. Мне дапамаглі радня-татары. Там бацька і спачываў, пакуль не зруйнавалі ў Менску нашы могілкі. Жылі мы без маці і бацькі на зямлі, я адслужыў у войску, быў сапёрам. Пасля пачалася калектывізацыя. Забралі ў нас каня, карову, забралі збожжа, бо ўладам здалося, што дабра ў нас занадта многа. Падумаў я, што трэба некуды падацца ў іншае месца. Знаёмыя парадзілі мне паехаць на Уздзеншчыну, там жывуць татары. Я так і зрабіў. Уладкаваўся на працу на спіртзавод. Работа была цяжкая, але я быў малады, сіла была. Праз некалькі месяцаў перавялі мяне ў другі цэх, спачатку памочнікам, а затым і заторшчыкам. Тут ужо патрэбны былі не толькі сіла, але пільнасць і кемлівасць, бо лёгка было загубіць дрожджы і тады цэлы затор гінуў, спірт не атрымаўся, а гэта разглядалі як шкодніцтва. Толькі ў мяне ішло ўсё добра і з цягам часу далі накіраванне на вучобу на тэхнолага. Я раней ўжо расказваў, як пазнаёміўся і пабраўся з Галінай Якубоўскай. Успаміналася яшчэ, як у пачатку вайны зайшлі ў наш дом чырвонаармейцы. Ужо каля нашай мясцовасці былі немцы. Салдаты, відаць, выходзілі з акружэння, але дзе свае - яны не ведалі. Папрасілі мяне даць ім цывільную вопратку. Я што ў мяне было аддаў ім. Перапрануліся яны, а іх абмундзіраванне я схаваў, таксама і наган, які яны мне пакінулі. Даў салдатам у рукі граблі і вілы, каб пад выглядам цывільных людзей дайшлі да лесу. Ну, яны і пайшлі, а які іх лёс, я не ведаю. Толькі не скончылася для мяне ўсё добра. Сусед, нават далёкая радня, бачыў, як заходзілі ў маю хату салдаты, а выйшлі ўжо ў нашай вопратцы. Значыць, вопратка, а можа і зброя засталіся тут. Па яго падказцы паліцаі рабілі ў нашай хаце вобыск. Перарылі ўсё, білі мяне, каб аддаў абмундзіраванне і зброю, але не знайшлі, бо Галя мая добра схавала, а наган кінула ў вядро і прыкрыла мокрай анучай, пранёсшы яго перад самым носам

паліцаяў, затым кінула ў ваду. Збіраўся пасля я яго пашукаць, але не да таго было. На вайне хапала мне клопату спраўляцца з кулямётам.

Запісаў І. Канапацкі

## У НАС ПЫТАЮЦЬ, З НАМІ РАЯЦЦА
## НАМ ДАЮЦЬ ПАРАДЫ

Алі Мухля з Менска звярнуўся да рэдакцыі "Байрама" з просьбай знайсці і перадрукаваць у штоквартальніку гісторыю пра Якуба Ясінскага, якую ён у спешцы прачытаў у спадарожніка, калі вяртаўся з Масквы дамоў у Менск. Газета гэта - "Культура". А яшчэ яму ахвота даведацца пра А. Баркоўскага, які друкуе цікавыя звесткі, што датычацца татараў.

З вялікім задавальненнем выконваем Вашыя пажаданні, Алі. Артыкул Міколы Багадзяжа, надрукаваны ў газеце "Культура" мы са згоды аўтара змяшчаем у гэтым нумары "Байрама". Ібрагім Міскевіч з Ляхавіч пытаецца, хто такі А. Баркоўскі? Мы папрасілі Алеся Баркоўскага напісаць некалькі радкоў пра сябе. Вось яны: " Бацька мой - Анатоль, Маці - Зіна з роду Камлюкоў, магчыма мае недзе ў радні продкаў-татар. Нарадзіўся я 25 жніўня 1953 г. у пасёлку Асятрова, на рацэ Лена, каля Усць-Кута Іркуцкай вобласці. З 5-га па 10-ты клас вучыўся ў Койданаўскай СШ №2. У 1973 г. скончыў Якуцкае рачное вучылішча. Працую зменным капітанам-механікам у Якуцкім рачным порце. Маю харошую жонку Таццяну Анатольеўну, дачку Анастасію-Гражыну, сыноў Яна і Ягора".

Мусульманка з Барысава пытае— "Сын яшчэ не служыў у войску, а ўжо хоча пабрацца з дзяўчынай. Толькі я баюся, што здарыцца тое, што атрымалася з сям'ёй майго пляменніка. Узяў ён жонку-беларуску, а дзеці прыходзяць з садка ў слязах, бо іх дражняць тым, што яны "татарскае іга". Вось так жа будзе і з маімі ўнукамі. Магчымая нявестка разумная, прыстойная, але лепш было б, каб сыну трапілася татарка."

Што тут можна параіць?! Хіба што толькі тое, каб маці навучыла свайго сына паважаць мусульманскую веру, маліцца па-мусульманску, бо нявестка-беларуска, калі тое здарыцца, наўрад ці будзе выхоўваць яе ўнукаў у мусульманскай веры. А наконт таго, што дзеці будуць дражніць унукаў, то тут ужо нічога не зробіш, трэба дзяцей загартоўваць, бо прычына заўсёды знойдзецца, каб абразіць чалавека: то вочы вузкія, то вушы вялікія, то ногі тонкія, то акуляры носіць, то гук "р-р-р" не вымаўляе.

Мусульманка Асэя з Мядзельшчыны выказала такую думку: "У нашай старане ўжо амаль што няма маладых людзей нашай веры, а старэйшыя паміраюць. Застаюцца пустыя двары. Хочацца, каб купілі забудовы, агароды і сады татары. Можа б свой татарын-мусулдьманін хоць бы раз на год прыйшоў на мізар, да магілы супляменніка і памаліўся за яго душу. Мая бабуля калісьці расказвала,

што да рэвалюцыі, ды і да 1939 г. так і было, бо стараліся, каб татарская зямля заставалася ва ўладанні татарына. Дык можа праз "Байрам" паведамляць, дзе прадаецца татарскі дом. А мясціны ў нас харошыя. Няхай бы куплялі гэтыя хаты татары".

Сумныя весткі прыйшлі ў рэдакцыю кзартальніка "Байрам": 9 студзеня 1996 г. на 82-м годзе жыцця памёр у Ляхавічах мусульманін - Якуб Захаравіч Мурзіч. Ён ведаў мусульманскія абрады, звычаі, чытаў Хамаіл і Кур'ан. Да яго звярталіся мусульмане, калі стваралася маладая сям'я, калі азанілі дзіця - давалі імя. Да яго звярталіся за дапамогай у цяжкую хвіліну. Засталіся дачка Альжуня, сыны Фейсал, Эмір, Алік.

10 студзеня 1996 г. ў Клецку на 93-м годзе жыцця памерла старэйшая мусульманка - Аміня Алееўна Якубоўская з Александровічаў. Яна была добра навучоная па-мусульманску, выпела (прачытала) 21 раз рэчытатывам Святы Кур'ан. Засталіся дзеці - Бекір, імам Гданьская мячэці, Якуб, які жыве ў Паставах, Алі - жыве ў Клецку, дочкі Джаміля і Галя, якія жывуць ва Уздзе.

Даруй ім, Аллаг, Рай Светлы.

Яўген ГУЧОК

---

ЧАЛАВЕК

(не так, як дрэва, збажына ці рэчка...)
Ці ні з якім скандалам у глыбіні Сусвету
тут звязана з'яўленне
Чалавека?

***

Чалавек закіпае,
Каб потым
Скіснуць

***

Утульная месцейка чалавек
Для для злачыннасці, здрады...
і нібы кахання.

***

Да бедстваў стыхійных Зямлі
Дадаткам, прыбаўкай
Прыйшоў чалавек.

***

Зямля яго цягне сабе,
А Неба–сабе,
А ён паміж імі - бы пыл, што нясецца ветрам.

***

Няма ў ім руху ні ўперад ні ўзад,
А тое, што мае, -
Усяго амплітуда.

***

Зачынены з трэскам
Сам у сабе,
З сябе ён ніяк не вылазіць.

***

Ёсць нейкі вузел у чалавеку,
Што не дае яму расці
У бок бясконцасці, у неба бок.

***

Увесь час па коле ходзіць чалавек
І размінаецца ўвесь час
І з Богам і з самім сабой.

***

Цямніць і зашывацца любіць чалавек,
А вось прад Богам
Усё жыццё яго - навідавоку.

***

Палонны вачэй уласных,
Уласнага слыху
І, вядома, уласнай любві.

***

Шуміць заўсёды чалавек,
Але не так, як дрэва,
Як збажына ці рэчка.

***

Адзін чалавек ...
А дзе яго сатаварышы,
Настаўнікі, вучні, іншы хто?

***

Пры змроку жыве чалавек...
Вось толькі пытанне:
вячэрнім ці раннім?

***

Ні з Сонцам у дуэце,
Ні з зоркамі ў хоры
Шчэ не спяваў пакуль чалавек.

***

Любой гісторыі, любой падзеі камень адвярні -
І там расплюшчанага
Убачыш чалавека.

***

Бяда яго ў тым,
Што не з свабодай хоча быць ён,
І на свабодзе...

***

І ўсё ж, шкада,
Шлях чалавека ад калыскі да труны
Ні ў чым у вяках ніколі не змяніўся.

***

Калі ў свет іншы кладка - чалавек,
То кладка тая
Надта ж хісткая і коўзкая.

***

Ва ўсім, што вытварае чалавек,
Здаецца, патаемны ёсць
Сааўтар.

## КРЫМСКАТАТАРСКА - БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

1500 слоў і словазлучэнняў ад дзядзькі Ісмаіла Меметава

### М

| Крымскататарскае слова | Беларускае слова |
|---|---|
| Маабет | спакойна, мірна, мірны |
| маале | квартал, раён (гарадскі) |
| маалий | мясцовы |
| мааль | час |
| маариф | адукацыя, асвета |
| мавы | блакітны, сіні |
| макгеме | суд |
| магъаз | падвал, склеп, сутарэнне |
| магъданоз | пятрушка (расліна) |
| мадде | матэрыял, прадмет, апетыт |
| маден | метал, мінерал |
| мазун | сумны |
| маиет | сутнасць |
| майсыс | травень, май |
| майышыкъ | сагнуты, скрыўлены |
| макъам | мелодыя |
| макъас | нажніцы |
| макъсад | мэта |
| мал (эшья) | выраб |
| мал-мульк | гаспадарка |
| малюмат | звесткі |
| маматеке | дзьмухавец, адуванчык |
| мана | сэнс |
| мания | перашкода |
| манзуме | паэтычны твор |
| мантар | грыб |
| март | сакавік |
| марум | пазбаўлены |
| маса | стол |

| | |
|---|---|
| масал | казка |
| масал башы | прымаўка, прыказка |
| масраф | расход |
| масюм | невінаваты |
| матбаа | друкарня, тыпаграфія |
| махсул | прадукт, выраб |
| махсус | спецыяльна |
| машалла | малайчына |
| мевзу | тэма |
| медени | культурны |
| медениет | культура |
| меджбуриет | абавязацельства |
| мезлум | прыгнечаны, забіты |
| мейвалар | садавіна, фрукты |
| мейдан | плошча, пляц |
| мектеп | школа |
| мектепке къадар | да школы |
| мектуб | ліст, пісьмо |
| мелевше | фіялка |
| мемлекет | краіна |
| мемнун | удзячны, задаволены |
| мен | я |
| мени, меним | мой |
| меним | свой |
| менимсемек | зразумець, засвоіць |
| менфий | адмоўны |
| мераба! | добры дзень! здароў! |
| марабанчыз! | добры дзень! (да старэйшага, ці ў множным ліку) |
| меракъ | інтарэс, цікавасць |
| меракълы | цікавы |
| мерамет | дабрыня, міласэрнасць |
| мерджан мелевшеси | незабудка |
| мертебе | чын, сан, становішча |
| меселе | задача, праблема |
| месафе | адлегласць |
| меселля | напрыклад |
| месулиет | адказнасць |
| метр | метр |
| мешут | папулярны, знакаміты |
| мешгъулиет | заняткі, практыкаванне |
| микъаддес | святы |
| милли | нацыянальны |
| миллиметр | міліметр |
| миллион | мільён |
| мимар | архітэктар, дойлід |

| | |
|---|---|
| мимарджылыкъ | архітэктура |
| мнда | сюды, тут |
| мндан | адсюль |
| министр | міністр |
| министерлик | міністэрства |
| мис | парфума |
| миявкуш | сава |
| мойса | ярмо |
| мор тал | вярба ломкая |
| муаббет | у згодзе, дружна |
| муавин | намеснік |
| мубарек | святы |
| мудафаа | абарона, ахова |
| муддет | тэрмін, срок |
| муджизе | цуда, дзіва |
| мудир | загадчык, дырэктар |
| мудюр | начальнік |
| музакере | абмеркаванне, перамовы |
| муим | важны |
| мукъайт олмакъ | быць асцярожным |
| мукъайи ол | будзь асцярожны |
| мукъайтлы | уважлівы |
| мукаддеме | уводзіны, прадмова |
| мукъаесе | параўнанне, аналогія |
| мулет | срок, тэрмін |
| муляим | ласкавы, пяшчотны |
| мумкунъ | можна |
| мумкунъ дегиль | нельга, нязгодны |
| мунасебет | адносіны |
| мураббие | выхавацель |
| муреккеп | складзены |
| мусабакъа | спаборніцтва |
| мусави | раўненне, роўны |
| мутлакъа | абавязкова |
| мухтерем | паважаны |
| мшыкъ | кот |
| мшычыкъ | кацяня |
| мушмолла | мушмула |
| муштерек | агульны |
| муэлиф, муэллиф | аўтар, укладальнік |
| мыкъ | цвік |
| мырза | шляхціц |
| мыс | парфума |
| мысырбогъдай | кукуруза |
| мыштлакъ | абавязковы |
| мых | цвік |

| | |
|---|---|
| мышыкъ нанеси | каціная мята (расліна) |
| мышыкъ отлы | валяр'ян (расліна) |

Н

| | |
|---|---|
| налог | падатак |
| намлы | вядомы, знакаміты |
| намус | гонар, годнасць |
| нане | мята |
| нар | гранат |
| нарагачы | гранатавае дрэва |
| нарат | елка |
| наргюз | падснежнік, нарцыс |
| насиат | павучанне, настаўленне |
| насыл, насыл экен | як, які, якісьці |
| насыл этип? | якім чынам? |
| не | і, што (саюз), што (займеннік) |
| не кадар? | колькі? |
| не учюнь? | чаму? |
| небатат | расліна, флора |
| неден | з чаго, чым |
| незакет | далікатнасць |
| незетли | смачны, прыемны |
| незетин бакъмакъ | каштаваць |
| неучунь | чаму, дзеля чаго |
| немседже | нямецкі |
| несиль | пакаленне |
| несир | проза |
| нетидже | дасягненне |
| нефес | дыханне |
| низам | парадак, дысцыпліна |
| нилюфер | лілія, лотас |
| нокъта | кропка |
| нохут | гарох |
| ноябрь | лістапад |
| нусха | экземпляр, нумар |
| нутукъ | выступленне, прамова |

О

| | |
|---|---|
| о вакъат | тады, у той час |
| о заман | тады, у тыя часы |
| о къадар | столькі |
| област | вобласць |
| обюр | чараўніца, ведзьма |
| огге | уперад |
| оги баба | вотчым |
| оги ана | мачыха |
| огий | народны |
| оглан | хлопец |

| | |
|---|---|
| огланчыкъ | хлапчанё |
| огретмек | навучанне, вучыць (чаму небудзь) |
| огуз, огюз | вол |
| огют | павучанне, настаўленне |
| огълум | сын, сынок |
| оглы | сын |
| ограшмакъ | займацца |
| ода | пакой, зала |
| одаман | будаўнік |
| одеме | аплата |
| оджа | настаўнік |
| одеколон | адэкалон |
| одеял | коўдра |
| однан башкъа | інакш |
| одун | дровы |
| озен | рака |
| озенчык | ручай |
| озинъи дуймакъ | самаадчуванне, пачувацца |
| озум | сам |
| озюме | сябе, ›абе |
| озюнъи тутакъ | паводзіць сябе |
| озюнъи охшы | паводзіць сябе |
| ой | ай |
| ойланды | адвярнуцца |
| ойле | асаблівы, так, такі |
| ойле олмакъ | здарыцца |
| ойле чыкъты | аказацца |
| ойлемп | або |
| ойма | разьба, гравіроўка |
| ойн | гульня |
| ойнак | жвавы |
| ойнамак | гуляць |
| оксуриекъ | кашляць |
| оксюз | сірата |
| оксюз тал | вярба плакучая |
| оклукъ | калчан |
| окъумакъ | чытаць, навучанне |
| окъумыш | пісьменны |
| окъутмакъ | вучыць |
| октябрь | кастрычнік |
| окъунъыз | чытайце, вучыцеся |
| ол макъ | станавіцца |
| ола биле (мумкюнъ) | магчыма |
| оладжагъы | будучы (які будзе) |
| олджамакъ | будзе |

| | |
|---|---|
| олар | яно, яны |
| оларнынъ ичинде | удавацца, атрымалася |
| оларнынъ арасында | паміж, сярод іх |
| олды | удавацца, атрымалася |
| олмаз | нельга |
| олмакъ (бар) | мець, здарацца, бываць |
| ольдирмек | забіваць |
| ольчемек | мерыць |
| олюм | смерць |
| омюр | жыццё |
| он | дзесяць |
| он башы | камандзір аддзялення |
| ондан | адтуль |
| ондан башкъа | акрамя яго |
| ондан сонъ | пасля яго, затым |
| онынъ янында | каля яго, затым |
| онынъ ичунь | каля яго, каля, блізка |
| онъ да | для, для таго, таму што |
| онъ тарафта | справа |
| онъайтлы | выгодны |
| опмек | цалаваць |
| орду | армія |
| орды | войска |
| орта | сярэдні |
| ортасы | сярэдзіна |
| ортасында | сярод, у сярэдзіне |
| орьтю | абрус, пакрывала |
| орюмчек | павук |
| осмек | расці, вырасці, развівацца |
| от | трава |
| отмек | хлеб |
| отряд | атрад |
| отуз | трыццаць |
| отурак | сядзенне, седала |
| отурмак | сядзець |
| офицер | афіцэр |
| очувалы | злы |
| оюнджакъ | лялька, цацка |

ЗМЕСТ